# НЯСВІЖСКІЯ КАЕТЫ

**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**

**№ 7** **2021 г.**







КЛЯТВЕННОЕ ОБЕЩАНІЕ.









# «Я буду маліцца і сэрцам, і думамі»

***Сяргей Гумілеўскі. Бронза, ліццё.***

# Нясвіжскія каеты



*Гісторыя…*
*Яна шануе кожную асобу,*
*І кожны штрых, і летапіс, і дату...*
Кастусь Жук, Затур'я.

*Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс. Трэці год выдання*

**№ 7 СТУДЗЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ 2021 г.**

## *У НУМАРЫ:*























Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Нясвіжчыны дасылаць іх на E-mail: kajety@list.ru

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў


На правах электроннага рэсурса

Заснавальнік: Нясвіжская раённая арганізацыя Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
kajety@list.ru



АДРАС САЙТА:
http//nslowa.by
http//pawet.net
http//kamunikat.org
http//belkiosk.by

9 друк. аркушаў

Часопіс падпісаны да друку 30.6.2021 г.

# З сутарэнняў дэмантавалі камень з надпісам Адама Міцкевіча



У красавіку ў вёсцы Студзёнкі пад Нясвіжам нарэшце з сутарэнняў дэмантавалі камень з надпісам Адама Міцкевіча, які быў апісаны ў гістарычных мемуарах.

Краязнавец Аляксандр Абрамовіч адзначыў:

- Несумненна, што гісторыя каменя звязана з асобай Адама Міцкевіча, які пабываў на сядзібе колішняй гаспадыні. Яму тут вельмі спадабалася, таму і зрабіў гэты надпіс. Дасціпнае выслоўе пасля было выбіта на камені. А камень гэты - сапраўдная глыба. Дэмантаваў, але ж вельмі складана было гэта зрабіць. Памеры неяк я падлічыў, прыкладна 0,6 куба граніту. Гэта больш за паўтары тоны.

Цяпер камень знаходзіцца ў мяне на сядзібе.

Краязнавец планує размясціць камень Міцкевіча каля сажалак былой сядзібы ў Студзёнках і паставіць яго пад ахову дзяржавы як аб'ект гістарычна-культурнай спадчыны.

Фота Алеся Адамовіча.







# Дырэктарам гістарычна-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" прызначаны Дзмітрый Яшчанка

Дырэктарам Нацыянальнага гістарычна-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" прызначаны Дзмітрый Яшчанка, паведамілі БЕЛТА ў Міністэрстве культуры.

29 красавіка міністр культуры Анатоль Маркевіч прадставіў калектыву дзяржаўнай установы новага дырэктара. Раней Дзмітрый Яшчанка займаў пасаду галоўнага рэдактара газеты "Нясвіжскія навіны".

Анатоль Маркевіч акцэнтаваў увагу на тым, што ў рамках мерапрыемстваў па патрыятычным выхаванні моладзі і ўмацаванні беларускай дзяржаўнасці перад калектывам установы пастаўлены сур'ёзныя задачы па далейшым развіцці аб'ектаў музея-запаведніка, стварэнні новых экспазіцый, рэалізацыі новых праектаў, развіцці турыстычнага патэнцыялу.

Палацава-паркавы комплекс унесены ў спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА, з'яўляецца адной са знакавых мясцін у краіне. Пасля маштабнай рэканструкцыі, праведзенай пры падтрымцы дзяржавы, комплекс стаў сапраўднай пярлінай турыстычнага жыцця рэспублікі.

Аб'ект прыцягвае вялікую колькасць турыстаў не толькі з Беларусі, але і іншых краін. Ні адзін турыстычны маршрут не абыходзіцца без наведвання гэтай ўнікальнай мясціны. І сёння, заступаючы на пасаду, новы кіраўнік прымае на сябе місію па захаванні і прымнажэнні дасягнутых вынікаў, далейшым развіцці замкавага комплексу як візітнай карткі краіны.

***БелТА.***



# З ДУМАЙ ПРА БЕЛАРУСЬ

"Ад прадзедаў спакон вякоў" - назва выставы скульптараў Льва і Сяргея Гумілеўскіх, што дзейнічала ў Дзяржаўным нацыянальным музеі Янкі Купалы (травень-чэрвень 2021 г.). Творчасць гэтых мастакоў, бацькі і сына, трэба называць (не будзе перабольшаннем!) скульптурным летапісам гісторыі беларускай літаратуры. Больш за тры дзясяткі работ розных гадоў змяшчае выстава. Трэць з іх новыя ці тыя, што дагэтуль не экспанаваліся.





Янка Купала і Якуб Колас, Кастусь Каліноўскі і Адам Міцкевіч, Вінцэнт Дунін-Марцін-кевіч і Станіслаў Манюшка, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч, Ларыса Геніюш, Ніл Гілевіч… сышліся тут нібыта на Вялікую Раду з пакутнай думай пра Беларусь.

Колькасць скульптурных партрэтаў Янкі Купалы пераважае. І не таму, што выстава займела пляцоўку ў музеі песняра. Праз жыццё ў Льва Гумілеўскага існавала незвычайна моцнае прыцягненне гэтай асобы. Сын народнага скульптара пераняў бацькавы духоўныя прыярытэты. "Купала ў мяне ад бацькі,- шчыра кажа ён і дадае, - зборнік паэта заўсёды ў яго пад рукой, ці то дома, ці то ў майстэрні". Ды і пешую высокую ўзнагароду (а гэта была Дзяржаўная прэмія) атрымаў Леў Гумілеўскі за велічнае ўвасабленне вобраза народнага песняра (у суаўтарстве). Без гэтага помніка нельга ўжо ўявіць вобраз беларускай сталіцы.

Сузіраючы ў падачы Гумілеўскіх вобразы нашых нацыянальных геніяў, чалавек са шчырай беларускай душой мацаваўся ў сваіх патрыятычных перакананнях, адчуваў сугучнасць сваіх думак і пачуццяў з думкамі і пачуццямі аўтараў і іх герояў, знаходзіў сабе духоўную падмогу.

***Наталля Плакса.***

На здымках:

1. Леў і Сяргей Гумілеўскія. Песняры. 2021. Бронза, ліццё. Экспанавалася ўпершыню.

2. Сяргей Гумілеўскі. Мне сняцца сны аб Беларусі. 2021. Бронза, граніт, ліццё. Экспанавалася ўпершыню.

# НЯСВІЖСКІ ГІСТАРЫЧНЫ КАЛЯНДАР

## *студзень - чэрвень*

**575 гадоў таму назад** (1446 г.) - найбольш ранняе ўпамінанне пра **Нясвіж** у ВКЛ. Вялікі князь ВКЛ Казімір Ягелончык перадаў Нясвіж М.Я. Неміровічу.

**505 гадоў таму назад** (1516 г.) - першыя згадкі пра **Кунасу** - маёнтак у Навагрудскім ваяводстве ВКЛ. Правы на яго М. Пацу пацвердзіў кароль Жыгімонт I.

**445 гадоў таму назад** (1576 г.) у **Нясвіжскай** людвісарні адліта першая партыя пушак і марцір (7 пушак і 2 марціры). У наступным годзе адліты яшчэ 2 марціры. Гэта быў пачатак ліцейнай справы на Нясвіжчыне.

**435 гадоў таму назад** (1586 г.) - **Нясвіж** атрымаў Магдэбургскае права і герб.

**435 гадоў таму назад** (1586 г.) - заснаванне езуіцкага калегіюма ў **Нясвіжы**, адкрыты класы граматыкі, паэтыкі, рыторыкі. Існаваў да 1877 года.

**435 гадоў таму назад** (1586 г.) - першыя згадкі пра **Сейлавічы**, калі Мікалай Радзівіл аддаў Нясвіжскай плябаніі 8 валок зямлі, што знаходзіліся паміж "валок Сейлаўскіх".

**430 гадоў таму назад** (1591 г.) - заснаванне кляштара бенедыкцінак у **Нясвіжы**.



***Герб Нясвіжа, сучасны выгляд***

**395 гадоў таму назад** (1625-1626 гг.) у Нясвіжы жыў **Ян Сарбеўскі -** тэарэтык барока, прыдворны прапаведнік польскага караля Уладзіслава IV Вазы, самы слынны лацінамоўны паэт Еўропы (тытульны ліст антверпенскага выдання Сарбеўскага належыць рабоце Рубенса).

**355 гадоў таму назад** (1666 г.) - першыя звесткі пра Дабравешчанскую царкву ў в. **Кунаса** (самую раннюю на тэрыторыі раёна), якая дзейнічае і сёння.

**315 гадоў таму назад** (1706 г.) - захоп і зруйнаванне **Нясвіжа** шведамі ў ходзе Паўночнай вайны.

**295 гадоў таму назад** (1726 г.) - стварэнне музычнай капэлы Радзівілаў у **Нясвіжы**.

**270 гадоў таму назад** (1751 г.) адкрыта спецыяльная музычная школа (пры **Нясвіжскай** капэле Радзівілаў); дзяцей вучылі іграць на скрыпцы, віяланчэлі, флейце, габоі, фагоце, валторне, трубе, а таксама вакалу.

**120 гадоў таму назад** (1901 г.) - ва ўрочышчы **Альба** заснаваны спіртзавод. Праз 60 гадоў (1961 г.) на базе спіртзавода створаны Завод кармавога біяміцыну, са жніўня 2000 г. завод носіць назву "Нясвіжскі завод медыцынскіх прэпаратаў".



***Дабравешчанская царква ў в. Кунаса, сучасны выгляд***

**95 гадоў таму назад** (1926 г.) створаны **Лявонавіцкі** народны хор з ліку жыхароў вёскі Лявонавічы. Адзін з найстарэйшых самадзейных кадлектываў Рэспублікі Беларусь.Заснавальнікі хору - мясцовы паэт і кампазітар С. Новік-Пяюн і самадзейны кампазітар П. Касач. Разам з хорам быў арганізаваны тэатр, які праіснаваў 10 гадоў, падрыхтаваў і паставіў 21 п'есу.



*Міхась Валько*

**90 гадоў таму назад** (1931 г.) нарадзіўся паэт **Міхась Валько**, аўтар паэтычных зборнікаў, твораў для дзяцей, крытычных артыкулаў.

**85 гадоў таму назад** (1936 г.) - пачатак будаўніцтва шашы-брукаванкі **Баранавічы-Нясвіж**.

**80 гадоў таму назад** (1941 г.) нарадзіўся паэт **Віталь Барадзін**, аўтар зборніка вершаў "Спадчына".

**80 гадоў таму назад** (28 чэрвеня 1941 г.) - акупацыя **Нясвіжчыны** нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**70 гадоў таму назад** (1951 г.) створаны **калгас імя Калініна** на аснове 6-ці невялікіх сельскагаспадарчых арцеляў.

**60 гадоў таму назад** (1961 г.) пабудаваны льнозавод і цукровы завод ў **Гарадзеі**.

**60 гадоў таму назад** (1961 г.) - у вёсцы Затур'я нарадзіўся паэт **Віктар Трусевіч**.



*Віктар Трусевіч*

**40 гадоў таму назад** (26 сакавіка 1981г.) калектыў **калгаса імя Калініна** ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.

**35 гадоў таму назад** (1986 г.) выйшла першая краязнаўчая кніга **К.Я. Шышыгінай** "Музы Нясвіжа".

**30 гадоў таму назад** (1991 г.) скульптар **Леў Гумілеўскі,** які называў Нясвіж сваёй "духоўнай радзімай", атрымаў званне Народны мастак Беларусі.

**30 гадоў таму назад** (1991 г.) знойдзены славянскі курганны могільнік XI - XIII стст. каля в. **Сейлавічы** (33 курганныя насыпы вышынёю 0,6-1,5 м).

**25 гадоў таму назад** (1996 г.) адбыўся I рэспубліканскі фестываль камернай музыкі "Музы Нясвіжа".



*К.Я. Шышыгіна*

**20 гадоў таму назад** (2001 г.) распачала працу ганчарная майстэрня, якая была арыентавана на выпуск сувенірнай прадукцыі.

**15 гадоў таму назад** (2006 г.) - адкрыццё музейнага аб'екта "Кузня".

***Падрыхтавала Станіслава Вальчык.***

*Вітольд Банах*

# РАДЗІВІЛЫ*

## Бурлівыя лёсы слыннага роду

### Пакуты дачкі падскарбія і іншыя шаленствы Радзівілаў ці *Старапольскі пралог*

#### Радзівілаўскае прыніжэнне каралевіча Якуба

Гісторыя берлінска-антонеўскай лініі Радзівілаў распачынаецца ад князя Антонія Радзівіла, які ажаніўся з прускай князёўнай Людвікай з Гогенцолернаў і ад 1796 года займаў пышны берлінскі палац у прадстаўнічай частцы сталіцы. З таго часу гэты старажытны беларускі род меў сваю заходнюю галіну, якая зрэшты праз нядоўгі час прыняла таксама адвечныя радзівілаўскія гнёзды Нясвіж і Алыку. Якраз нашчадкі князя Антонія адыгралі незвычайную ролю ў XIX і XX стагоддзях, і з іхнім удзелам разыгралася шмат цікавых, драматычных гісторый у акрэсе лініі, якая называлася ў перадваеннай літаратуры “берлінскай”, “прускай”, “пруска-берлінскай”.

Аднак маёмасны плацдарм на заходніх крэсах шляхецкай Рэчы Паспалітай займелі Радзівілы на некалькі дзясяткаў гадоў раней, чым князь Антоні пасяліўся са сваёй жонкай у Берліне.




Гэтая гісторыя магла бы пачацца са сцэн з элекцыйнага сойму, які распачаўся 15 траўня 1687 года і меў задачу выбраць новага караля Рэчы Паспалітай пасля смерці Яна III Сабескага. Падчас з’езду, сярод вельмі складанай сеткі прапаноў, інтрыг і звычайнага падбухторніцтва шляхта мела вырашыць, які са шматлікіх кандыдатаў будзе каранаваны на Вавелі. Шляхта прыбыла на выбары ў колькасці 13 тысяч чалавек, і трэба сабе ўявіць гэтае соймавае мястэчка, якое складалася са шляхты, магнатаў, сенатараў, прадстаўнікоў чужых дзяржаў.

Магло падавацца, што лагічным і досыць пэўным кандыдатам будзе першародны сын пераможцы пад Венай, пагромцы турак. каралевіч Якуб Сабескі. Кароль браў першароднага сына на свае ваенныя выправы, давяраў яму рэпразантацыйныя функцыі, стараўся для яго пра спадчыннае княства або карысны шлюб.

Якуб быў, аднак, прыродным няўдачнікам. Спроба давесці яго да шлюбу з Людвікай Каралінай Радзівіл, найбагацейшай жанчынай Рэчы Паспалітай абодвух народаў, закончылася вялікім скан-

* Кніга пра Вітольда Банаха “РАДЗІВІЛЫ. Бурлівыя лёсы слыннага роду” пра недастаткова вядомую на Беларусі “прускую” лінію Радзівілаў выйшла ў Познаньскім выдавецтве “Copyright у 2018 годзе. Тут яна падаецца ў перакладзе Станіслава Судніка. Кніга не ілюстраваная, таму ілюстрацыі для часопіснана варыянту падабірае рэдакцыя. Рэдакцыя робіць і каментары паводле розных крыніц..

далам[1]. Яе першы муж Людвік Леапольд Гогенцолерн (сын брандэнбургскага электара Фрыдрыха Вільгельма) памёр неспадзявана ў 1687 годзе. Кружылі, зрэшты, плёткі, што быў атручаны, чаго не выключала праведзенае ўскрыцце. Падазравалі ў гэтым учынку у т.л. падкаморага Казіміра Людвіка Бялінскага, які меўся такім спосабам "дапамагчы" каралеўскаму сыну. Як было на самай справе, не вядома, але Якуб выбраўся ў Берлін і пазнаёміўся са сваёй кандыдаткай у жонкі. Першыя ўражанні былі абяцальныя. Удава дэкляравала складанне пісьмовай гарантыі шлюбу з Якубам (захаваўся дакумент *"Копія распіскі князёўны Радзівіл, маркграфіні Брандэнбургскай, дадзенай каралевічу Я. Мосці Якубу Сабескаму, што ні за каго іншага замуж не пойдзе, а толькі за яго"*), каралевіч у сваю чаргу падпісаў "асекурацыю веры" для Радзівілаўны, гарантуючы свабоду яе кальвіністкага вызнання. Абмяняліся пярсцёнкамі, правялі паездку за горад, наогул "было вельмі міла", як у лісце да маці выказаўся каралевіч Якуб. Аднак, ледзь ён пакінуў Берлін, з'явіўся іншы канкурэнт Карл Філіп фон Пфальц-Нойбург, які адыграў ролю "нойбургскага Парыса", як яго назвалі ў польскай гісторыяграфіі. Яшчэ 22 ліпеня Людвіка Караліна дэкляравала шлюб Сабескаму, яшчэ 10 жніўня напісала каралевічу чулы ліст і паехала на вячэру ў імператарскае пасольства ў Берліне. Маркіз Жуль дэ Гравеле, які падтрымліваў планы Сабескага, пачаў нешта падазраваць і паехаў за Людвікай у імператарскае прадстаўніцтва, але яго туды не ўпусцілі. Калі б зайшоў, заўважыў бы што "вячэру" суправаджаў шлюб маркграфіні з Карлам Філіпам, а таксама провады маладых на шлюбнае ложка. Дапускалі, што за гэтай інтрыгай стаяла імператрыца Элеанора, жонка Леапольда I Габсбурга.



***Людвіка Караліна Радзівіл***

Прыніжаны Ян III Сабескі хацеў адабраць велізарныя маёнткі вераломнай маркграфіні, разлічваў на тое што шляхта на сойме заступіцца за гонар народа і каралеўскай сям'і. Нічога, аднак, з тых планаў не выйшла. Маёмасць Людвікі Караліны пераняла нясвіжская лінія Радзівілаў, а сойм сарвалі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[1] Людвіка Караліна Радзівіл (27 лютага 1667, Кенігсберг - 25 сакавіка 1695, Бжэг, Апольскае ваяводства) - літоўская меценатка; князёўна з роду Радзівілаў; жонка маркграфа Брадэнбургскага ў першым шлюбе; жонка курфюрста Пфальца ў другім шлюбе. Адзіная дачка і спадчынніца стайніка вялікага літоўскага, князя-магната Багуслава Радзівіла (1620-1669) ад шлюбу з Ганнай Марыяй Радзівіл (1640-1667).

Маці памерла пры родах; у два гады страціла і бацьку, які памёр у 1669 годзе. Выхоўвалася ў Берліне ў сям'і сваякоў - у сям'і курфюрста Брадэнбургскага. Выйшла замуж за маркграфа Людвіга (1666-1687), малодшага сына ад першага шлюбу курфюрста Брадэнбургскага Фрыдрыха Вільгельма. Заўдавеўшы, у 1688 годзе стала жонкай курфюрста Пфальц-Нейбургскага Карла III Філіпа. Жыла ў Берліне, затым у Гейдэльбергу.

Пасля смерці бацькі Багуслава Радзівіла, апошняга па мужчынскай лініі прадстаўніка біржанскай галіны магнацкай фаміліі Вялікага Княства Літоўскага, атрымала ў спадчыну шырокія ўладанні ў Літве і Беларусі - Біржы, Кейданы, Невель, Себеж, Копысь, Слуцкае княства з гарадамі Слуцк, Капыль, Старобін і іншыя маёнткі.

Заступалася ў сваіх уладаннях за кальвіністаў і праваслаўных. Дзякуючы яе сродкам у Слуцку дзейнічала друкарня, пераведзеная з Мітавы ў 1672 годзе. Значныя сродкі выдзяляліся для слуцкіх праваслаўных цэркваў і манастыра. На яе сродкі (12 стыпендый) навучаліся ва ўніверсітэце Кенігсберга выхадцы з беларускіх кальвіністкіх сем'яў. Грашовай падтрымкай для працягу вучобы ў Берліне, Оксфардзе, Франкфурце-на-Майне карысталіся таксама выпускнікі Слуцкай кальвіністкай гімназіі.

Дзеці ад другога шлюбу з пфальцскім курфюрстам Карлам III Філіпам: Леапальдзіна Элеанора Жазэфіна (1689-1693), Марыя Ганна (1690-1692), Лізавета (1693-1728), сын (нарад. у 1695 і памёр у маленстве). *Вікіпедыя.*

# Як аканом маёнтка "Гародзей", штабс-ротмістра, за габрэя прыняў
## *Прыгоды Вікенція Бірулі*

У 1867 годзе 13-ы гусарскі Нараўскі Яго Імператарскай Высокасці вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча полк быў передыслакаваны ў г. Наваградак.

**З гісторыі:**

*Нараўскі 13-ы гусарскі полк быў створаны 23 красавіка 1705 г. у Белгарадзе, як палкоўніка Івана Пястова полк, стольнікам Юр'ем Нялединскім-Мялецкім, з дваран Белгарадскага ўезда.*

*У палка быў Георгіеўскі штандар: незадоўга да пачатку Першай сусветнай вайны шэфам палка быў германскі кайзер Вільгельм II, які наведаў падшэфны полк і, аб'язджаючы вайсковы шыхт гусараў, спытаў, за што палку быў падараваны Георгіеўскі штандар. Прагучаў выразны адказ: "За ўзяцце Берліна, Ваша Вялікасць". Кайзер адказаў: "Гэта вельмі добра, але ўсё ж лепш ніколі больш гэтага не паўтараць!"*

І вось, з 1867 года, гэты полк стаяў пад Наваградкам, пакуль у 1874 годзе ён не быў расквартараваны ў г. Вільні. За гэты час, з 1867 па 1874 год, з адным з афіцэраў палка, а менавіта са штабс-ротмістрам Міхаілам Сямёнавічам Гасе здарылася адна цікавая гісторыя.

22 сакавіка 1871 года, штабс-ротмістр Гасе быў камандзіраваны па справах службы, і яму давялося праязджаць па дарозе з Мірскай паштовай станцыі ў г. Нясвіж. На гэтай дарозе ўначы напалі на штабс-ротмістра два невядомыя яму чалавекі, што ехалі санямі запрэжанымі адным канём. Адзін з іх некалькі разоў крычаў загадным тонам фурману афіцэра спыніцца, і калі фурман па яго загадзе не выканаў патрабавання незнаёмага, то апошні пад'ехаўшы з боку і параўняўшыся з санямі Гасе не толькі нанёс яму абразы словамі, але махаючы пугай пагражаў ударамі.

Пасля штабс-ротмістр Гасе даведаўся, што вінаватыя ў нанясенні яму абраз былі аканом маёнтка Гародзей абшарніка Аляксандра Болтуця - дваровы Вікенцій Варфаламеевіч Біруля і яго работнік Тамаш Крупко; сведкамі ж пры гэтым былі: нясвіжскі 2-ой гільдыі купец Зэлік Разоўскі і фурман Мірскай паштовай станцыі Рыгор Рэдуха.

Але, як адбывалася ўсё на самой справе цікава даведацца з саміх сведчанняў удзельнікаў гэтай гісторыі.

**Сведчанні селяніна Вікенція Варфаламеевіча Бірулі судоваму следчаму 2-ой пляцоўкі Наваградскага павета Троцкаму:**

*"7 июля 1871 года*

*Зовут меня Викентий Варфоломеевъ Бируля, от роду имею 54 года, веры Римско-Католической, на исповеди и у святого причастия бываю, под судом не был, грамотен, крестьянин. Показываю, что возвращался в марте месяце сего года из м. Мир в Городзей вместе с работником своим Фомою Крупко, и нагнал ехавших на почтовых лошадях двух неизвестных мне пассажиров. Моя лошадь, как еще молодая, набегала на их сани, и поэтому я стал просить тех проезжающих, чтобы они позволили мне вперед проехать или чтобы сами скорей ехали; но эти ничего мне не отвечая продолжали ехать впереди, пока на 15-ой версте от Мира я повернул с почтовой дороги в имение. Оскорблений я никому из них не наносил и не знаю имена тех. В последствии я узнал, что эти пассажиры были гусарский офицер и еврей.*

*К сему показанию расписался Викентий Бируля".*

**Сведчанні фурмана Мірскай паштовай станцыі, Рыгора Міхайлавіча Рэдухі судоваму следчаму Аўрамаву:**

*"12 ноября 1871 года*

*Георгий Михайлов Редуха, 33-х лет, веры православной, на исповеди и у Св. Причастия бываю, под судом и следствие не бывал, неграмотен, крестьянин деревни Ледокъ, Ерёмичской воколицы, нахожусь ямщиком на Мирской почтовой станции, находящейся в м. Мир.*

*В марте месяце сего года, не зная которого числа, вечером, часов в семь, я действительно возил с Мирской станции в город Несвиж Штабсъ - Ротмистра Гусарского Нарвского*

*полка Гасса с Несвижским купцом Розовским и в тот день, на дороге, на седьмой версте от м. Мир, нагнал нас эконом имения Городзей Викентий Бируля, ехавший на одной лошади со своим работником. Догнавши нас и поровнявшись с нами, он закричал мне, что бы я свернул с дороги и пропустил его вперед: "Поди прочъ! Поди прочь!" Кричал он, стараясь объехать нас. Тогда г. Гассе взял у меня кнут и ударил им по лошади: "Поди прочь!" закричал опять Бируля и прокричал мне: "Насажал подъ рубель шмать евреев и нехочешь сворчивать с дороги!". Гассе, рассердившись закричал: "Погоди я тебе задам холоду!". Так доехавши до корчмы еврея Левина, около которой Гассе приказал мне остановиться. Бируля тоже остановился, слез с саней и хотел подойти к нам, но Гассе закричал на него: "Я тебе задам холоду! Завтра ты будешь в Новогрудке, и там тебе будет расправа". После того мы поехали, и Бируля за нами и во всю дорогу не произносил ни одного слова. Кроме того, что я сказал вамь, Бируля тогда ничего не говорил и оскорблений г. Гассе не делал; все что говорил он, более относится к г. Гассе, что показывает по справедливости и с темь добавляю, что Бируля был в то время пьян.*

*К сему показания Григория Редуха, а вместо него неграмотного расписался".*

**Сведчанні мешчаніна Нясвіжскай 2-ой гільдыі купца Зеліка Разоўскага судоваму следчаму Завадскаму:**

*"20 октября 1871 года*

*Мещанин г. Несвижа Зеликъ Шмуйловъ Розовский, 38 лет, при Еврейском обряде коей аккуратно исполняю, грамотен, под судом и следствием не был. По делу о нанесении оскорблений Штабс-Ротмистру Гассе экономом им. Городзей я могу объяснить вот что. Это было так. В марте месяце сего года, но какого числа не помню, я и Штабс-Ротмистр Гассе поехали в месте на почтовых лошадях на одной повозке из Мирской почтовой станции в г. Несвиж. Скоро, как мы выехали, из Мира нагнал нас эконом им. Городзей Бируля, который ехал еще с кем-то на одной лошади. Означенный Бируля сначала начал кричать к нашему ямщику "Стой! Стой!", но когда ямщик не обратил на это внимания и не остановился, то он, Бируля, как бы на злость напирал свою лошадь на нашу повозку так, что голова лошади Бирули лежала на нашей повозке между мною и Гассомь, и дошло до того, что нам не возможно было сидеть. Штабс-Ротмистр Гассе видя что Бируля делает это нарочно сказал ему довольно вежливо: "Что вы это делаете, оставьте", но Бируля все так делал своё и сейчас начал ругать Гассе самыми постыдными словами. Назвал его "Ты Сукин сын" и т.п. Кажется, что Бируля кричал на Гассе и по матушке. Наконец он опередил нас и подъехал под корчму отстоящую от Мира около 6 или 7 вёрст, остановился и слез с повозки вместе с другим человеком и не помню кто из них стал на дороге против наших лошадей и задержал нас. В это время Гассе начал убедительно его просить следующими словами: "Оставьте пожалуйста. Чего вы хотите?". То в это раз Бируля обдумался и пустил нас. Всё что я показал справедливо и в том*



КЛЯТВЕННОЕ ОБѢЩАНІЕ.

Я, нижеименованный, обѣщаюсь и клянусь Всемогущимъ Богомъ и предъ Святымъ Его Евангеліемъ въ томъ, что къ которому дѣлу я во свидѣтельство призванъ и спрашиванъ буду, долженъ показать самую сущую правду; неправды же отнюдь ни для дружбы, вражды, родства, корысти, ниже страха ради сильныхъ лицъ не показывать, но такъ справедливо, какъ предъ Богомъ и судомъ Его страшнымъ въ томъ всегда отвѣтъ дать могу; въ чемъ мнѣ суще Господь Богъ душевно и тѣлесно да поможетъ.—Въ Заключеніе же сей моей клятвы, цѣлую слова и крестъ Спасителя моего. Аминь. 187 года дня, по сему клятвенному обѣщанію присягу выполнил

собранныхъ свѣдѣній оказалось

***Клятвеннае абяцанне Рыгора Рэдухі. 1871 год***

*подписался Зеликов Шмуйловъ Розовски".*

16 снежня 1871 года павятовы суд цямячы вышэйпададзеныя акалічнасці гэтай справы, ПАСТАНАВІЎ: селяніна Вікенція Варфаламеева Бірулю, 54 гадоў, рымска-каталіцкага спавядання, на падставе прысяжных сведчанняў і сведкаў, прызнаць вінаватым у прычыненні крыўдаў словамі штабс-ротмістру 13 гусарскага Нараўскага Яго Імператарскай Высокасці вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча палка Гасе; прысуджаны да арышту пры Наваградскай паліцыі на пятнаццаць дзён, аб выніку справы былі абвешчаны штабс-ротмістр Гасе і селянін Біруля, для чаго яны былі выклікаы ў суд праз Наваградскае павятовае паліцэйскае кіраванне.

Аднак гэтая справа мела шчаслівую канцоўку.

24 сакавіка 1872 г., штабс-ротмістр 13-га Гусарскага Нараўскага палка Міхаіл Сямёнавіч Гасе, прасіў Наваградскі павятовы суд не прыводзіць у выкананне свайго рашэння па арышце Вікенція Бірулі і перадаць гэтую справу ў архіў, таму што Біруля папрасіў прабачэння перад ім і, не жадаючы яго пакрыўдзіць, Гасе віну яго дараваў.

На гэтым справа аб нанясенні абраз штабс-ротмістру 13 гусарскага Нараўскага Яго Імператарскай Высокасці вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча палка Гасе аканомам маёнтка Гародзей селянінам Вікенціем Бірулем была скончана.




***Помнік былому аканому Вікенцію Бірулі. Гародзейскія могілкі, 2019 г.***

Дарэчы, на могілках у г.п. Гарадзея і па сёння стаіць помнік былому аканому маёнтка Гародзей Вікенцію Варфаламеевічу Бірулі.

***Аўтарка даследавання: Наталля Апацкая.***

*В. А. Акула*

# На паўднёвы захад ад Мінска

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**НЕЗВЫЧАЙНЫ АБОЗ**

Партызаны карысталіся вялікай любоўю і падтрымкай народа, і ў гэтым складалася адна з галоўных умоў поспеху барацьбы. Мясцовыя жыхары аказвалі нам дапамогу прадуктамі, збіралі і перадавалі звесткі пра праціўніка, былі праваднікамі, сувязнымі, здабывалі зброю, медыкаменты, боепрыпасы. А хіба можна забыцца тыя кароткія хвіліны адпачынку ў цёплай хаце, калі гаспадары імкнуліся пачаставаць апошнім.

Супрацівячыся акупацыйным уладам, мясцовыя жыхары байкатавалі разнастайныя работы на ворага, зрывалі пастаўкі прадуктаў і г. д. Узброеная барацьба партызан арганічна перапляталася з гераічным супрацівам акупантам насельніцтва. Усё гэта, безумоўна, уплывала на баявы стан варожых войскаў, паралізоўвала дзеянні акупацыйных уладаў, цяжка адбівалася на маральным стане іх наймітаў.

"Дойчэ альгемайне Цайтунг", напрыклад, пісала 22 траўня 1943 года: *"Нельга адмаўляць, што гэтая барацьба каштуе нам вялікіх ахвяр, скоўвае частку нашых сілаў і наносіць нам сур'ёзную шкоду"*.

Пад выглядам барацьбы з партызанамі фашысты жорстка распраўляліся з мірнымі жыхарамі. Але мы не пакідалі ў бядзе сваіх памагатых, і яны былі нам удзячныя. Да сённяшніх дзён многія ўспамінаюць той незвычайны, гружаны мяшкамі збожжа, мукі, сялянскі абоз, які прыбыў да нас у атрад.

Гэта было 30 кастрычніка 1942 года. Пад вечар Барыс Сапрыкін стаяў на пасту і затрымаў чалавека, які ішоў у размяшчэнне атрада.

- З Малой Раёўкі я, - адказаў затрыманы. - Іду да камандзіра.

Так перад Шастапалавым паўстаў жыхар Малой Раёўкі Фёдар Даўгапол. Камандзір прыняў яго цёпла, прапанаваў сесці.

- Я, гэта самае, па важнай справе да цябе. Хлебушак сабралі, а вось баімся, што фашыст выграбе. Вырашылі аддаць яго вам. Мяне і паслалі вяскоўцы...

Шастапалаў доўга гутарыў з ім, а затым паціснуў руку, падзякаваў пасланцу і сказаў:

- Чакаем на ўзлессі.



На наступную раніцу начальнік штаба Рагожнікаў выклікаў у намёт Міхася Кірпоўскага, Міхася Бабеню, Сяргея Галубовіча, Уладзіміра Мармоля і мяне. Да вайны мы гралі ў школьным аркестры, а калі сыходзілі ў партызаны, прыхапілі з сабой частку музычных інструментаў.

- Трубы не саржавелі? - спытаў начальнік штаба, абводзячы нас вясёлым поглядам. - Справа мае быць сур'ёзная, без музыкі не абысціся.

Ён распавёў нам, што заўтра будзе мітынг па выпадку прыбыцця сялянскага абозу з хлебам.

Не падкачайце, - падбадзёрыў, - каб і марш, і "Інтэрнацыянал" як след прагучалі.

І вось апоўдні на ўскрайку Раёўскага лесу, кіламетраў за чатыры ад размяшчэння атрада, сабраліся партызаны. Паміж дрэвамі нацягнулі лозунгі: "Партызанскі дзякуй працаўнікам сяла!", "Смерць нямецкім акупантам!".

Усё выглядала ўрачыста і святочна, як бывала ў мірны час. Партызаны глядзелі на нас,



***Рагожнікаў М. А.***

музыкаў, з нейкай асаблівай цеплынёй. Перад імі стаялі людзі не з вінтоўкамі ў руках, а з бліскучымі меднымі трубамі. Гэта, відаць, навявала ўспаміны пра мірныя дні, калі грукатала медзь аркестраў, калі многія сем'ямі ішлі на свята, а потым, далёка за поўнач, шырокай ракой лілася весялосць. Таму ўсе былі ў прыпаднятым настроі.

- Едуць! - пачуўся нечы голас.

На дарозе паказалася чарада вазоў. Іх было каля паўсотні. На пярэднім развіваўся чырвоны сцяг. Калі абоз наблізіўся, хоць і не вельмі стройна, грымнуў марш. Я заўважыў, як падзейнічала музыка на людзей. Твары многіх пасуравелі. Партызаны з велізарным хваляваннем глядзелі на гэты чырвоны абоз. Сяляне вёсак Вялікая Раёўка, Малая Раёўка, Руднае везлі хлеб для сваіх абаронцаў. Яны ведалі, што побач нямецкія гарнізоны, што ім пагражае небяспека.

Вось з пярэдняга воза саскочыў Фёдар Даўгапол і, зняўшы шапку, накіраваўся да камандавання атрада. Ён спыніўся і ад хвалявання не мог прамовіць ні слова. Затым змахнуў слязу, абвёў усіх поглядам.

- Прымайце, даражэнькія, ад нас хлебушак. Мы ўсё зробім, толькі мацней біце фашыстаў.

І ён пакланіўся ў пояс. За ім вышыхтаваліся астатнія вознікі. Усе яны прыкметна хваляваліся, камячылі шапкі ў руках. Выступіў камандзір атрада М. А. Шастапалаў. Ён горача падзякаваў сялянам за прадукты.

- Мы ніколі не забудземся вашай дабрыні, вашага клопату пра нас. Ад імя ўсіх партызан перадайце вялікі дзякуй і партызанскі паклон вашым жонкам, дзецям, усім, хто так добра дапамагае нам біць выклятага ворага. Мы абяцаем, дарагія нашы памочнікі, што не дамо спакою фашыстам, пакуль яны будуць на нашай зямлі.

Шастапалаў распавёў пра становішча на фронце, пра міжнароднае становішча, яшчэ раз глыбока падзякаваў сялянам за дапамогу. Звонкі голас камандзіра атрада рэхам разносіўся па лесе. Свой выступ ён скончыў словамі:

- Смерць нямецкім акупантам! Жыве Савецкая ўлада!

Мы зайгралі "Інтэрнацыянал". Яго мелодыя агалошвала наваколле і гублялася дзесьці ў густых спляценнях галін.

Пасля заканчэння мітынгу партызаны дапамаглі сялянам разгрузіць падводы. Неўзабаве гэты незвычайны абоз адправіўся назад. Партызаны праводзілі яго цёплымі поглядамі. Сяляне ўсяляк імкнуліся дапамагчы народным мсціўцам, і гэтая дапамога выяўлялася не толькі ў караванах са збожжам. Аднойчы ў вёсцы Свідзічы да партызан падышла бабулька і працягнула збанок з мёдам.

- Вазьміце, сыночкі, вельмі добра загойвае раны.

Нельга было пакрыўдзіць бабульку. Васіль Булахаў узяў яе падарунак і прынёс нашаму атраднаму лекару Віктару Якаўлевічу Плеяваку. Той выкарыстоўваў мёд для лячэння параненых. Выдаючы порцыю, абавязкова прыгаворваў:

- Гаючы, бабка загадала, каб папраўляўся.

Як ужо дапамагаў той мёд, не ведаю, а вось словы лекара паднімалі настрой параненых партызан, і, здавалася, ім станавілася лягчэй. Ужо даўно фашысты разрабавалі ўсе вуллі, пра мёд нават забыліся думаць, а бабулька зберагла і перадала нам гэты неацэнны збанок. Такія яны былі нашы сябры.

Чамусьці асабліва запомніліся жыхары вёскі Скобін. Іван Харытонавіч Таўкач прынёс у атрад аўтамат, чатыры гранаты "Ф-1" і каля паўтысячы патронаў. Узімку жыхар гэтай вёскі Аляксандр Амельяновіч сабраў 12 пар лыж і перадаў іх нам. А колькі было аддадзена цёплых рэчаў, белага палатна для маскхалатаў! Людзі самі заставаліся ў рванай адзежы, галодныя, а апошнім дзяліліся з

намі. Рызыкавалі не толькі ўласным жыццём, але і жыццём сваіх дзяцей.

Так было і ў вёсцы Крывасёлкі, куды прыбыў атрад немцаў. Жыхары ўспудзіліся. Але фашысты павялі сябе дзіўна. Яны не сталі рабаваць, як гэта рабілі звычайна, а пачалі вучэнні ў полі. Падраздзяленні паднімаліся ў "атаку" супраць уяўных "партызан", абкопваліся, ізноў рабілі кароткія перабежкі, стралялі з аўтаматаў і кулямётаў.

Рыгор Грыб выйшаў у двор секчы дровы, а сам назіраў за паводзінамі фашыстаў. Яны то аддаляліся, то зноў вярталіся да вёскі і паўтаралі ўсё спачатку. Да канца дня карнікі адышлі кіламетры на два ў кірунку пералеску. Пайшоў густы дождж, Рыгор яшчэ раней заўважыў, што прама насупраць яго хаты на лужку немцы паклалі нейкія скрыні. Яны так і засталіся ляжаць.

Адзінаццацігадовы Саша даўно прыкмеціў гэтыя скрыні і толькі чакаў, калі бацька дазволіць яму агледзець іх.

- А ну, сынок, зірні, што там, - сказаў бацька. - Ды толькі мігам, не затрымоўвайся.

Саша кубарам панёсся на сенажаць. Неўзабаве з'явіўся назад увесь мокры.

- Жалезныя скрынкі, - паведаміў, - цяжкія.

"Патроны, - падумаў Рыгор, - трэба неяк іх прыбраць.

Але як гэта зрабіць?"

- Давай тваю каляску хуценька, - сказаў бацька.

Яны паклалі ўсе чатыры скрынкі патронаў, перавезлі і схавалі іх у адрыне. На ўсякі выпадак Рыгор паслаў сына да суседа Іосіфа Мароза і наказаў, каб не вяртаўся дахаты да заўтра. Баяўся, што немцы могуць западозрыць іх.

Так яно і здарылася. Калі на зямлю апусціўся змрок, з'явіліся трое гітлераўцаў. Яны пачалі шукаць згубу, але трохі далей ад таго месца, дзе пакінулі. Гучна пра нешта перагаворваліся, спрачаліся. Рыгор краем вока заўважыў, як адзін фашыст накіраваўся да яго. Вось ён пераскочыў цераз плот і, наставіўшы аўтамат, загарлапаніў. Рыгор стаяў, быццам нічога не разумеючы.

- Нікс фарштэйн, пан.

Фашыст паказваў на сенажаць, затым рукамі ў паветры абвёў квадрат:

- Шысен, патрон, - пачаў тлумачыць.

Рыгор глядзеў на яго моўчкі.

- Ду біст бандыт! - зло выгукнуў гітлеравец і ўскінуў аўтамат.

- Ёган! - паклікаў угневанага немца іншы і нешта сказаў яму па-нямецку.

Ёган апусціў зброю і некалькі разоў выцяў Рыгора кулаком па галаве і твары, вылаяўся і пабег да сваіх.



*Грыб Р. П.*

- Пранесла, - уздыхнуў Рыгор і хуценька пайшоў у хату.

Жонка ў акно з жахам назірала за гэтай сцэнай і, калі муж увайшоў у пакой, упала яму на грудзі, забожкала.

- Ты з глузду з'ехаў! Нас жа ўсіх расстраляюць.

Рыгор разумеў яе трывогу.

- Заўтра перапраўлю партызанам, і ўсё будзе ў парадку, - супакоіў ён жонку.

Шмат разоў праязджаў Рыгор каля чыгуначнага паста ля вёскі Дзегцяныя. Часам фашысты цікавіліся, што вязе, а часцей прапускалі так. Яны даўно ўжо неслі службу ў гэтым бункеры і ведалі многіх мясцовых жыхароў. Гэтым разам Рыгор хваляваўся. На дне воза ляжалі скрынкі з патронамі, а зверху - сена. Тузаючы за лейцы, пануквbooчы коніка, Грыб наблізіўся да чыгуначнага пераезду, і колы загрукалі па рэйках.

"Ну, здаецца, праехаў", - толькі паспеў падумаць, як пачуў голас немца. Азірнуўся, а той стаяў, шырока расставіўшы ногі, і махаў рукой, клікаў да сябе.

Рыгор падбег да яго, зняў шапку. Фашыст падвёў яго да кучы дошак.

- Насіць туды! - паказаў пальцам на бункер.

Дошак было дзясятка два. Грыб пачаў хутка іх цягаць, увесь час паглядаючы на каня. "Хоць бы спакойна пастаяў", - думаў ён. Але каню надакучыла стаяць, ён пацягнулася да траўкі, што расла на абочыне каля пераезду. У Рыгора самлела душа, калі ўбачыў, як усё бліжэй падкочваўся воз да краю насыпа. "Яшчэ некалькі крокаў - і воз перакуліцца", - з жахам думаў ён і, хапаючы па дзве дошкі, цягнуў іх да бункера. Апошнюю дошку паклаў акуратна ў штабялёк.

- Гут, - кіўнуў фашыст галавой і ўзмахам рукі паказаў, што можна ісці.

Рыгор, не адчуваючы ног, бег да воза. Ён схапіў лейцы і вывеў каня на дарогу ў самы апошні момант. "Яшчэ адна секунда і загрымелі б скрынкі з патронамі пад адхон, а я - на той свет", - прамільгнула страшная думка. Ён з сілай выцяў каня, які рвануў і панёсся наўскач.

Да слыху Рыгора данёсся рогат. Гэта смяяўся фашыст-ахоўнік, які, мабыць, быў задаволены, што так напалохаў рускага мужыка.

Іван Грыб сустрэў брата радаснымі абдымкамі. Уся рота атачыла свайго старога знаёмага. Многія з нас ваявалі з вінтоўкамі, якія Рыгор перадаў у атрад. А перадаў ён іх да таго часу сямнаццаць штук ды два наганы, 12 гранат. Узброіў паўзвяза! Цяпер яшчэ і патроны прывёз.

Мужнасць мясцовых жыхароў выяўлялася штодня. Не баючыся небяспекі, яны рабілі ўсё, каб дапамагчы нам у барацьбе з акупантамі. Нажаль, не ўсе іх подзвігі засталіся ў памяці, не ўсе вядомыя яшчэ апісаны.

### БОЙ З ТАНКАМІ

Увечар напярэдадні 25-ых угодкаў Кастрычніка Іван Мядзянік і Васіль Вулахаў вярталіся на возе з задання. На ўзлеску Старыцкага лесу яны сустрэлі групу ўзброеных людзей у чырвонаармейскай форме, але без знакаў адрознення, з новымі савецкімі аўтаматамі. У атрад партызаны прыбылі з пасланцамі з Вялікай зямлі. Вестка вокамгненна абляцела ўсе зямлянкі і буданы. Неўзабаве шчыльным кольцам атачылі мы прыбылых і наперабой распытвалі іх пра жыццё там, за лініяй фронту, з цікавасцю разглядалі прыбор для бясшумнай стральбы з вінтоўкі.

Назаўтра з самай раніцы мы зноў сабраліся каля будана, дзе адпачывалі прыбылыя, і чакалі, калі яны прачнуцца. А потым ізноў засыпалі іх пытаннямі пра Маскву, пра тое, што кажуць пра



*Емяльянаў С.Е.*

летні наступ. Газеты "Правда", "Известия" разышліся па руках, і партызаны групкамі стаялі каля чытальнікаў, слухалі, імкнучыся не прапусціць ніводнага слова.

З групай прыбыў тады невысокага росту, хударлявы, энергічны, гаманкі Васіль Якаўлевіч Гамелька, з якім я з першай сустрэчы пасябраваў. Пасля Гамелька стаў маім камандзірам аддзялення, а затым камандзірам звяза.

Свята Кастрычніка камандаванне брыгады вырашыла адзначыць ударамі па варожых гарнізонах, дыверсіямі на чыгунках.

Міхась Дурасаў і Іван Байкаш толькі што вярнуліся з выведкі, стомленыя і мокрыя. Дурасаў трохі прастуджаным голасам дакладваў камандзіру роты Серафіму Емяльянаву.

- Цягнік можна пусціць пад адхон. Нават кусты ад дарогі не высечаны, і насып высокі, абломкам ёсць куды ляцець. Толькі балотам прабірацца трэба.

- Зараз жа балота вадой заліло. Дажджы ішлі моцныя.

- У тым то і справа, што можна прайсці. А немцам неўздагад, што па балоце можна пра-

брацца.

Емяльянаў працягваў высвятляць становішча.

- Каго сустракалі па дарозе?

- Спачатку хлопец сустрэўся. Ён і распавёў нам пра гэтае балота. А потым стары трапіўся па дарозе, - растлумачыў Дурасаў. - Калі спыталі, дзе лепш жалезку перайсці, той паглядзеў на нас ва ўпор і прашамкаў: "Свет вялікі, і шляхоў шмат. Толькі там, дзе лес, - нямецкія бункеры, дзе поле, - абходчыкі дзяжураць, а вось балотам, мабыць, можна, калі не баіцеся ножкі прамачыць". Мы і рызыкнулі балотам, прабраліся амаль да самай дарогі, гадзіны дзве назіралі - ніводнага патруля, а эшалоны ідуць адзін за адным.

- Адпачывайце, заўтра адправіцеся ў дарогу, - сказаў камандзір роты і адпусціў падрыўнікоў.

Вярталіся ў лагер і іншыя выведнікі. Яны прыносілі трывожныя весткі. Па ўсім было відаць, што немцы збіраюцца вялікімі сіламі абрынуцца на нас. Але свята ёсць свята.

У Старыцкім лесе ля шырокай лясной дарогі збудавалі трыбуну, над якой зашугалі чырвоныя сцягі. Былі вывешаны лозунгі: "Няхай жыве 25-я гадавіна Кастрычніка!", "Наша справа правая, перамога будзе за намі!", "Смерць нямецкім акупантам!". Ішла падрыхтоўка да правядзення параду. На дошцы, прыбітай да хвоі, вісеў святочны нумар "Баявога лістка". У кожнага партызана да галаўнога ўбору была прышыта наўскасяк чырвоная стужка. Яна надавала нашай разнамаснай адзежы нейкае падабенства адзінай формы. Усе імкнуліся залатаць дзіркі ў падранай адзежы, прышыць зашпількі, да бляску начысціць зброю. Аркестр правёў трэніровачную ігру маршу каля трыбуны.

Увечар да вогнішча падышоў Іван Кліменцевіч Жыжык. Цесна сядзеўшыя партызаны пасунуліся і вызвалілі месца для камісара. Жыжык пацікавіўся настроем, распавёў пра моцныя баі пад Сталінградам, пра бітвы нашых войскаў на Каўказе, пра блакадныя баі пад Ленінградам.

І далей ён заявіў:

- Заўтра свята 25-й гадавіны Кастрычніка. Парад правядзём, мы ж людзі вайсковыя. Так што рыхтуйцеся.

Пазней звычайнага заседзеліся мы ў той вечар каля агню. Спаць не хацелася. Успаміналіся даваенныя гады, калі ў райцэнтры збіралася шмат народу, каб прыняць удзел у імпрэзе. Ні снег, бывала, які падаў з неба, ні холад не палохалі людзей. Ішлі і ішлі яны святочнымі калонамі, адказваючы гучным "Ура!" на прывітанні. Грымела медзь аркестра.

7 лістапада рана ажыў партызанскі лагер.



***Тараховіч ("Дунаеў") І. М.***

Байцы мыліся, прыводзілі сябе ў парадак, рыхтаваліся да імпрэзы. Задыміліся вогнішчы.

Жарты, смех чуліся з усіх бакоў. Партызаны віншавалі адзін аднаго са святам.

Неўзабаве ўсе ўбачылі, як з'явіліся каля трыбуны камісар брыгады І. К. Жыжык і сакратар міжрайкама КП(б)Б І.Д. Варвашэня ў суправаджэнні начальніка Старыцкого партызанскага лагера І. М. Тараховіча ("Дунаева"). На зіму ў брыгадзе былі створаны два ўмацаваныя лагеры - у Вялешынскім і Старыцкім лясах. У Вялешынскім размяшчаліся атрады імя Катоўскага і імя Будзёнага, а ў Старыцкім - імя Шчорса і імя Чапаева.

Да гэтага часу кожны атрад ужо налічваў па дзвесце і больш чалавек. Акрамя звычайнага ўзбраення ў атрадах імя Чапаева і імя Шчорса было па адной 45-мілімятровай гармаце, у атрадзе імя Катоўскага - дзве гарматы, 76- і 45-мілімятровыя.

Ва ўгодкі Кастрычніка пасля параду прызначаўся напад на буйны фашысцкі гарнізон у гарадскім пасёлку Капыль. Аднак праціўнік апярэдзіў задумы партызанскіх камандзіраў. Раніцай 7 лістапада немцы падкінулі з Менска буйныя сілы рэгулярных войскаў і пры падтрымцы танкаў і бронемашын пачалі наступ на наш лагер.

У размяшчэнне лагера прыбег задыханы зменны вартавы Рыгор Айрапетаў.

- Немцы! - выгукнуў ён. - Потым, нібы ўдакладніў. - Танкі!

Наш атрад заняў абарону на ўзгорку, парослым рэдкім бярэзнікам. Ад ранішняга ветрыку калыхаліся сухія тонкія травінкі. Насцярожанымі і засяроджанымі здаваліся таварышы. Успыхнула наперадзе белая ракета і з шыпеннем загасла. Загула зямля. Уміг неба затапілі струмені агню, якія ўзвіваліся на процілеглым баку ўзгорка. Перадранішняе зацішша змянілася аглушальным грукатам і гулам. Цяжка было вызначыць, што за гарматы ўжыў вораг, які від артылерыі. Калыхалася зямля, нібы яе хтосьці прыўздымаў і зноў апускаў. Уставалі кучы свінцовага дыму, з-за якога амаль нічога не было відаць. Слых улоўліваў толькі змяшаны гуд і грукат, нібы спадалі дзясяткі вадаспадаў.

- Падрыхтавацца! - пачуў я побач голас камандзіра роты Серафіма Емяльянава.

Яго твар не выяўляў злосці, непрыкметна было і ценю хвалявання ў яго маленькіх вочках. Гэты спакой усяляў упэўненасць у байцоў.

Прайшло нейкіх пяць - дзесяць хвілін, а здавалася, ужо некалькі гадзін скалыналася і гула зямля, - такім страшным і грозным гулам было напоўнена паветра.

- Танкі! Браткі, танкі! - крыкнуў нехта.

Гэта вестка халадком кранула сэрца.

Упершыню мы сустракаліся ў баі з танкамі. Была надзея, што нас адвядуць у лес. Але загаду на адступленне мы не атрымалі.

Паменшыўся артабстрэл. Ротны нахмурыўся:

- Будзем біцца.

Камандзір аддзялення Міхась Дубаў уздыхнуў і пытальна зірнуў на камандзіра роты:

- Артылерысты павінны падтрымаць?

- Вядома, - адказаў той. - Нездарма ж па лесе бандуры гэтыя цягалі. Хай зараз папрацуюць. Не бойцеся, хлопцы!

І раптам наперадзе паказаўся танк. Поўз ён проста на нас, грукочучы металам. Пяхота бегла следам за ім.

Лагерманаў агледзеў дыск - ці шмат патронаў. Ён уладна кіўнуў мне, і я падхапіў скрынкі, папоўз услед за ім. Па кустах, таемна, перамясціліся на іншае зручнейшае месца і падрыхтаваліся да бою. Агню не адкрывалі. Маўчаў і суседні атрад Тараховіча.

А немцы ішлі. З кожнай секундай набліжаўся і танк. Вось ён прабразгаў усёй сваёй грымучай сілай зусім недалёка ад нас. Лагерманаў выцяў па набягаючым ланцугу фашыстаў. Правей запрацаваў кулямёт Зміцера Калініна. Услед за кулямётамі ажылі аўтаматы і вінтоўкі. Варожая пяхота адхлынула і залягла на чыстым полі. Тым часам двойчы вухнула наша гармата, і нехта радасна закрычаў:

- Гарыць!

Танк задыміўся. Гэта падняло дух партызан. Кароткімі чэргамі з кулямётаў і аўтаматаў, стрэламі з вінтовак мы знішчалі варожых салдатаў. Немцы ўскоквалі і, віхляючы, пачыналі адыходзіць. На роўным чыстым полі ім не было дзе схавацца. Іх хваля адхлынула да засады атрада імя Чапаева і зноў патрапіла пад пагібельны агонь.

Лагерманаў пераставіў свой кулямёт і страляў па тым месцы, адкуль біў варожы. А справа і злева чуліся выбухі снарадаў. Гэта нашы гарматы ўступілі ў бой з танкамі. І вось немцы зноў падняліся ў атаку. На дапамогу тым, што заляглі, прыбыло падмацаванне. Яны ішлі бязбоязна, нібы спадзяючыся, што цяпер іх нішто не спыніць. Ішлі густым ланцугом.

Лагерманаў уставіў у кулямёт новы дыск. Але паступіла каманда не страляць. Фашысты ішлі п'яныя, падобна, распачалі псіхічную атаку. Яны дзіка крычалі, вялі беспрыцэльны аўтаматны агонь.

Асляпляльна ярка свяціла сонца, з-за чаго блішчалі ў ворагаў каскі і зброя. Вось ужо засталося не больш за сто метраў да першых шэрагаў.

- Агонь!

Лагерманаў выпусціў доўгую чаргу. Дружна зарабілі кулямёты роты Кастуся Кліменкі. Раздаліся залпы. Агонь доўжыўся хвілін дзесяць бесперапынку. Варожы ланцуг адкаціўся. Другая атака была адбіта. Але на левым флангзе яшчэ чулася перастрэлка. Там біліся партызаны атрада імя Чапаева. Калі фашысты пад прыкрыццем танкаў пацяснілі іх, у атаку падняў байцоў камандзір атрада Тараховіч ("Дунаеў").

З-за ссечаных ствалоў бярозак раптам вынырнуў Міхась Дурасаў. Ён быў увесь белы, моцна сціснуў сківіцы.

- Забілі Дуная! - крыкнуў Дурасаў. - Немцы захапілі труп...

Адступіўшыя танкі зноў рынуліся на ўскрай лесу. Страляючы на хаду, яны насоўваліся на нас. Ізноў уступіла ў адзінаборства артылерыя. Выдатным нашым артылерыстам Івану Бабкіну, Пятру Шульгу, Аляксандру Семенякову і Макару Белезяку ні да гэтага, ні пасля гэтага не даводзілася весці такога гарачага бою. Але тады, у Старыцкім лесе, яны паказалі сапраўднае майстэрства.

Бой узмацніўся. Вакол ірваліся варожыя міны, прыціскаючы нас да зямлі. Услед за танкамі беглі немцы і страчылі з аўтаматаў.

У імгненне ўсё змяшалася: грукат выбухаў, страляніна, натужлівы роў матораў і крыкі параненых.

Пяхоту адсеклі. Вось адзін танк пераваліў цераз узгорак. Па ім выцяла гармата, і танк закруціўся на адным траку, паліваючы свінцом партызан. Але ён ужо быў не так страшаны.

- Ага, закруціўся! - выгукнуў ляжаўшы побач са мной Пётр Багданаў і з яшчэ большай лютасцю пачаў біць па адыходзіўшым ланцугу фашыстаў.

- Чаму маўчыць гармата атрада імя Чапаева? - усхваляваўся Шастапалаў, гледзячы, як з-за высоткі выпаўзае танк. - Ім бы выцяць па ім у самы раз.

Камандзір атрада азірнуўся:

- Бабеня, хутка да суседзяў! Скажы, каб адкрылі артылерыйскі агонь вунь па тым танку, - ён паказаў налева.

Міхась Бабеня кінуўся выконваць загад. Але літаральна праз некалькі хвілін вярнуўся.

- Таварыш камандзір, - цяжка дыхаючы, дакладваў ён, - у гарматы разарвала ствол.

Шастапалаў распарадзіўся выкаціць сваю гармату лявей. Усё цяжэй складвалася становішча на лініі абароны атрада імя Чапаева. Ужо другі раз немцы кідаюцца ў лабавую атаку. Але пад агнём партызан адкочваюцца. Бачачы моцны супраціў, фашысты пайшлі на хітрасць. Яны падпалілі сціrты саломы. Густы дым накрыў узлесак. Захінаючыся гэтай заслонай, вораг ізноў кінуўся ў атаку, адціснуў партызан.

Праявіла мужнасць рота І. П. Грыба. Байцы пад яго камандаваннем імклівай контратакай выбілі варожых салдатаў з лесу. Наступіла часовае зацішша.

Раптам моцны, падобны на ўдар грому, гук скалынуў паветра. Са свістам разляцеліся асколкі, зразаючы галіны дрэў. Дымам завалакло паляну. А калі рассеяліся дым і курава, мы ўбачылі разарванае на кавалкі цела Міхася Дурасава. Загінуў наш бясстрашны, таленавіты мінёр і выведнік, на рахунку якога было сем варожых эшалонаў. Колькі разоў трапляў ён у найскладаныя сітуацыі і заўсёды выходзіў з іх жывым. А тут - шальная міна.

Да вечара адбівалі восьмую атаку фашыстаў. І ні на крок не адыходзілі з занятых пазіцый. Пусціць карнікаў у лес - раўнасільна пагібелі. Трымаліся да апошняга.

Вось лавіна фашыстаў ізноў рушыла на нас. Лагерманаў рыпнуў зубамі, даў доўгую чаргу. Немцы нібы наткнуліся на сценку. Было відаць, як яны валіліся ад нашых стрэлаў. Лагерманаву хацелася біць без канца, не спыняючыся. Я таксама захапіўся стральбой па бегшых ворагах.

Кулямёт змоўк. Вася адарваўся ад прыцэла:

- Патроны!

Я падаў яму поўны дыск. Хутка і спрытна ён уставіў яго, і кулямёт ізноў запрацаваў. Падняўшыся на ўвесь рост у прыдарожным кювеце, Лагерманаў крыкнуў:

- Бі іх!

У гэтую хвіліну ён не думаў пра небяспеку. Была толькі адна думка: знішчыць ворага. Яго падтрымалі кулямёт Зміцера Калініна і нашы дружныя залпы.

- Бі мацней!

Здавалася, ад крыку Лагерманава ўзмацняюцца кулямётныя і аўтаматныя чэргі. Пачуццё, падобнае на ап'яненне, ахапіла Лагерманава. Ён не чуў свісту куль. Бачыў толькі бегшыя групкі варожых салдатаў. Яны валіліся на зямлю, заставаліся ляжаць, замест іх з'яўляліся новыя.

- Кладзіся, заб'юць! - крыкнуў камандзір аддзялення Пётр Багданаў і пацягнуў Лагерманава за рукаў.

Ізноў адкацілася шэра-зялёная лавіна варожых салдатаў. Але вось нерухома ляжаўшыя на поле немцы нібы нейкім цудам ажылі і, устаўшы суцэльнай сцяной, рушылі наперад. Іх абагналі вынырнуўшыя з-за ўзлеску танкі. У аглушальным гудзе чуліся адчайныя выкрыкі нямецкіх афіцэраў, якія спрабавалі арганізаваць атаку. Я зірнуў налева. Лагерманаў нібы прырос целам да кулямёта, адсякаючы кароткімі чэргамі бегшых фашыстаў ад танкаў. Дружна працавалі ўсе. Але танкі! Танкі рухаліся, нягледзячы на нашу стральбу. Вось яны бліжэй, бліжэй. Па целе прабеглі непрыемныя дрыжыкі.

- Падрыхтаваць гранаты! - пачуўся голас камандзіра роты.

Але ўсе з аблягчэннем уздыхнулі, убачыўшы, як выкацілі на прамую наводку сваю саракапятку артылерысты разліку Івана Бабчына.

- Зараджай! - падаў ён каманду.

І наводчык Пётр Шульга прытуліўся да прыцэла. Семеняков зарадзіў гармату. Мякка пстрыкнуў ударнік, і раздаўся пранізлівы гук стрэлу. Снарад уздыбіў слуп зямлі ля самага трака танка. Недалёт нейкіх паўметра!

- Зараджай! - ізноў закамандаваў Бабкін.

Гэтым разам артылерысты не прамазалі. Танк спыніўся і закруціўся на месцы.

- Малайчына, Шульга! - радасна выгукнуў камандзір гарматнага разліку. - Па другім - агонь!

Тым часам падбіты танк стрэліў з гарматы па гармаце. Выбухам раскідала разлік, асколкам снарада быў паранены Аляксандр Семенякоў, але артылерысты тут жа кінуліся да гарматы.

Па фашыстах выцяла суседняя рота Кастуся Кліменкі. Але ім замінаў падбіты танк. Тады Кліменка з групай байцоў кароткімі перабежкамі прабраліся да танка, заляглі і адкрылі агонь па пяхоце. Яны заўважылі, як на зямлю вываліліся адзін за адным танкісты і кінуліся на ўцёкі. Чарга з аўтамата тут жа скасіла варожых танкістаў.

Прама на нас накіраваўся танк.

- Агонь па танку! - закамандаваў Бабчын.

Але стрэлу не адбылося.

- Панараму знесла, таварыш камандзір! - адказаў Шульга.

Бабкін кінуўся да гарматы, адкрыў замок і пачаў наводзіць па ствале.

- Снарад! - не адрываючыся, крыкнуў ён і працягнуў назад руку.

Ухапіўшы снарад, ён імгненнем даслаў яго ў казённік і націснуў на спуск. Стрэл быў не прыцэльны. Але танкісты, мабыць, зразумелі, што артылерыйскі разлік жывы. Танк павярнуў налева і схаваўся за кустамі. Варожая пяхота ўцякала. Прыкрываючы яе агнём з гармат і кулямётаў, адыходзілі танкі і браневікі ў кірунку вёскі Слабада-Кучынка, але там з Веляшынскага лесу іх сустрэлі партызаны атрада імя Катоўскага і імя Будзёнага. Разгарэўся гарачы бой. Артылерыйскім і ружэйна-кулямётным агнём ворагаў спынілі. Атрады імя Чапаева і імя Шчорса са Старыцкага лесу, карыстаючыся цемрай, пачалі адыход. Тым часам у лесе адрэзаны звяз Мікалая Чыжова выцяў па ворагу з тылу. У фашысцкіх шэрагах паднялася паніка. Гітлераўцы пачалі разбягацца. Пасля нашага адыходу, уварваўшыся ў Старыцкі лес, яны танкамі скрышылі трыбуну і падпалілі лагер.

Наш атрад таемна пакідаў Старыцкі лес і накіраваўся ў Веляшынскі. Немцы не заўважылі адыходу. Яны лічылі, што, блакаваўшы лес, не выпусцяць нас з яго. Над населенымі пунктамі, убаку дарог і вакол лесу раз-пораз успыхвалі ракеты, асвятляючы мясцовасць. А мы ціха выслізнулі з-пад самага носа праціўніка. Выведнікі ўмела знаходзілі дарогу. У Веляшынскім лесе злучыліся з атрадамі імя Катоўскага і імя Будзёнага. Адтуль на наступны дзень усёй брыгадай перабраліся ў Лаўскі лес.

Замест загінулага Івана Мікалаевіча Тараховіча ("Дунаева") камандзірам атрада імя Чапаева прызначылі Івана Прохаравіча Грыба.

Немцы толькі раніцай выявілі, што мы сышлі, але не сталі пераследваць, а абвясцілі вакол, што партызаны знішчаны. Як доказ гэтага вазілі па вёсках труп загінулага І. Н. Тараховіча.

Выведка раптам паведаміла, што ў былы саўгас "Рымя" прыбылі карнікі па жывёлу і хлеб. Недалёка ад Капыля атрад імя Чапаева ўладкаваў засаду і сустрэў фашыстаў на зваротным шляху. Падпусціўшы іх бліжэй, партызаны адкрылі шчыльны агонь з кулямётаў, аўтаматаў, вінтовак.

Заспетыя знянацку акупанты кінулі нарабаванае дабро, жывёлу і разбегліся. Нават не змаглі аказаць супраціву. Шмат іх засталося на дарозе. З боку партызан страт не было.

З тых часоў гітлераўцы акапаліся ў Капылі і доўгі час не рабілі вылазак. А ў народзе маланкай разнеслася вестка пра тое, што партызаны зноў дужа патрапалі фашыстаў.

- Значыць, жывуць нашы абаронцы, - казалі людзі і рады былі сустрэчы з намі.

### ПОДЗВІГ

Лаўскі лес, здавалася, быў надзейнай для нас схованкай. Атрады размясціліся на яго ўскраінах паблізу вёсак Калюга, Лавы, Шчарбіны, Явішчы, Руднікі. У Лавах месціўся брыгадны шпіталь. За кароткі час мы збудавалі сваё няхітрае жыллё, прывялі сябе ў парадак пасля знясільвальных баёў і пераходаў. Хутка наладзілі сувязі з мясцовымі жыхарамі. Яны дапамаглі нам боепрыпасамі, прадуктамі, адзежай.

Аднойчы ў размяшчэнне нашага атрада прыбыў камбрыг Капуста. Ён агледзеў лагер, зазірнуў у буданы, зямлянкі. А калі быў зшыхтаваны атрад і Шастапалаў далажыў па ўсёй форме, камбрыг абышоў шыхт, уважліва прыглядаючыся да адзежы партызан. Чэсна кажучы, апратка наша выглядала нікчэмна. Хоць пра яе, здавалася, ніхто сур'ёзна не думаў. Асабліва дрэнны быў абутак. Ушчэнт разбітыя боты і чаравікі партызаны ўсяляк імкнуліся неяк падрамантаваць, падоўжыць ім жыццё.

Аднак ва ўсіх нас быў адзін галоўны клопат - патроны. Пра іх толькі і вяліся гутаркі, за іх аддавалі самыя лепшыя боты, адзежу, тытунь.

Наставалі халады. І, натуральна, камандаванне брыгады хвалявала пытанне, як мы да іх падрыхтаваны. Гледзячы на разнамасную нашу апратку, Капуста спагадліва ківаў галавой, а то і паджартоўваў над сім-тым:

- Дзе бот страціў? Напэўна, ад немца ўцякаў? - спыніўся ён каля ўкраінца Мікалая Дзмітрыевіча Бабіча.

- Даганяў, таварыш камбрыг! - бойка адрэагаваў на жарт Бабіч.

Капуста выступіў перад шыхтам, распавёў пра становішча, у якім мы знаходзіліся, заўважыў, між іншым, што калі немцы не будуць пераследваць, то прыйдзецца, мабыць, у Лаўскім лесе ата-

барыцца на зімовыя кватэры.

Але жаданае зацішша прадоўжылася нядоўга. Неўзабаве праціўнік павёў старанную выведку. Узнікалі сутычкі партызан, якія ішлі на заданні, з карнікамі. Яны ўсё часцей абстрэльвалі нашу выведку.

Неяк раніцай над лесам з'явіўся варожы самалёт-выведнік. Мы яго звалі "рамай". Ён і сапраўды быў падобны на раму. У першы дзень "рама" нядоўга і досыць высока пакружылася над лесам і паляцела ў бок Слуцка. Але затым яна пачала з'яўляцца часцей і пралятала амаль над верхавінамі дрэў, высочваючы месцы нашых стаянак. Быў строгі загад не выяўляць сябе. Ледзь пачуўшы аддалены гук матора, вартавыя крычалі: "Рама!" - і ўсё замірала. Гасілі вогнішчы, маскіравалі вазы, коней, гарматы, спынялі ўсякі рух.

Нягледзячы на складанасць становішча, амаль штодня ішло папаўненне свежымі сіламі. У Лаўскім лесе да нас прыбыло шмат людзей з Нясвіжскага раёна. Сярод іх Адам Некраш, Ян Гладоўскі і іншыя*.

У сувязі з вялікім прытокам у партызаны людзей, камандаванню дадалося клопатаў. Патрабавалася вывучыць прыбылых, навучыць іх хоць бы асноўным метадам партызанскага жыцця і барацьбы. Працы хапала ўсім - ад малодшых да старэйшых камандзіраў. Пачаткоўцаў з ветэранамі адпраўлялі на заданні, у выведку, з імі праводзіліся тактычныя заняткі. Адным словам, іх актыўна "прыціралі" да касцяка, рыхтавалі да хуткіх баёў.

А становішча прыкметна ўскладнялася. Выведка прыносіла трывожныя весткі. У Капыль прыбыло некалькі батальёнаў нямецкіх салдатаў. З Нясвіжскага раёна сцягваліся паліцэйскія падраздзяленні.

Раніцай 3 снежня 1942 года фашысты сіламі да сямі батальёнаў пачалі абыходзіць размяшчэнне брыгады з трох бакоў. Яны дабраліся да вёсак Пясочнае, Касцяшы, Восава. Камандаванне вырашыла расставіць сілы на больш верагодных шляхах з'яўлення праціўніка.

Мы ляжалі на ўзлеску. Церусіў дробны, сухі сняжок.

- Немцы! - вымавіў нехта нягучна.

Шастапалаў прыпадняўся на калені, акінуў поглядам байцоў атрада.

- Без каманды не страляць! - уладна прагучаў яго голас.

Было прыкметна, як па схіле з чорнымі плямамі купін і праталін замігацелі постаці. Яны набліжаліся вялікімі і дробнымі групамі.

Справа і злева, далёка і блізка пачуліся паспешлівыя, прыглушаныя адлегласцю каманды:

- Падрыхтавацца да бою!

На лініі абароны ўсё прыйшло ў рух.

А постаці на касагоры бліжэй, бліжэй. Над узлескам слізгануў пераліўны шоргат, быццам з канька жалезнага даху сарвалася плоская куча лёду. Адразу ж ззаду ў лесе ахнуў выбух, а за ім прагрукатаў цэлы абвал разарваных снарадаў. Узлесак завалакло дымам. Немцы вялі артабстрэл.

У тым баку, дзе занялі абарону партызаны атрада імя Катоўскага, таксама пачуліся рэзкія гарматныя стрэлы, іх падтрымлівалі адрывістыя воплескі мінамётаў. Гэта запрацавала наша партызанская артылерыя. Было відаць, як выбухі снарадаў прымусілі фашыстаў кінуцца ў бакі.

Над галовамі зноў прашамацелі снарады, і ўзлесак быццам закіпеў, задыміўся. Грукат, смурод, вышэйшая ступень пакутлівай напругі здаваліся невыноснымі.

- Правер дыскі, Вася, цяпер пачнецца, - пачуў я голас Лагерманава.

- Па фашыстах! - пранеслася рэхам.

І ружэйна-кулямётная стральба гулка прабразгала па ўзлеску. Нават у сваёй бязладнай гушчыні яна здалася вялікай. Варожая пяхота, перамахнуўшы лагчыну, рушыла лавінай. Ланцуг немцаў быў даволі густы. Яны з ходу выцялі па абароне такім ліўнем куль, што стральба з нашага боку адразу ж пацішэла. Карыстаючыся замяшаннем, гітлераўцы кінуліся ў атаку.

Тым часам прагучаў голас камандзіра роты Серафіма Емяльянава:

- Гранаты да бою!

Ахнулі выбухі гранат, уздыбіўшы густую сцяну зямлі. Атакоўцы заляглі, а потым пачалі адпаўзаць.

- Так іх! - радасна крыкнуў Зміцер Калінін, і яго кулямёт хвастануў свінцом па ворагу.

Голас кулямётчыка падбадзёрыў. Ізноў выцяў дружны залп па ворагу. Зялёныя постаці раптам ажылі, падняліся і пабеглі. Атака захлынулася. Але праз нейкіх хвілін дзесяць немцы аднавілі яе зараз ужо на левым фланзе атрада, дзе трымала абарону рота Аляксандра Колчанкі.

- Не адставай, - крыкнуў мне Васіль Лагерманаў і з кулямётам пабег на выручку таварышам.

Я прыхапіў скрынку з дыскамі і паспяшаўся за сваім першым нумарам. Дружна запрацалі кулямёты, выцялі ружэйныя залпы. Атакоўцы на імгненне прытармазілі бег, затым адступіліся назад.

- Агонь! За мной! - рэзка прагучаў голас ка-

* Тады дакладна прыйшлі яшчэ: Ян Некраш, Станіслаў Некраш, Мечыслаў Гладоўскі - усе з засценка Сейлавічы Нясвіжскага раёна, *рэд.*

мандзіра роты Колчанкі.

Вакол усё загрымела траскатнёй стрэлаў і крыкамі: "А-а-а!". Па схіле неслася лавіна партызан. Фашыстаў выбілі з хмызнякоў.

Другую атаку гітлераўцаў таксама адбілі, і на некаторы час на нашым участку наступіла зацішша.

На ўчастку абароны атрада імя Катоўскага кіпеў гарачы бой. Немцы рваліся да Лаваў, абвальваючы на іх не толькі ружэйна-кулямётны і артылерыйскі агонь, але і ўжываючы браневікі, танкі.

Партызаны гэтага атрада мужна стрымлівалі націск ворага. Дыміліся падбітыя браневікі. Карнікі, мабыць, зразумелі, што ім не пераадолець супраціўленне у лабавой атацы, і вырашылі пайсці ў абход. Выведка далажыла, што ў вёсках Восава, Цялядавічы, Лоцвіны засяроджваюцца буйныя сілы праціўніка.

Васямнаццаць адважных партызан здзейснілі ў той дзень несмяротны подзвіг, які ўвайшоў у гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.

Звяз Вінцэся Драздовіча з атрада імя Катоўскага замацаваўся на Кляцішчанскіх могілках. Партызаны выбралі зручныя пазіцыі для адбіцця атак ворага.

Праз шмат гадоў былы палітрук роты атрада імя Катоўскага Піліп Дайнека распавядаў, што прыбыў перад боем праверыць, як уладкавалася засада. Драздовіч далажыў яму, што ўжо заўважылі згуртаванне немцаў у вёсцы і выслалі свой дазор, які ўзначалілі камуніст Іван Жыгалковіч і камсамольцы Сяргей Духанаў і Сяргей Пяткевіч. Дайнека пахваліў Драздовіча за гэта і сказаў партызанам, што на іх вялікая надзея, нельга даць ворагу прарвацца тут, трэба выратаваць нашых параненых таварышаў, вывезці іх з вёскі Лавы. Пратрымацца неабходна хоць бы гадзіны дзве-тры. Ён таксама паведаміў, што выведка даносіць пра рух з Капыля і Узды буйных сіл праціўніка. Усе партызаны, якія знаходзіліся ў засадзе, паабяцалі стаяць да смерці.

- Можа, сядзім тут дарма, а там ваююць, - звярнуўся пятнаццацігадовы Валодзя Качаноўскі да палітрука.

- Глядзі ты, які Аніка-ваяр аб’явіўся, - пажартаваў Аляксей Кароль і далікатна абняў Валодзю за плечы. - На печы табе сядзець бы...

Валодзя натапырыўся, выслізнуў з абдымкаў Караля.

- Сам сядзі на печы!

Усё дружна засмяяліся. Смех абарвала доўгая кулямётная чарга, якая данеслася з боку Клецішчаў. Партызаны ўзіраліся ў снежную бель, куды пвайшоў Іван Жыгалковіч з таварышамі.

Удалечыні з’явіліся двое ўцекачоў. Ізноў пачулася кулямётная чарга, і яны зваліліся.

- Не нашы, - адарваўшыся ад бінокля, сказаў Драздовіч.

Ён ізноў прыставіў да вачэй бінокль і выгукнуў:

- Ды што ж яны!

Усе, хто знаходзіўся ў засадзе, і без бінокля бачылі, як да месца, дзе заляглі ўцекачы, набліжаліся немцы. Раптам дзве чорныя кропкі ажылі, прагучалі стрэлы. Немцы тут жа прыціснуліся да зямлі. Пачалася перастрэлка. Невялікая група фашыстаў, хаваючыся ў складах мясцовасці, абыходзіла смельчакоў.

- Хоць бы заўважылі, - не вытрымаў Васіль Астрэйка.

На дапамогу двум таварышам паспяшаліся дазорцы Жыгалковіч, Духанаў і Пяткевіч. Яны агнём рассеялі фашыстаў. Двое, адбіваючыся ад праследу, збліжаліся з групай дазорцаў. Іван Жыгалковіч перанёс агонь па немцах, насядаўшых на ўцекачоў. Як ён потым успамінаў, гэта былі Аляксандр Ждановіч і Аляксандр Харытановіч - выведнікі з партызанскага атрада імя Будзёнага. Вяртаючыся з задання, яны патрапілі ў такую складаную сітуацыю.

Фашысты бачылі, што перад імі жменька партызан, і, адкрыўшы агонь, упарта прасоўваліся наперад, імкнучыся атачыць іх.

- Адыходзьце ў кірунку могілак! - загадаў Жыгалковіч.

Ён разумеў, што, калі ў апошні момант не змогуць выбрацца нізінай, што вядзе да могілак, будуць акружаны цалкам.

Адчайна адбіваючыся, партызаны адыходзілі. Толькі ў апошні момант заўважылі, што з боку вёскі Восава група немцаў накіравалася ім напярэймы і выйшла да лагчыны.

- Будзем, прарывацца, - сказаў таварышам Жыгалковіч.

Пяцёра стаіліся ў альховым хмызняку, чакаючы, пакуль карнікі наблізяцца ўшчыльную. Па кустах прайшлася аўтаматная чарга, густа абсыпаючы іх голымі галінамі. Насцярожана крочачы па снезе, карнікі ўзіраліся ў кусты. Вось ужо і твары фашыстаў можна адрозніць - сінія ад холаду, напружаныя ў чаканні небяспекі.

- Рус партызан, кідай вінтоўка! - пачуўся голас.

Але стрэлаў не было. Нервы на мяжы.

Пярэднія гітлераўцы былі літаральна агаламошаны, убачыўшы перад сабой партызан. Карнікі не паспелі нават сцяміць, што адбылося, як іх сцялі стрэлы ва ўпор. Усе пяцёра кінуліся наперад, вырываючыся з ачаплення. Да месца прарыву хлынулі

акупанты, імкнучыся зноў адсекчы партызанам шлях адыходу. Шчыльным аўтаматны агонь забіў напавал Аляксандра Ждановіча. Вялікая група немцаў ахоплівала справа адходзіўшых. Аляксандру Харытановічу ўдалося літаральна пад носам у ворага выслізнуць з акружэння. Адарваўшыся ад праследу, ён неўзабаве далучыўся да засады.

Сяргею Духанаву, Івану Жыгалковічу і Сяргею Пяткевічу прабіцца да Кляцішчанскіх могілак не ўдалося. Яны прарваліся скрозь невялікі варожы заслон і злучыліся з асноўнымі сіламі атрада.

Піліп Дайнека і Вінцэсь Драздовіч назіралі ў бінокль, як фашысты ў санках-развальнях доўгім караванам рухаліся ў кірунку засады. Вораг не падазраваў нават, што зусім побач яго падпільноўваюць партызаны.

- Страляць толькі па маёй камандзе,- папярэдзіў таварышаў Драздовіч. - Беражыце патроны. Бачыце, колькі фашыстаў прэ?

І, як заўсёды перад боем, кожны імкнуўся чымсьці заняць пакутліва поўзшыя хвіліны. Кулямётчыкі правяралі дыскі, хоць напэўна ведалі, колькі ў кожным з іх патронаў. Мікалай Тэртычны для нечага лежачы калупаў sклюдам мерзлую зямлю каля мінамётнай пліты. Сёй-той пазручней уладкоўваўся для стральбы. Размаўлялі рэдка. Таму ўсе пачулі бас Аляксея Караля:

- Давай, Аніка-ваяр, бліжэй да мяне, тут зручней будзе.

Глуха бразнула зброя, і Валодзя Качаноўскі перабраўся да Караля, прыладзіўся недалёка ад яго.

- Як з патронамі? - спытаў Аляксей.

- Ёсць, - пачуўся ў адказ дзіцячы голас, - і граната таксама.

- Добра, - пахваліў хлопца Аляксей. І ўжо цішэй прамовіў: - Ты, Воўчык, не крыўдзіся за печ. Мы з табой так фашыстаў страсянём!

- Увага! - раздалася ціхая каманда Драздовіча.

Карнікі набліжаліся да ўзгорка, на якім калісьці першыя пасяленцы Клецішчаў заснавалі могілкі. Тоўстыя высокія бярозы і нізкарослы хмызняк утварылі тут нештаі накшталт невялікага астраўка сярод шырока распасцёртага роўнага поля.

І вось гэты невялікі астравок акрысіўся раптам шквалам агню. Коні кінуліся ў бакі, і немцы кулём выляцелі з санак. Яны распаўзаліся, імкнучыся хутчэй нырнуць у снег. Але трапныя партызанскія стрэлы нагналі іх. У розных паставах ляжалі забітыя, поўзалі па снезе параненыя. Чуліся іх стогны і крыкі.

Зміцер Цітко перанёс агонь кулямёта па падводах якія аддаляліся. Зваліўся пярэдні конь. Другі, які імчаўся ва ўвесь апор наскочыў на санкі з салдатамі, перакуліў і змяў іх. Яшчэ некалькі падвод не змаглі развярнуцца і загацілі дарогу. А Цітко біў і біў, не адрываючыся ад кулямёта.

Карнікі так і не апамяталіся ад агню, які раптам абваліўся на іх. Не змаглі арганізаваць супраціў.

Па засадзе адкрылі агонь варожыя мінамёты з Клецішчаў. Міны, злавесна вылі, клаліся шчыльна, падкідаючы ўгару слупы зямлі, ломячы крыжы і магільныя агароджы. Адна міна трапіла прама ў дрэва і з трэскам разарвалася. Аскепкі са свістам разляцеліся па баках.

- О-ой! - пачуў Аляксей Кароль слабы стогн і зірнуў у бок Валодзі Качаноўскага.

Хлапчук ляжаў, раскінуўшы рукі, на спіне. З рота пенілася кроў. Твар яго пабляднеў, вочы акругліліся.

- Валодзя! Воўчык! - ускрыкнуў Аляксей і кінуўся да хлопца.

Той зрабіў некалькі млявых спроб заглынуць паветра, але так і не змог - сутаргава выцягнуўся і змяк.

Кароль павярнуў лёгкае худое цельца Валодзі і жахнуўся: аскепак міны прайшоў навылёт, пакінуўшы рваную рану ў грудзях. Гэты выпадковы скрываўлены кавалачак металу з рэшткамі тканіны на шурпатых сваіх краях валяўся побач. Кароль адкінуў яго нагой, прыкрыў твар Валодзі шапкай.

Падбеглі Драздовіч, Дайнека.

- Што здарылася?

Але, убачыўшы забітага, палітрук прамовіў:

- М-да...

І раптам пачулі голас:

- Сашу Ясючэню цяжка параніла!

З боку Клецішчаў з'явілася група фашыстаў. Драздовіч даў каманду заняць кругавую абарону, страляць толькі напэўна.

Мікалай, вытні па ланцугу, - загадаў ён мінамётчыку Тэртычнаму.

Некалькі мін запар паляцелі ў ворага. Было прыкметна, як уздыбілі яны чорныя слупы зямлі ў гушчы фашыстаў. І зноў наступіла панурая цішыня. Толькі зрэдку парушаў яе стогн параненага Ясючэні.

Усе маўчалі. У такія хвіліны словы лішнія. Пільна ўзіраючыся ў рухомыя постаці немцаў, прагна дакурваў самакрутку Міхась Дзесюкевіч. Прыладжваючы кулямёт, выдзёўбваў ямачкі Іван Туміловіч. Засада маўчала.

Пачаўся мінамётны абстрэл. Залп яго прыйшоўся па цэнтры могілак. Тэртычны паслаў некалькі мін у адказ. Яны ляглі на ўскраіне вёскі - недалёт.

- Трапнаы б'е, гад, - вылаяўся Эвард Петрашэўскі, скідваючы з сябе галінку бярозы, зрэзаную асколкам.

Чарговая міна трапіла ў надмагільную пліту, каля якой прыладзіўся Франц Клімовіч, і забіла яго. Ляжаўшы непадалёк Васіль Астрэйка, выглянуўшы з-за схованкі, крыкнуў:

- Забіла Франца!

Наступны мінамётны залп цяжка вухнуў на супрацьлеглым баку могілак. Услед за ім пачуліся крыкі атакаваўшых немцаў. Яны беглі па снежнай цаліне. Свіст куль прыціскаў партызан да зямлі, прымушаючы хавацца за надмагіллямі і помнікамі. Усе чакалі каманды. Ужо фашысты зусім блізка, а каманды адкрываць агонь не было. Ляжаўшыя ў засадзе добра адрознівалі твары бегшых, іх адзежу, зброю. Пярэднія шэрагі атакаваўшых адважна пачалі штурм могілак, мяркуючы, што мінамётным агнём партызаны тут перабіты.

Зміцер Цітко прытуліўся да кулямёта. Наперадзе бег афіцэр. Ад яго не адставалі салдаты. Некалькі з іх абагналі свайго камандзіра і хутка набліжаліся да засады.

Кулямёт задрыжаў у руках Цітко. Афіцэр узмахнуў рукамі і паваліўся назад. Кулі забілі некалькіх салдатаў, якія дабеглі амаль да засады. Затым Зміцер перанёс агонь на фланг, адсек немцаў, якія акружалі могілкі, прымусіўшы іх залегчы.

Кулямётчыка дружна падтрымалі таварышы агнём з аўтаматаў і вінтовак. Правей фашысты ўсё яшчэ насядалі.

Яны падбеглі амаль ушчыльную да Туміловіча. Той адкрыў па немцах агонь з кулямёта. Але паранены гітлеравец падкраўся да кулямётчыка і кінуў у яго гранату. Кулямёт змоўк. Гэтым скарысталіся акупанты і ўварваліся на ўскраіну могілак, пацяснілі партызан. На дапамогу паспяшаліся Дайнека, Драздовіч і Петрашэўскі. Эдвард хутка лёг за кулямёт і пачаў адбіваць атаку. Дайнека зрабіў некалькі стрэлаў з пісталета па поўзшых па снезе зялёных постацях. Раптам перад ім, шыпячы, закруцілася граната з доўгай ручкай. Дайнека адбіў яе нагой, а сам кінуўся на зямлю. Граната стукнулася аб крыж і разарвалася каля суседняй магілы. Асколкі са свістам разляцеліся па баках.

Павел Лыч, Мікалай Якімовіч, Мікалай Сіневіч кінуліся насустрач атакаваўшым. Петрашэўскі па-ранейшаму паліваў ворага кулямётным агнём. Нарэшце і тут адбілі атаку. Наступіла перадышка. Палітрук Дайнека распарадзіўся аказаць дапамогу параненым, праверыць зброю і боеприпасы. Мікалай Якімовіч пабег да месца, дзе ляжаў яго паранены сябар Саша Ясючэня. Але Саша быў ужо мёртвы. У гарачцы бою ніхто не заўважыў, як



*Герой Савецкага Саюза Вінцэсь Драздовіч*

ён памёр.

Чацвярых загінулых таварышаў паклалі побач. Валодзя Качаноўскі ляжаў з краю. Дробныя снежныя крупы сыпалі зверху на нерухомыя твары загінулых, на аголеныя галовы жывых. А з боку вёскі Лавы нарастаў гул аддаленага бою.

- Там таксама, відаць, не лёгка, - заўважыў Драздовіч, гледзячы на палітрука.

- Так,- кіўнуў галавой Піліп Пятровіч Дайнека, - там горача. Значыць, вам, таварышы, трэба трымацца. Цяжка будзе, ведаеце самі. Вам, вядома, дапамогуць. А пакуль спадзяюцца на вас. Вы не павінны прапусціць ворага на гэтым участку.

Палітрук роты развітаўся, паабяцаўшы адразу ж даслаць санітараў, і, выкарыстоўваючы складкі мясцовасці перабежкамі пачаў прабірацца да Лаўскага лесу.

Ужо здалёк ён пачуў самотны выбух міны ці снарада. І гэты выбух быццам разарваў кароткую цішыню. Загула могілкавая зямля, а затым невялікія цёмныя кропкі фашыстаў папаўзлі па беласнежнай раўніне і пачалі набліжацца да месца засады. Дайнека ўжо быў далёка.

Варожы ланцуг адрэзаў групу Драздовіча ад асноўных сіл брыгады, і там на могілках стаяў суцэльны гул. Дабраўшыся да атрада, палітрук

даклаў становішча на могілках камандзіру Яроменку, папрасіў яго паслаць падмацаванне.

Нягледзячы на цяжкасці бою за вёску Лавы, Яроменка распарадзіўся выдзеліць групу партызан для аказання дапамогі Драздовічу.

Як высветлілася пазней, гэтая група, прабіраючыся да могілак, сутыкнулася з немцамі, якія заходзілі ў тыл атраду імя Катоўскага. Завязаўся бой. Праціўнік пераўзыходзіў па колькасці і адціснуў партызан у кірунку вёскі Шчарбіны. Група затым далучылася да атрада імя Шчорса.

А неўзабаве над могілкамі развеяліся клубы дыму, не стала чуваць стральбы. Атрады занялі абарону на ўскраіне лесу і адбівалі атаку за атакай. Быў загад стаяць на смерць, але не дапусціць гітлераўцаў у лес.

Фашысты павялі ўзмоцнены наступ на вёску Лавы і лес. Атрад імя Катоўскага з апошніх сіл стрымліваў атакі. І ўсё ж у другой палове дня вялікая група карнікаў уварвалася на ўзлесак. Камбрыг Капуста распарадзіўся перадаць дзве гарматы з атрада імя Катоўскага атраду імя Будзёнага і сіламі гэтага атрада спыніць ворага.

Ізноў завязаўся бой. Праціўніка адціснулі. Але пасланец прынёс несуцяшальную вестку - частка атрада імя Катоўскага адрэзана ад лесу флангавым агнём фашыстаў.

- Клюйко, да мяне! - загадаў камбрыг.

Тут жа з'явіўся Лаўрын Клюйко.

- Сабраць усе станковые кулямёты і расставіць іх па правым баку яра, - загадаў Капуста.

Клюйко адразу ж зразумеў задуму камандзіра. Літаральна праз некалькі хвілін запрацавалі нашы станкачы. Гэта было штосьці цудоўнае ў баявой практыцы партызан. Мы дзівіліся агнявому двубою, які вёўся паміж нашымі і варожымі кулямётчыкамі. Нават днём бачныя былі тысячы светлавых стрэл, накіраваных у абодва бакі. І ўсё ж нашы кулямётчыкі пад камандаваннем Клюйко прымусілі аслабіць агонь праціўніка. Тады мы ўбачылі дзіўную карціну: схіліўшыся, пад агнявым дахам выходзілі з пасткі партызаны.

- Малайчына! - пацiснуў Капуста руку Клюйко.

Ён падзякаваў кулямётчыкам за паспяхова праведзены бой.

Наступіла вячэрняе змярканне, а вораг не спыняў атакаў.

Выведка паведаміла, што лес акружаны. Толькі ў вёсцы Руднікі пакуль яшчэ не выявілі фашыстаў. Камандаванне вырашыла з наступленнем цемры вывесці атрады з Лаўскага лесу. Ноччу мы зняліся і, асцярожна прабіраючыся ў бок Руднікаў, выходзілі з акружэння, узяўшы кірунак на паўднёвы захад.

У той жа дзень уся брыгада дазналася пра несмяротны подзвіг васямнаццаці партызан на чале з камандзірам звяза Вінцэсем Драздовічам. Яны загінулі, каб не дапусціць праціўніка ў тыл, каб дапамагчы таварышам стрымаць націск карнікаў, эвакуяваць параненых партызан. Яны загінулі, каб жылі іншыя.

У архіве захоўваюцца дакументы, у якіх гаворыцца, што акрамя мужна загінулых у засадзе васямнаццаці партызан на чале з Вінцэсем Драздовічам у Лаўскім баі вызначыліся таксама намеснік камандзіра роты Міхась Захараў (загінуў), камандзіры рот Іван Радчанка і Іван Сафончык, палітрук роты Андрэй Ігнатаў, артылерысты Іван Абрамчык, Генадзь Старавойтаў, Мікалай Туміловіч і Аляксандр Астрэйка, камандзіры звязаў Іван Астрэйка, Пётр Крывега, Аляксей Дзямкоў, намеснік камандзіра роты Іван Карніенка, старшына роты Павел Валожын, байцы Міхась Шаршнёў, Мікалай Анохін, Іван Варонін, Пётр Назуноў, Мікалай Куляшоў, Фёдар Кампаніец, Іван Аляксееў, Станіслаў Гадлеўскі і іншыя.

Неўзабаве пасля Лаўскага бою яго ўдзельнік Павел Паўлавіч Ліпіла (цяпер кандыдат гістарычных навук) напісаў песню, прысвечаную подзвігу васямнаццаці адважных. Гэтую песню партызаны спявалі ў паходах, на прывалах ля вогнішчаў. Словы песні гучалі гнеўна, клікалі на подзвіг:

**Песня пра Лаўскі бой**

Запявайце песню баявую,
Што спявалі мы за ворага спіной,
Прапяём, як за зямлю святую
Мы з фашыстамі ішлі на бой.

Гора, смерць, і гвалт, пакуты, страты
Ў край наш акупанты прыняслі,
Не забылі мы, як люта каты,
Забівалі і палілі, што маглі.

Ды паўстаў народ у грозным гневе,
Па загаду партыі сваёй,
За Радзіму і за край Саветаў
Мы ўставалі ў тыле ворага сцяной.

На світанні цені замігалі -
Ланцугі фашыстаў папаўзлі;
Ды ў засадзе ваяры не спалі
І пра гэта ў лагер данясл і.

Залпаў колькі грымнула трывожных,
Смерць глядзела проста нам у твар,

Ды атрады змагароў народных
Агнявы нанеслі ёй удар.

Засвісталі кулі, завішчалі,
Здрыганула цвердзь самой зямлі,
І фашысты ў паніцы ўцякалі,
Трупамі ўсцілаючы палі.

Баявы віват артылерыстам,
Кулямётчыкам, стралкам-байцам -
Трапна білі па звярах-фашыстах,
Абавязак свой спаўнялі да канца.

Не забудзем тых, што не здаліся,
Што біліся ў засадзе, як арлы.
Вы ў памяці навечна засталіся,
Вы ў шыхце сёння між жывых.

Ворагаў нас сілы не спужаюць,
Хопіць ім і сталі, і свінца,
У паход зноў партызаны выступаюць,
Каб дабіць фашыстаў да канца.

Палітрук роты Піліп Пятровіч Дайнека быў апошні, каму пашчасціла бачыць і размаўляць з партызанамі ў засадзе на могілках. Ён з'яўляўся сведкам іх першых сутычак з ворагам. У гутарках з партызанамі каля вогнішча, на камсамольскіх і партыйных сходах ён часта потым распавядаў пра бясстрашных, мужных і стойкіх народных мсціўцаў, подзвіг якіх назаўжды застанецца ў нашай памяці.

Прайшло шмат гадоў, а ў сэрцах людзей, застаўшыхся ў жывых таварышаў, - і боль страты, і гонар за загінулых.

Радзіма высока ацаніла подзвіг васямнаццаці загінулых партызан. Усіх іх пасмяротна ганаравалі дзяржаўнымі ўзнагародамі, а камандзіру звяза Вінцэсю Драздовічу прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза.

У Лавах на помніку разам з імёнамі іншых загінулых высечаны імёны васямнаццаці маладых партызан са звяза Вінцэся Драздовіча, якія палі смерцю адважных, але не адступілі перад пераўзыходнымі сіламі ворага і далі магчымасць эвакуяваць шпіталь у бяспечнае месца, а асноўным сілам брыгады заняць зручную абарону. Яны праявілі нябачаную стойкасць і мужнасць, біліся да апошняга патрона. Іх імёны: В.М. Драздовіч, В.М. Астрэйка, М.І. Дзесюкевіч, А.В. Ждановіч, У.Ю. Качаноўскі, Ф.В. Клімовіч, А.А. Кароль, П.І. Лыч, Г.П. Пікановіч, Э.А. Петрашэўскі, Н.А. Сіневіч, Н.Т. Тэртычны, Д.К. Цітко, І.П. Туміловіч, А.П. Харытановіч, К.В. Шыцько, Л.В. Якімовіч, А.П. Ясючэня.

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Вікторыя Жукевіч-Дзівота***

# ДАНІНА ПАМЯЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Мая бабця Стэфанія**

***З ліста да Евы Гадыцкай-Цвірка.***

“Мая бабця Стэфанія - высокая, шчуплая, з арлiным носам - трымалася проста, была добра апранута, бо мама пра гэта заўсёды дбала, жыла ў Іванаўшчыне, пад лесам. Ты ведаеш, як на Крэсах падзялялі месцы жыхарства: вёскі, двары, засценкі, хутары і т.зв. ваколіцы - якраз гэтая Іванаўшчына была такой ваколіцай. Ваколіцы паўставалі вакол недалёка размешчаных засценкаў. Калі б ты хацела яшчэ сёння пабачыць засценак, то трэба было б праехаць пару кіламетраў за Нясвіж у бок Пляшавіч, і там ляжаць Качановічы - была вёска Качановічы і засценак Качановічы, які яшчэ і сёння дае ўспаміны мінуўшчыны. Там жыла сястра таты Ева і прыяцель Часлаў Рамізовіч, з якім мы сустрэліся пасля вайны ў Коле.

За разложыстым вялікім пасам лугу відаць было Іванава. Недалёка была Пукелеўшчына пана Рымашэўскага, побач Воўкаўшчына Жаўняркевічаў. Твой Юзафінак быў нябачны, ляжаў досыць далёка за Асмолавам, і няма па ім следу. У Асмолаве, як ты добра ведаеш, жылі Некрашы і Шумоўскія. Апішу табе некалі візіты пана Шумоўскага да нас у Кола...

Як апавядала мама, вёска Іванава была заселена ўсімі веравызнаннямі - каталіцкае, праваслаўнае, юдзейскае і мусульманскае - шмат было сямей татарскіх. Жылі згодна, што не азначае, што дзетвара не ўчыніць якой-небудзь штукі ў суботні шабас ці магаметанскую пятніцу. Можаш гэта прачытаць ва ўспамінах мамы. У бабці ў падворку раслі ядлоўцы, малыя ёлачкі, а за плотам быў ужо сапраўдны лес або бор - густы, мяшаны, поўны грыбоў, лясных арэхаў, ваўкоў і мядзведзяў... як апавядала мне мамуся ў дзяцінстве!

Вокны дома выходзілі на бок ўласна Іванава, гэта быў ладны кавалак ад вёскі, і калі я паехала да бабці адна ў 1971 г., то трохі там баялася спаць, але ноччу калгасныя трактары аралі палі і свяцілі фарамі, а па полі хадзілі людзі. Відаць таксама





было гарэўшае святло ў Іванаве, якое было размешчана вышэй, чым дом бабці.

Рана бабця выходзіла на падворак і праз нейкі час вярталася, несучы ў фартуху грыбы, а там грыбы гэта толькі баравікі, рыжыкі, ну і лісічкі. Быў цёплы верасень.

Бабця круцілася ў кухні - у чыгунны гарнец, уласна ў чыгунчык, бо малы (бачыла ў мяне стаіць у кухні на акне, дастала яго ў Лявонавічах у швагеркі маёй Марысі), вялікі гэта чыгун... у той чыгунчык рэзала качку, цыбулю, моркву, грыбы, пару бульбінак, накрывала накрыўкай і ставіла ў печ. У бабці ў кухні была печ, як у кожным красовым доме. Пяклі ў ёй некалі хлеб, гатавалі ежу, а вялікая частка той печы выступала ў пакой, і там сабе на той печы я ляжала вечарком і грэла плечы. Мама апавядала, як у дзяцінстве з сямейнікамі зімой з печы паглядалі на гуляўшых у карты дзядулю і дзядзькоў. Ёсць смешная песенька пра бабу, якая вылежвалася на печы, але з-за той сціпласці, якой трохі ў мяне засталося, не магу пісаць такія рэчы...

Ставілі тую качку ў печ і ішлі ў Клецк. Каля сядзібы сямейства Страцкевічаў, дзе нас частавалі пасля вяртання з Сібіры.

Сёння няма следу ад дома бабці, і мама са слязамі на вачах стаяла на яго месцы.

З Іванава, наўскасяк праз лес, было недалёка да мястэчка, мы прыходзілі ў горад і ішлі ўправа ад галоўнай вуліцы, “таксама дарожкай”, як казала бабця, вуліцай Нясвіжскай, а сёння названай Ленінскай, але бабця гэтай назвы не ведала. Паміж садкамі, ужо па асенняму пакрытымі павуцінкамі, мы ішлі на цэлы дзень да цёткі Савіцкай, удавы па настаўніку.

На стале, пакрытым саматканым абрусам, стаялі філіжанкі, узор, які не сустракаўся раней, белае з зялёнымі матывамі - гэта былі філіжанкі з фабрыкі парцаляну (фарфору) у Маскве, дзе брат дзядулі Вінцэнта “за царом” быў дырэктарам. Побач талежыкі (талерачкі большыя за сподачкі) з “канфіцюрай”, дыміла гарбата, а ў кілішачках - па “капельцы” з націскам на “а”.

Глянь ты, каханенькая, калі я аддавала рукапіс мамы ў Паморскую бібліятэку, у той самы дзень ужо пасля мяне прыйшла туды пані з падарункам для бібліятэкі - з філіжанкай з маскоўскай фабрыкі 1911 года. Што за супадзенне - патэлефанавала да мяне пані дырэктар бібліятэкі і распавяла мне пра тое, я была вельмі ўзрушаная, бо мама ў рукапісе піша пра таго дзядзьку. Але гэта не канец. Той брат дзядулі Вінцэнта некатарага са сваіх сыноў уладкаваў у Клецку, меў там краму ці аптэку, тут успаміны расходзяцца, кожны іначай памятае, можа гэта была аптэчная крама, і ведаеш, усе згаджаюцца з тым, што гаварыў прафесар Суднік-Грынкевіч, гэта якраз гэты Чарнабай купіў ваш Юзафінак!!! Глянь, як па нітцы дайшлі мы да клубка.

Але вяртаемся да бабці.

Бабця з цёткай выпівалі, відаць, што ім смакавала, мне таксама, пачыналі потым спяваць. Бабця прыгожа спявала... усе Чарнабаі музыкальныя... цётка неміласэрна фальшывіла. Мы сядзелі, і час як быццам бы спыніўся, бо апавядалі, як было за “польскім часам”.

Цётка апавядала пра страшны пажар летам 1937 года, калі выгарала значная частка гэтага мястэчка. Рынак ужо ніколі не вернецца да першабытнага стану, параненых і з апёкамі адвозілі ў шпіталь у Баранавічы. Пагарэльцы жылі ў намётах, пастаўленых вайскоўцамі. Заспявалі “Прыбылі ўланы”, і цётка ўспомніла, як клецкія дзеці збіралі грошыкі на гранатамёт для КПА (КОР, корпус памежнай аховы), гэта было ў 1938 г. Цётка перад вайной належала да ПЦК і апавядала пра забаву, якую арганізавалі ў Кухціцах для дзяцей, паехала туды з мужам разам з доктарам Крашэўскім. Ад цёткі я прывезла пару перадваенных здымкаў мамы.

А потым ішлі на могілкі, да дзядулі Вінцэнта... зараз я той магілы знайсці не магу...

Якое гэта шчасце, што іх ведала... Бабцю Стэфанію і дзядулю Вінцэнта, якога памятаю ад вяртання з Сібіры. Дзядуля памёр намнога раней за бабцю. Бабця памерла ў студзені 1972 г., захварэла на запаленне лёгкіх, мамуся акурат была пасля аперацыі, Гжэсяк маленькі, Томак у моры, мы жылі ў Шчэціне, пабегла ў консулят, ані пашпарта, ані нічога... прашу консула... як магу найласкавей...



*Бабця Стэфанія сядзіць каля сваёй хаты*

запытаў, адкуль у пані такое добрае расейскае вымаўленне... звычайна ўсім адказвала на такое пытанне, што вучыў мяне найлепшы настаўнік - Сталін, але ўсё ж у кансуляце не магла сабе дазволіць на такое выказванне, таму сказала толькі, што нарадзілася Краснаярскім краі... зразумеў!

Паглядзеў на мяне, паслухаў, узяў "бумагу" і напісаў: "Пропустить через границу на похороны", і з той "бумагой" я паехала, выйшла ў Баранавічах, мароз - 27 гр., але была добра апранута, былі тры таксі, да якой падысці? Пайшла ў білетную касу і запытала жанчыну, якая сядзела і драмала. З кім мне ехаць далей?

Баялася, хацела мець сведку, жанчына выйшла са мной і паказала кіроўцу... паехала, машына танцавала на абледзянелай дарозе, і яшчэ тая жанчына дала тэлеграму маме, што даехала.

Але ў 1956 годзе, калі першы раз стаў мажлівым выезд і пераход гэтай штучна зробленай граніцы, якая неміласэрна аддаліла красавякаў ад сваёй зямлі, я паехала з мамай у Нясвіж. Мама была вельмі ўзрушаная, паказвала мне ўсякія месцы, правяла па ўсіх сваяках - Божа. колькі было там блізкіх людзей!

Мы жылі ў бабці і цёці Альжбеты, трохі таксама ў Чановічах, у брата бабці, Міхала, сын якога быў інжынерам і некім важным у калгасе, і жылося ім добра.

Хлеба ў магазіне нельга было купіць. Мама ў міліцыі дастала "справку", што з'яўляецца "иностранцем", і з тым пропускам, бо таксама нельга было перамяшчацца па-за ўказаным адрасам, паехала ў Менск. Адтуль прывезла цэлы чамадан хлеба, з якога бабця нарабіла сабе сухароў.

Той побыт летам 1956 г. - гэта мае найлепшыя ў дзяцінстве канікулы. У Чановічах жыў сын маці хрышчонай маёй мамусі, яго дзеці Ларыса і Сяргей былі маімі равеснікамі і выдатнымі кампаньёнамі. Мы ездзілі конна і на сціртах сена, а вечарам ляжалі на "печцы" і слухалі ўспаміны дарослых.. Дзякуючы тым аповесцям я ведаю розныя гісторыйкі з мінулага пра род Чарнабаяў і не толькі. Тады яшчэ людзі жылі "польскімі" часамі. Мая Марыся ў Нясвіжы дзівіцца, адкуль я ведаю столькі сямейных гісторый...

Прыпамінаю сабе, як мама піша пра той журботны спеў кабет... Я той спеў тады чула. Паглядзі на карце, дзе Іванаўшчына, а дзе Кіркаўшчына - там кабеты вечарамі сядалі перад домам нейкага нашага кузіна, не памятаю ўжо прозвішча, іх спеў разносіўся далёка, да сёння маю той сапраўдны канцэрт у памяці.

Пазнаёмілася тады з другім братам бабці - Антоніем, яго ўнучка, гэта якраз Марыся, жыве з сям'ёй у Нясвіжы, і гэта ў яе я затрымліваюся заўсёды ў час побыту ў Нясвіжы, а яе дочкі Святлана і Аксана адведваюць нас летам.

Даведалася таксама пра стрыечнага брата бабці - Шчарбача, забыла імя, заснавальніка хору ў Лявонавічах. Другі з сям'і Шчарбачоў, Міхал, быў таксама ў арміі Андэрса, прымаў нас абоіх з мамай, калі мы ездзілі да брата мамы Сяргея, бо таксама жыў у Лондане. Мама апавядала, што калі была дзіцем, гэты дзядзька Міхал моцна яе любіў, калі вяртаўся з Клецка, ехаў брычкай каля дома дзядоў, а мамуся, седзячы на высокай сасне, вітала яго свістам маршу "Пан Цыбульскі сваю жонку прадае". Я ніколі не даведалася той мелодыі, а за канцэрт маме заўсёды былі каляровыя крэйды, сшытак або нешта іншае.

Вяртаемся да хору - гэты хор здабываў узнагароды, чулі яго спеў таксама ў нашым "калгасніку" ў Коле, у перадачы з Масквы. Хор існуе дагэтуль, заўсёды спявае падчас усіх урачыстасцяў у Нясвіжы, сапраўды вельмі прыгожа. а я вітаюся з кабетамі з таго хору як нашчадак заснавальніка. На здымку з хорам стаяць злева: Марыся Слізень і Ірэнка Пілашэўская, якая доўгі час займалася ў Нясвіжы аднаўленнем танца-



вальных суполак у польскім стылі, сама харэограф і да сёння ў сваіх Пулавах "вырабляе" выдатныя інсцэніроўкі, ніжэй мае кузіны Галюся і Мілюня, Ева Русалка і мая нясвіжская кузіна Марыся Матус.

Мама вельмі перажывала той побыт у 1956 годзе, галоўным чынам з пагляду на цяжкія ўмовы, у якіх жыла бабця, у суседзяў заплаціла за цэлы год за малако, а таксама і з Кола высылала штомесяц пасылкі з мукой і цукрам.

Мы, якія перажылі такую ж "пустыню" ў крамах у 80-х гадах, добра можам сабе ўявіць вобраз той шчаслівай краіны, "где так вольно дышит человек".

У пазнейшыя гады ўмовы жыцця бабці паправіліся. Бацькі штогод праводзілі там адпачынкі, моцна дапамагалі бабці матэрыяльна і абавязкова хацелі забраць бабцю ў Польшчу.

Бабця прыехла да нас у 1968 годзе, з Лондана прыехаў сын Сяргей, якога не бачыла з 1939 года, сібірак, андэрсавец, удзельнік бітвы пад Монтэ Касіна. Я прыехала са Шчэціна ў кароткі адпачынак. Падабалася бабці ўсё, але застацца не захацела.... "Дзеці, - казала, - для мяне тут паветра нядобрае".

***Рацэпт аладак ад бабці Стэфаніі:***

*40 даг (1 даг - 10 г) мукі, 700 мл малака, 5 даг масла або маргарыны, 2 яйкі, 3 даг драожджэй, 1 даг цукру, тлушч для смажання, соль для смаку.*

*Малако (100 мл) замясіць з дрожджамі, перацёртымі з цукрам і мукой (1 даг), пакінуць, каб падходзілі. Далей змяшаць з пазасталым малаком, прасеянай мукой і жаўткамі, пасаліць і добра вымешаць. Падрыхтаванае цеста вымешаць з растопленым маслам, потым з узбітымі да пены бялкамі, паставіць, каб падходзіла. Патэльнечкі дыяметрам 14 см пашмараваць тлушчам, пакласці цеста таўшчынёй у 1 см, падсмажыць з абодвух бакоў, або спячы ў гарачай духоўцы. Падаваць адразу пасля смажання палітыя маслам.*

**Кананізацыя св. Уршулі Ледахоўскай**

*"Ля падножжа крыжа адкрываецца для душы штораз то новы гарызонт любові".*

***Св. Уршуля Ледахоўская.***

З уршлянкамі першы раз я сутыкнулася ў 1959 годзе - мой сп. тата паехаў у Познань і стараўся для мяне месца ў бурсе ў уршулянак - якраз я здала экзамен і была прынятая ў Медычную акадэмію. У 1958 годзе, непасрэдна пасля атрымання атэстата сталасці, на жаль, у ВНУ я не паступіла. Шок у Колле. Жукевіч не паступіла на медыцыну! Бацька таксама не мог з тым пагадзіцца і паехаў да дэкана праф. Штольцмана на т.зв. размову - дэкан прынёс мае дакументы і сказаў: "Паглядзіце, што вашая дачка напісала ў аўтабіяграфіі".

А там стаяла: нарадзілася ў Сібіры, у Краснаярскім краі, куды вывезлі 21.06.1941 г. маю маму на сёмым месяцы цяжарнасці разам з іншымі

жыхарамі Нясвіжскага павета". Дэкан сказаў тату: "У наступным годзе праверце аўтабіяграфію дачкі". Думаю, што з гэтай прычыны панізілі мне адзнаку на экзамене па хіміі - было тады 8 чалавек на адно месца. Бацька вярнуўся зруйнаваны... але што было рабіць, навука пры "Вольнай Еўропе" і ВВС не прайшла на марна...

На жаль, у манахінь не было вольнага месца і час вучобы ў Познані я пражыла ў інтэрнаце акадэміі. Гэта быў вельмі добры выхад, да сёння з маімі каляжанкамі інтэрната мы ў прыяцельскіх кантактах. Столькі ўспамінаў і перажыванняў нас злучае!!! Гэта быў найлепшы час у маёй маладосці.

Чула пра "шэрых уршулянак", відавочна, што былі ў Познані, сям'я Ледахоўскіх таксам не была для мяне незнаёмай, бо заўсёды цікавілі мяне людзі ў гісторыі Польшчы, але бліжэй постаццю заснавальніцы супольнасці я не цікавілася.

Прозвішча Ледахоўскіх з'явілася ў маім жыцці ўжо ў замустве.

Муж мой, Томаш Дзівота, капітан вялікага карабля, выпускнік Марской школы ў Шчэціне, часта ва ўспамінах апавядаў пра свайго выкладчыка - капітана Антонія Ледахоўскага, цётка якога, Уршуля памерла ў арэоле святасці - гаварыў даслоўна: мае ў сям'і святую. Гаварыў мне пра гэта ў 60-х гадах, сам у школе быў у 50-х - хто тады думаў, што ў Польшчы будуць нейкія святыя, але такія меркаванні ўжо былі.

(Дадам тут, што ўспаміны пра капітана Ледахоўскага, якія напісаў мой муж, я аддала ў рукі Яго Экселенцыі арцыбіскупа Ст. Дзівіша ў дзень кананізацыі св. Уршулі.)

Часта, прысутнічаючы духоўна ў якой-небудзь кананізацыі, што транслявалася па тэлебачанні, гаварыла мужу: "Якое гэта мусіць быць шчасце быць там на пляцы Св. Пятра. У такі выключны дзень чалавек, які там знаходзіцца, можа спазнаць шмат ласк ад Бога, перажыць нешта, што застанецца назаўсёды ў яго сэрцы.

Так думала і так адчувала.

Не ведала яшчэ слоў Уршулі Ледахоўскай:

*"Святы - гэта прыяцель, суцяшальнік, гэта любячы брат. Адчувае нашыя беды, клопаты, моліцца за нас, прагне нам дабра і шчасця, бо злучаюць яго з намі "стасункі святых".*

Калі абвясцілі тэрмін кананізацыі, я была ў роспачы пасля раптоўнай смерці майго адзінага любімага сына, меў няпоўныя 30 гадоў, неўзабаве пасля яго памерла мая мама... Адышлі раптоўна, так, як мой тата, які памёр на маіх руках - я чакала тады прыход на свет майго сына...

У год беатыфікацыі Уршулі Ледахоўскай, у 1983, ехалі мы з сынам на спатканне са Святым Айцом на Яснай Гуры, было ваеннае становішча, атмасфера асаблівая, Ясна Гура абстаўлена блакітнымі міліцэйскімі машынамі, праверка пілігрымаў, а мой Гжэсек за кашуляй меў схаваны транспарант - быў наймалодшы, таму ксёндз Генрык, які вёў пілігрымку, сказаў: "Гжэсю, не бойся, цябе ніхто не кране". У перадачах з урачыстасці над натоўпам узвышаецца транспарант з надпісам "Свінавусце".

Паехаць на кананізацыю, паехаць з Пнеў, з дому святой...

Сустрэлася са св. У. Лелахоўскай пры яе саркафагу. Палажыла на яго руку і малілася: "Дапамажы мне, скажы, як мне жыць, дапамажы мне выцерпець пасля страты найбліжэйшых, скажы, што мне рабіць далей..."

Роспач мая была не для апісання, падупала таксама здароўем, не магла прыйсці да сябе нават на працы, у маім пакліканні, працы лекара.

Пасля малітвы ўвайшла ў келью Святой Уршулі - гэта было велізарнае, узрушальнае перажыванне - укленчыць там, даткнуцца рукой да рэчаў, глядзець на яе касу, на дробязі - ніколі перад тым у такім месцы не была...

Сёння, калі пішу гэтыя словы, мінуў амаль год ад тых дзён, а ўсё ўва мне жывое і выразнае.

Перад пачаткам пілігрымкі - святая імша пры саркафагу святой, гэта трэба перажыць, а я ўсё ж не такая ўжо пабожная, заўсёды не хапае мне той дзіцячай даверлівасці і адданасці, якія мае , напрыклад, мая прыяцелька Бася Гаржковіч, пра якую я кажу, што калі не раз я забывалася на малітву, то і так Бася Пану Богу пра мяне раскажа..., а я звычайны чарвяк, які поўзае па зямлі і стараецца толькі падымаць галаву і прасіць Бога аб міласэрнасці... Ведаю пра тое, што Пан Бог чуў мае просьбы, бо не пакідаў мяне ніколі, таксама і на маёй працы. На маіх дзяжурствах ніколі не нарадзілася дзіця з недахопамі ў развіцці, ніколі таксама пры цяжарнасці, якую я вяла, не было хворага дзіцяці. Гэта была апека Божая, раскінутая не толькі над пацыенткай, але і нада мною.

У падарожжы ў Рым пазнаёмілася з добрымі і сардэчнымі людзьмі, з некаторымі засталася ў блізкім кантакце.

Сярод удзельніка пелігрымкі была Галіна В., сястра знаёмага з Свінавусця і марака, які плаваў з маім мужам, хворая, з вельмі сур'ёзнымі дыягназамі з познаньскіх клінік.

На плошчы Св. Пятра я хацела быць з ёю, каб яна пачувалася больш спакойна, маючы каля сябе лекара.

Сказала ёй, што гэта асаблівы дзень, у гэтым

месцы трэба быць уважлівым, бо можна сустрэць розных людзей, трэба быць пільным. Я не гаварыла пар гэта. як пра перасцярогу, а як пра надзею на нешта добрае і радаснае. Бо гэты ўдзел у кананізацыі быў ад даўна маёй марай.

Дзень быў маёвы, пасля начнога праліўнога дажджу паветра свежае, сонца, неба блакітнае, як у Італіі. Ведаю гэтае неба. бо шмат часу пад ім правяла, шчаслівых дзён з мужам і сынам, таксама ў Рыме, з трыманнем Святога Айца за чацвёрты і пяты палец левай далоні на працягу даўгаватай хвілі...

Пасля ўрачыстасцяў, з Галінай В., якая пачувалася цалкам добра, мы ішлі да нашай групкі пад св. Яцка Адравужа. Галіна заўважыла знаёмую манашку з Пнеў - высокую, прыгожую, з усмешкай, як усе шэрыя ўршулянкі, сястру Уршулю, каля яе стаяла шчуплая, дробная дзяўчына, таксама ўршулянка.

Галіна прывіталася, я таксама і загаварыла з малодшай сястрой, ці таксама з Пнеў? Так сапраўды з Пнеў, але паходзіць з Беларусі... Я паглядзела на яе з недаверам - гаворыць без усходняга “заспеву” (напеўнага акцэнту), прыгожай пальшчызнай, пазнаю заўсёды людзей з крэсаў, але нешта мяне ткнула, адкуль з Беларусі?

- Ах, не будзе пані ведаць, гэта такая малая вёска паміж Навагрудкам і Нясвіжам...

Забілася мне мацней сэрца. Божа, гэта ж радзімыя краі маіх мамы і таты, гавару пра тое, размова хуткая, бо праходзіць група той сястры, і клічуць яе.

- Сястра, якое маеш імя, - пытаю.

- Чеслава.

- Чэсю, глянь тут на сваю патронку, на нашую святую, памятай, што ад сёння ты маеш у Свінавусці сям’ю, хутка абменьваемся адрасамі, узрушэнне агарнула нас усіх, абдымаемся, плачам - Галіна, абедзве ўршулянкі і я. Даю таксама с. Чеславе адрас сваякоў у Нясвіжы, бо маю ў плане выезд. Яшчэ адно прытуленне да сэрца, і адходзім да сваіх груп, а с. Уршуля гаворыць:

- Папрасіце сястру, якая праводзіць пілігрымку, каб распавяла гісторыю Чэсі.

Гляджу яшчэ раз у бок базылікі, на выяву святой і кажу ў сэрцы да яе:

- Дарагая Уршуля Ледахоўская! Што рыхтуеш для мяне, знаходзячыся ў славе і святасці і гледзячы на нас...

Ідзём з Галінай да групы, доўга не можам супакоіцца.

Падва і Асіз - наступныя месцы нашай пілігрымкі.

Я выхоўвалася, можна так сказаць, у цені кляштара аа. бернардынцаў, размешчанага каля Фары XIV ст. у Коле - у няпоўнай сярэдняй школе № 3 хутка адмянілі ўрокі рэлігіі, стварыўшы ў ёй школу ТСД (Таварыства сяброў дзяцей), зрэшты неўзабаве рэлігія знікла са школ. Мама мая пачала пасылаць мяне на навуку рэлігіі ўласна ў кляштар - вучыў мяне шляхетны бернардынец - айцец Валенты, вельмі патрабавальны, але поўны цяпла і гумару - дазваляў мне таксама не раз граць на аргане. І задаваў на дом практыкаванні з лаціны.

Постаці святых Антонія і Францішка былі мне вельмі блізкія. Пазней св. Францішак быў улюбёным святым майго сына, які заўсёды думаў над тым. як бы сённяшні свет прымаў бы такую постаць, часта таксама паўтараў мне, каб не перажывала за яго (г.зн. за сына), бо кожны мае адкрытую дарогу да святасці, ён - таксама, гаварыў гэта ўсміхаючыся, але св. Францішак быў для яго постаццю і святым на ўсе часы. Гэтае адступленне узнікла ад таго, што пасля смерці сына я часта малілася да св. Францішка, просячы яго, каб знайшоў майго сына, узяў яго за руку і прывёў да Хрыста.

Мама мая вялікай павагай атачала св. Антонія, абраз якога заўсёды вісеў у нашым доме, цяпер вісіць у маім.

Мама заўсёды паўтарала, што вымаліла ў святога мой атэстат, бо з экзамена па матэматыцы выгналі мяне за тое, што паказала каляжанцы, якая сядзела за мной, рашэнне задачы. Вылецела толькі я. У час экзаменаў злажыла мяне хвароба - 39 градусаў тэмпературы, скула перадсэрдзя носа, вельмі небяспечная хвароба, якая пагражала сур’ёзным ускладненнем (запорам ямістай затокі), лекар сказаў тату: “Проша пана, або атэстат, або жыццё... закруціла бінтам увесь твар, ледзве мела сілы напісаць сваё, што тут цяпер гаварыць пра шпаргалку... Мама хадзіла штодзённа ў кляштар і дзякавала св. Антонію, бо каб не тая хвароба, зноў бы вылецела...

У Падве, пры рэліквіях святога вярнула фізічныя сілы, перастала мне балець сэрца, унармаваўся ціск.

... А св. Антоні яшчэ прыйшоў на мой экзамен па ларыгалогіі, які здавалі па некалькі разоў, вылятаючы абы за што, напр., за няправільнае ўзяцце ў руку якога-небудзь інструмента, а я якраз на практычным экзамене выцягнула тэму “Ускладненні ад скулы перадсердзя носа”...

Канешне, здала з першага заходу.

Асіз. З Гертрудай, яна з’віцца яшчэ ў маіх успамінах пад імем Прымаверы (так я называла,

бо радасная, шчырая, выдае з сябе цяпло і зычлівасць, сама як вясна), мы аддаліліся ад нашай групы і адны былі каля магілы святога. Я замовіла імшу за сына, выняла фатаграфіі маіх найбліжэйшых, прылажыла іх да каменя і, трымаючы руку на камені магілы, прасіла св. Францішка, каб выдаліў з майго сэрца жалобу і жаль, каб святы пашукаў на "зялёных пашах" майго сына, каб узяў яго за руку і завёў да Пана Езуса. Доўга яшчэ малілася ў Верхняй базыліцы. Калі выйшла, не адчувала цяжару маіх страхаў.

З ксендзам Юзафам, які прысутнічаў пры адкрыцці саркафага святой Уршулі Ледахоўскай у Пневах, сышлі на ніз у мястэчка купіць ружанцаў для дзяцей, ксёндз папрасіў каля 20, я таксама - для сябе і ўнукаў прыяцеляў.

Вярнуліся на дзядзінец, кс. Юзаф сказаў, што зойдзе яшчэ ў базыліку, бо адчувае патрэбу ў малітве, я адчула падобнае і пайшла за ім... Натоўп уваходзіўшых быў вялікі, і мы паволі прасоўваліся да ўваходу.

Каля нас стаялі два мужчыны, якія выдзяляліся высокім ростам. Звярнула на іх увагу перш за ўсё з-за росту - мой сын меў 193 см, а потым на вопратку - асаблівая, як на такі цёплы дзень. Тоўстыя палярныя свэтры, высока зашнураваныя траперскія чаравікі, з якіх выступалі ваўняныя шкарпэткі, заплечнікі.

Часта мне здараецца, што гавару нешта пад уплывам хвілі, таму пытаю: " Чаму вы так цёпла апрануты ў такі дзень?" Трохі бесцырымонна, але што праўда, былі маладыя. Кс. Юзаф паглядзеў на мяне, на іх - цішыня - ну так, адазвалася не задумваючыся па-польску - пэўна не разумеюць, падумала. Але адзін з іх сказаў, што не хацеў нас перабіваць...

Выдыхнула палякі - другі з іх з барадой і капой кучаравых чорных валасоў сказах: "Мы так апрануты, бо з Сібіры", - і засмяяўся.

Паглядзела на кс. Юзафа і кажу:

- Ага, з Сібіры..., але нас грузяць...

У той самы момант аж здранцвела:

- З Сібіры? - пытаю, - а адкуль?

- Маем пад апекай Краснаярск, Канск, Брацк...

Перапужалася. не адчувала ні рук, ні ног:

- Вы ксяндзы?

- Так, - адказваюць.

Я гавару:

- А я таксама з Сібіры...

Яны ў смех:

- Адкуль?

Увайшлі ўжо ў базыліку, таму хутка і горача гавару ім, што маю маму цяжарную бальшавікі высадзілі з транспарту ў сэрцы тайгі, у лагеры ў Аманашы, а потым мы былі ў Канску.

Здзіўленне з майго боку, аж страх - што за сустрэча - гавару, што за выпадак, а мужчына з чорнай кучаравай барадой гаворыць:

- Пан Бог ведае, што рабіць і кудою людзей весці.

Абмен адрасамі, думкі над здарэннем, малітва ў базыліцы. Божа, думаю ў сэрцы, што хочаш мне сказаць, які знак мне даеш? Найперш с. Часлава, якая нарадзілася ў радзімых краях маіх бацькоў, зараз духоўна працуе ў Сібіры, у месцы высылкі маёй мамы і майго нараджэння.

Па дарозе дадому, распавядаю ўсім пра тыя здарэнні. Гэта ўсё было так неверагодна, што каб не было пры мне Галіны В. і кс. Юзафа Вахавяка з Глухава, то мусіць сама падумала б, што гэта сон.

У аўтакары пачула гісторыю жыцця с. Чаславы.

Нарадзілася ў каталіцкай сям'і, перапоўненай верай у Божую апеку. Маці яе, будучы цяжарнай, атрымала шмат страхаў ад лекараў, якія цвердзілі, што з цяжарнасці нічога не будзе, угаворвалі яе пазбавіцца ад дзіцяці. Маці аднак упарта паўтарала, што дзіця народзіцца, а Пан Бог будзе ведаць, што з ім зрабіць. Прычэпкі да маці мелі сваю падкладку, бо яна змагалася за крыж, які ставілі ў вёсцы, дзе жыла.

Апавядала мне таксама сястра майго таты, што крыж ставілі людзі днём, а ноччу НКВД прыязджала, і крыж або валялі, або забіралі, і так па колу. Мама Чэсі, калі прыехалі трактарам і з піламі, каб урыж парэзаць, легла на крыжы і сказала:

- Рэжце разам са мной...

Неўзабаве нарадзіла дзіця і памерла пасля родаў. Сястра Часлава выцерпела шмат у школе за сваё сведчанне веры, але калі прымала пострыг, яе найбольшая пераследавальніца, настаўніца, папрасіла ў яе прабачэння.

У ліпені, праз два месяцы пасля кананізацыі, я з маім Таварыствам несвіжан паехала ў Беларусь. Сустрэлася з с. Чаславай, яна таксама была пазней у нас, у нашым доме - за кароткі час побыту ў нас унесла ў дом прамяністую радасць і цяпло, палюбілі яе нашы прыяцелі. Я арганізавала ёй сустрэчу ў касцёле, было лета, шмат турыстаў з Польшчы, парафіяне таксама былі шчодрыя, бо зрабіла на іх уражанне апавяданне ўршулянкі пра ўмовы, у якіх жывуць дзеці ва ўсходняй Беларусі, у ваколіцах Віцебска. Хапіла на рамонт і ўтрыманне дома для вулічных дзяцей.

Вяртаючыся думкамі ў Канск, да пакут і ссылкі маёй мамы і тысяч іншых ссыльных толькі




за тое, што былі палякамі, у тым годзе ў студзені я адкрыла ў фарным касцёле пад назвай Узвіжання Святога Крыжа ў Коле дошку, прысвечаную ім усім.

Адкрыццё дошкі ў фарным касцёле ў Коле 18 студзеня 2004 г. сабрала шмат красавякаў, у тым ліку нясвіжцаў, іхніх сямей і нашчадкаў. Нясвіжцы не падвялі, прыехалі з розных бакоў Польшчы, сустрэла людзей, якія некалі адведвалі дом маіх бацькоў, прыехалі таксама мае прыяцелі. калегі са школы. У арганізацыі ўрачыстасці падтрымліваў мяне мой выхавацель са школы доктар Юзаф Муйта, гісторык, у тэхнічных працах - зяць прыяцеляў Марыюш Вайташэўскі.

Сустрэчу ўзбагаціла выстава памятак, здымкаў, розных захаваных прадметаў з красовых дамоў, напр.: тканін, сурвэтаў, між іншым выдатныя гафты сп. Алімпіі Ратомскай са Слаўкава. Пасля св. імшы, якую адправіў кс. канонік Юзаф Вранкевіч, адбылося спатканне ў Кольскім музеі, звязанае з выставай памятак, а паколькі мароз быў моцны, то і з пачастункам.

Колькі слоў мушу напісаць пра ксендза каноніка Юзафа... Што за збег акалічнасцяў! Яго апекуном, які падтрымліваў у перыяд тэалагічнай адукацыі, быў, як аказалася, ксёндз Тартанус, швагер нашай несвіжанкі Станіславы Тартанус, мамы Басі і Бажэнкі (мы, несвіжане, гаворым на сясцёр: “Дзяўчынкі”). Пазнаёмілася з тым незвычайным ксендзам, калі ляжала ў шпіталі ў Турку пасля аўтамабільнай аварыі, з якой, дзякуючы Божай апецы, мы з мужам выйшлі цэлымі. Апавядала Стася Тартанус, што браты так былі падобныя адзін на другога, што калі яе муж прыязджаў на парафію ў Кладаву да брата, людзі, што прыходзілі да пробашча па справах, са здзіўленнем чулі адказ:

- Але ксендза няма.

Прыглядаліся здзіўленыя і думалі сабе: “Што гэта з нашым пробашчам зрабілася, што так гаворыць...”. Падабенства было велізарнае.

Вечарам ужо ў малым коле сяброў, чальцоў Таварыства несвіжан мы сустрэліся за сталом у гасцінным доме сяброў маёй сям’і - Марыі, Тарэсы і Зянона Ратомскіх, нашчадкаў сям’і землеўладальнікаў са Слаўкава. У пп. Ратомскіх жыла нейкі час пасля прыезду ў Польшчу наша варшаўская несвіжанка, м.ін. заснавальніца Таварыства несвіжан - Галіна Асмольская. Яна таксама дапамагала нам падчас таго вечара.

Успамінам не было канца.

Страшным, марозячым кроў у жылах, але і хвілямі даводзячым да выбухаў смеху апавяданнем уразіў нас гаспадар дома старэйшына роду Ратомскіх. Пан Зэнак - удзельнік нашых выездаў у Нясвіж - выдзяляўся элегантнасцю ў даваенным

добрым стылі: гарнітур, камізэлька, капялюш, палачка. Гэта аповесць пра яго выправу цераз зялёную граніцу ўжо з Польшчы, без білета, з мяшком выраблeных аўчын зноў у Нясвіж, у Слаўкава, да дзяўчыны, якая, аднак, не дачакалася яго... не ведаю, ці магу змясціць гэты аповед. Мушу спытаць героя той выправы.

Думаю, што гэта ўсё, пра што тут апавядаю, сталася з дапамогай святой Уршулі Ледахоўскай, што з яе дапамогай я магла прачытаць тыя знакі, якія Бог ставіць на дарозе ўсіх людзей і што адважныя сэрцы патрапяць іх прачытаць, і што тое, што рабілася, было ўласна "Святым промыслам", некаторыя словы стараюся штодзённа паўтараць, бо веру ў іх бязмежна.

*"З волі Божай мы ёсць тым, чым ёсць"*

***(св. У. Ледахоўская).***

25.07.2004 г.

Дапісваю ў лютым 2015 г.

17 верасня 2014 г. зазваніў у мяне тэлефон. Шчэнсць Божа! Тут айцец Марцін з Сібіры..., а гэта быў якраз Дзень сібірака, і якраз адтуль прыйшоў да мяне той голас...

А ў студзені 2015 г. прымалі мы ўжо айца Марціна ў нашым доме і ў маёй парафіі. Дыяцэзія, у якой працуе а. Марцін - Іркуцка-Брацкая - у тры разы большая, чым наша Бацькаўшчына. Адлегласць да парафіі каля 1000 км, якія зімой можна пераадольваць па замёрзлых разлівах Ангары.

Што гэта за незвычайны чалавек, мае 46 гадоў, пашырае культ дабраславёнага Баяноўскага, будуе касцёлы, ордэнскія дамы... І чакае мяне... у Канску.

Айцец Марцін, кляратын, у Сібіры з 19 гадоў.

"... Шмат нашых парафіян, - распавядае а. Марцін пра сваё жыццё, - чакала на ксендза шмат гадоў, часам нават некалькі дзесяцігоддзяў. Гэтыя людзі не ведаюць, кім быў Банавентура, ці св. Тамаш з Аквіну, не маюць таксама тэарэтычных асноў веры, простыя, але якраз у гэтай прастаце адкрываецца пашана да таго, што святое. Некалі я адкрыў, што яны маюць вялікае шанаванне да свянцонай вады. Адна пані, якую сустрэў у нядаўна адкрытай вёсцы, паказала мне бутэлечку са свянцонай вадой, якую 40 гадоў назад атрымала ад нейкага каплана. Ужывала яе толькі для пакрапення магілы пры пахаванні. Хоць нашая каталіцкая парафія знаходзіцца там ужо некалькі добрых гадоў, але шматкратна здараецца, што мы пастаянна адкрываем вёскі, у якіх людзі не бачылі ксендза па 60 гадоў. Людзі гэтыя, калі даведваюцца, што я каталіцкі ксёндз, прымаюць мяне з вялікай радасцю і ўдзячнасцю, скіраванай да Бога. Калі адкрываю такую вёску, змучаны і змарнаваны спавядаю, хрышчу, спраўляю эўхарыстыю, у якой удзельнічаюць людзі праз 60 гадоў, думаю, што толькі для гэтага варта было сюды прыехаць. Для адкрыцця такога, хоць бы аднаго чалавека. Варта для выратавання хоць бы адной душы паехаць у Сібір. Яны там адчуваюць вялікі голад па Богу. Думаю, што ў Польшчы мы часта не даацэньваем гэтага".



Ва Усолі, месцы ссылкі св. Рафала Каліноўскага, будуе цяпер а. Марцін кляштар для сясцёр клярысак.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Васіль Драгавец*

# Запозненае прызнанне

## *Біяграфічны сповед*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

## Адмеціны

*Паблукаў я па сцежачках свайго радовішча, паўспамінаў радню, бобуль з дзядулямі - настала чарга зазірнуць у родную хатку, вярнуцца ў ласкавы прытулак да бацькі і маці. Мінаюцца гады за гадамі, усё далей адыходзіць у нябыт той цудоўны кавалачак жыцця з бацькамі, у сваёй хатцы, пры здароўі ды радасці. Наступіць момант, не такі ён далёкі, сыдзем мы, тыя, хто нарадзіўся ў вясковых хатах, і час гэты канчаткова растворыцца ў касмічнай знічы. Растворыцца, знікне, не пакіне і следу... Адно застанецца - напісанае аб ім ды захаванае ў вобразах, зазнятае на фотакартках. Прамільгнуць гады за гадамі, дзесяцігоддзі за дзесяцігоддзямі, то мо і закарціць каму з нашчадкаў зазірнуць у наш час, даведацца што пра нас, як жылі, аб чым думалі, чаго дамагаліся. Нешта знойдзецца ў архівах, на пажоўклых старонках газет, у сямейных альбомах і на флэшках, калі захаваюцца, а каму, мо, патрапяць у рукі і гэтыя нататкі пра тое нашае жыццё.*

*Мо, будуць і тыя з нашага роду, што захочуць ведаць не толькі пра час, якога няма, але і пра сваіх, адышоўшых у нябыт продкаў, што жылі ў шасцідзясятыя ці сямідзясятыя гады XX стагоддзя. Якімі яны былі, што мелі на стале, чым поўніліся іх дні і ночы, што было ў іх сэрцах? Таму і спрабую зараз, хоць у абрысах, расказаць пра гэта.*



### Дзень. Ад раніцы да вечара

Самай значнай падзеяй у сям'і стала пабудова свайго жытла і пераезд з хутара на вёску. Бацьку выпусцілі з арміі толькі ў 1947 годзе. На яго навалілася гаспадарка. Айчым, Петрык, да спраў гаспадарчых няздольны, слабы здароўем, карпее за швейнай машынкай; маці, баба Наташа, таксама далася сілаю за вайну ды за свае жыццёвыяператрусы. Гады са два бацька мучыўся на прыватніцкіх палосках, цягаў гной, араў, сеяў і разумеў, што гэта тупік. Пасля вайны ў франтавікоў, пабыўшых у Еўропе ды Германіі, розум стаў іншы. Так і бацька, як ён сам прыпамінаў:

- Важу гной на поле. Адзін, помачы няма. А пачну араць - мучаюся з канём; зямля - адна няўдобіца. Няўжо, думаю, так і будзе да старасці? Недзе ж і па-другому людзі жывуць...



Ды "памагла" калектывізацыя, якая пачалася на заходніх землях у канцы саракавых, пачатку пяцідзясятых гадоў. Вядома, у кожнай бядзе ёсць пачатак новага ліха. У калгас, у калектыўную ўласнасць забралі зямлю, каня, вупраж, плугі, бароны... Заробку аніякага. Хочаш жыві, хочаш памірай - начальству ўсяроўна. А тут сям'я, маленькі сынок Вася. Трэба неяк ратавацца, ды дзе шукаць той паратунак? Бацька праз франтавых знаёмых дамогся работы ў друкарні МТС (машынна-трактарная станцыя). Такія станцыі стваралі ў раёнах для ўтрымання тэхнікі, у асноўным трактароў. Тагачасныя калгасы сваёй тэхнікі не мелі, для дапамогі ім былі прызначаны МТСы. Гэта накшталт сучасных тэхнічных цэнтраў. Але з ідэалагічнай прыпраўкай. Пры станцыях меліся палітычныя аддзелы, правобразы будучых райкамаў ды выканкамаў. Выдавалася газета, орган МТС "Чырвоны сцяг", была друкарня. Вось туды прынялі бацьку друкаром.

Ён уставаў рана і ці роварам, ці пехатою дабіраўся з хадатаўскага хутара напрасткі праз Гусакі, Карцэвічы, Аліхоўку, Альбу да Нясвіжа, кіламетраў, дванаццаць-трынаццаць, і столькі ж назад. Зараз пры нашай аўтааздобленасці цяжка нават уявіць такое. Як гэта: кожны дзень палявымі сцежкамі столькі ісці, бегчы ці ехаць на ровары на працу?!



*Друкарня "Чырвонага сцяга". Бацька (злева) і дзяўчаты-наборшчыцы. 1952-1953 гг.*

Але выбіраць не прыходзілася - бацька радаваўся, што была работа, быў заробак. Калі замятала дарогі ці наступала восеньская гразюка, ён заставаўся начаваць у Нясвіжы і некалькі дзён не прыязджаў на хутар. Так прайшоў год ці паўтара. Сітуацыя, аднак, заходзіла ў тупік. Маці журылася са мною ў адзіноце на хутары, не вельмі ладзілася са свякроўю, бабай Наташай; бацьку даставала дарога і маркота за пакінутую сям'ю. Выхад адзін - будаваць хату. Інакш сям'я разваліцца. Маці ўжо прасілася ў сваіх бацькоў, каб забралі яе з Хадатавічаў у Малаеды.

Пляц бацька ўзяў амаль што на тым месцы, дзе некалі стаяла хата дзеда Андрэя. За гэта прыйшлося пазмагацца, бо на ўчастак прэтэндавала суседка Домка Базылёва. Муж пагінуў на вайне, яна засталася з трыма сынамі і хацела, каб ўсе

пабудаваліся разам, праз дарогу ад яе хаты. Бацька таксама меў рацыю, бо то было дзедава лецішча, можна сказаць, радавое месца. Ён без усялякага сумневу атрымаў дазвол і распачаў будоўлю. У адносінах з Домкай засталася нацягнутасць, але пакрысе яна прайшла. Сама Домка не такая злапамятлівая, а вось сын яе сярэдні Росцік, які пасяліўся каля нас, трымаў на бацьку гэтую жабу да апошніх дзён. Жылі мы побач, без аніякіх спрэчак, дзеці ведалі адны другіх, жонка Росцікава Анюта - прыемная жанчына. Аднак сам ён, напіўшыся гарэлкі, мог калі-нікалі што сказаць не вельмі прыемнае пра бацьку за вочы. Пераждылося.



*Хату зрабілі з дзедавага гумна*

Было там, на новым пляцы, хораша. За соткамі ўнізе, як люстэрка, круглае, парослае купінамі балота. Па вясне там распачыналіся канцэрты "філарманічнага аркестра", гучалі самыя неверагодныя інструменты і дзіўныя гармоніі: квакалі жабы, плёскаліся карасі, на розныя лады перакліквааліся і свісталі крыламі птушкі, кракалі качкі. "Кірпатых жабаў гучны хор будзіў юначае натхненне...", - зладжыліся калісь у мяне дзеля забавы такія радкі. Сапраўды, не сядзелася дома, калі расцінаўся над белымі духмянымі яблынямі скрозь разлітую вечаровую цяплынь магутны канцэрт з балота.

Далей за соткамі і балотам - поплаў, а за ім лес. Цуда вялікае: ягады, грыбы, птушкі, непаўторныя адценні колераў і гукаў. Напрадвесні - цэлыя разлогі да апантанасці пахучых, віруючых сэрца і мроі, буйных, белых падснежнікаў, невялічкія праталіны-азярынкі з хрусталёва-брыльянтавай чысцюткай вадзічкай, лясное балоцейка з лілеямі і лахачамі - Мох...



*За соткамі ўнізе, як люстэрка, круглае балота. 1966-1967 гг.*

Бацькам, аднак, не да любавання ваколіцамі. Будавацца - гэта толькі сказаць лёгка, а на самой справе - гора, бяда.

Пасляваенная нястача: ні цэменту, ні цэглы, ні лесу, ні транспарту. Як і з чаго будаваць хату? Грошай няма, пазык дзяржаўных таксама. Амаль па Твардоўскаму: пайшоў салдат у шырока поле...

Дамовіліся, што баба Наташа аддасць на будоўлю гумно з хутара. Гумно ставіў яшчэ дзед Васіль, і бацька па праву прэтэндаваў на сваю вотчыну. Гэта адзінае, што дасталося яму ў спадчыну. Усё яго багацце. З гумна і ставілі зруб. Адно на першыя вянкі бацька дамогся свежых бярвенняў. Засталося і на хлеў: бэлькі, кроквы, шулы дый сцены дагэтуль там стаяць дзедавыя. З дошкамі і цвікамі памог матчын брат дзядзька Вечык. Баба Волька прадала парасят на сноўскім базары і купіла чатыры мяшкі цэменту. З горам папалам іх хапіла на падмурак. Бацька, каб сэканоміць, навазіў камянёў з поля. Самы вялікі камень заклаў пад правы ніжэйшы вугал, што вытыркаўся на надворак. І па сённяшні дзень на ім трымаецца хата, хоць пад іншымі сценамі падмуроўка патрэскалася.

...Ясны летні дзень на пачатку чэрвеня. У цеплыні залаціцца чатырохкутнік свежарастучага зруба, двор завалены старымі дошкамі, ламаўём, пяском і зямлёю. На сцяне хаты, што ад вуліцы, увіхаецца з сякераю цясляр. Ён з Даматканавічаў, для мяне амаль што з Амерыкі, і мянушка ў яго незвычайная - Дрэндало. І сам ён не падобны да нашых вясковых. Худы, вялікі тварам, з шырокім ротам, рэдкімі пачарнелымі зубамі, гаворыць хрыплым гучным голасам. У перапынках, калі злазіць са сцяны, ці пасля абеду, дастае з кішэні пацёртую газету, адрывае з яе прамавугольную старонку, складвае раўчуком і засыпае з торбачкі буйнае тытунёвае крышэнне.

Дрэндало - добры майстар і добры чалавек.

- Гарушчы-гарушчы... Пяцёра дзяцей, а бедныя, - казала пра яго маці. - Што ні пастаўлю,

то з'есць...

Ні раніцай, ні ўабед, ні перад снеданнем Дрэндало ніколі не пачынаў яду ці работу без шклянкі гарэлкі. Піў гарэлку з асалодай, нетаропка. Я, малы, глядзеў на яго знізу і дзівіўся, што гарэлка так булькае ў роце, і разам з бульканнем туды-сюды, порстка і пругка ходзіць на яго жылістай шыі востры гарляк.

Без гарэлкі, як я зразумеў пазней, тады на сяле не зачыналася ніводная справа. Ды ў крамах яе не куплялі - грошай няма. Гналі сваю, самаробную, жытнёвую, а потым дык усялякую. І дрэнную, як казалі, сахарную, з цукровых буракоў, і ці не смяротную нават з курынага памёту. Маці ж рабіла толькі жытнюю...

У рабоце Дрэндало не меў перапынкаў. Прыкусіўшы самагонку, адразу на зруб, на сцяну - да наступнай яды стукаціць сякерай. Хата расла, бацька толькі паспяваў падвозіць ды падносіць.

...Падышлі мужчыны, разам бяруцца за бэлькі. Яны цяжкія і доўгія. Трэба закінуць іх на вышыню, на сцены. Пакуль Дрэндало мацуе чарговую бэльку на сцяне, мужчыны перакурваюць. Маці прынясла з лесу два мяшкі моху. Штодзень, ухадзіўшыся, яна бяжыць на лясное балота рваць мох, якога патрэбна шмат. Я пералажу цераз накіданыя дошкі, нага саслізгвае ўніз на ламаўё, чую, як пранізліва запякло каля пяткі. Ад болю і сполаху закрычаў. Бацька падхоплівае мяне на рукі, маці здымае з ног сандалікі. Там, дзе запякло, кроў.

- Наступіў на цвік, - кажа бацька. - От, дастычны, усюды ўлезе! Бачыш, якую бяду нарабіў!

Ён у роспачы круціць галавою, нібы шукаючы дзе спагады.

- Коля, ты паглядзі, насквозь не прабіў ногу? - пытае Дрэндало. - Калі цвік не выйшаў, то нічога, зажыве. Хай пасцьшь на рану, потым заматайце анучаю. Пройдзе. Зажыве, праз дзень скакаць будзе...

З падтрымкай дарослых я раблю тое, што параіў Дрэндало. Мне сорамна, пісяць зусім не хочацца, але напалоханы, я напружваюся, і ўрэшце ўсё атрымліваецца. Цёплы струменчык абмывае параненую ступню. Дэзынфекцыя адбылася. Маці чыстаю анучаю перавязвае нагу, мяне адпраўляюць з будоўлі на хутар: бацька на ровары адвозіць да бабы Наташы. Нага пабольвае, на сэрцы нядобра, бо там, на новым пляцы, дзе будуецца хата, цікава і весела...

Нарэшце падышла восень. Бацька на канюшні запрог у падводу каня і паехаў на могілкі капаць гліну - там пясчаныя выспы. Так запарадкаваў стары Дзямян, вясковы пячнік. Печ у доме - галава. Ад яе, ад печы, жыццё - цяпло, яда, прытулак. А яшчэ печ - цэнтр дамашняга інтэр'еру. Яе бялілі, аздаблялі малюнкамі, упрыгожвалі перад святамі. Рабілі печы на вёсцы з гліны, бо цэглы нідзе не прадавалі сялянам, толькі на дзяржаўныя аб'екты размяркоўвалі, таму пра збудоўку печы гаварылі не “рабіць”, а "біць з гліны". Работка не для слабачкоў. Гліну мяшалі з пяском, бывала з саломай, ставілі апалубку, укладвалі, трамбуючы, рад за радам. Потым сушылі, загладжвалі шчыліны, бялілі вапнаю, аздаблялі. Такая печ выходзіла важкай, ёмістай. Цеплыня ад яе трымалася добрых дні са два, а то і тры пасля прапалу.



***Басаногае дзяцінства. 1959-1960 гг. Фатаграфаваў і зрабіў здымак Коля Чарнабаеў***

Але валтузня з печчу няпростая. Работа адно што цяжкая, дык і ў макраце. Дзямян, высокі мужчына з доўгім худым белым тварам, адвіслай ніжняй губой і вялікімі рукамі, падпярэзаны фартухом, чэрпае гліну жменяю з бочкі, далонямі расцірае па сцяне. Абутак, рукавы адзежы і ягоны лапсярдак мокрыя, блішчастыя ад гліны, але ён да таго не прыглядаецца, толькі раз за разам, нібы калодзежны журавель, уніз-уверх, то апускае, то падымае галаву, дастаючы гліну са скрыні...

Ледзьве з вуліцы ахуталі хацінку, так адразу ўхапіліся за хлявушок, страху пакрылі саломаю. На хаце страху зрабілі з дранкі - такія невялічкія прамавугольныя дошчачкі з асіны. Іх прыбівалі адну над другой маленькімі цвічкамі. Падлогу рабілі з дошак ужо пад прымаразкі. Паслалі адно толькі ў чыстай палавіне - так называлі ў вёсцы сучасную гасцёўню. Там, на покуці, павесілі пакрытыя вышытымі ручнікамі абразы Маці Божай і Госпада нашага Ісуса Хрыста. Паставілі шафу - шкафчык па-сучаснаму - для адзення; яго набытак стаў падзеяй для сям'і, бо шафа лічылася знакам дастатку. Яшчэ былі дзве лавы, драўляны дашчаты ложак, салдацкая табурэтка і два крэслы, якія прыдбаў для нас дзядзька Вечык.



***Шафа ў хаце - знак дастатку***

На кухні падлогу збілі з гліны. Так, як і ў іншых хатах на вёсцы. Гліну палажылі роўным слоем, сантыметраў дзесяць, утапталі ды прыгладзілі. Сцены пабялілі вапнаю. Вясковы сталяр Дзюбік зрабіў лаву і ўслон. Сенцы вымасцілі аполкамі, паставілі там дзве ці тры бочкі для сховы зерня і сала з мясам. Баба Волька і дзед Антось далі цялушку. Дзядзька Вечык прывёз пару парасят. Бацька недзе каля Клецка прыдбаў шчэпы, пасадзіў садок. З лесу прынёс дзве дзічкі. Адну прыкапаў на двары перад хлявом, другую - на ўскрайку пляцу, ад балота, на Росцікавай мяжы...

Калі яны з маці ўставалі ранкам, я не ведаў. Толькі засвятлее трохі за лесам - ужо на нагах. Часам чулася скрозь дрымоту: "Глянь, Коля, развідняцца пачало, а мы ні ўсталі яшчэ...". З вясны падхопліваліся ў палове пятай. Зімою на гадзіну пазней, бо дзень карацеў, сонца падымалася не так, як летам.

З раніцы пачыналася віхурная бягунка, чарада сялянскіх клопатаў, бясконцая праца. Падхапіўшыся, маці бегла да печы запаліць дровы, што залажыла яшчэ з вечара. Пакуль паліцца печ, трэба падаіць карову, працадзіць малако ў банку (бляшаны цыліндр сантыметраў дваццаць у папярэчніку з кранікам і шкляным вакенцам, каб відаць, дзе граніца паміж адстоеным малаком і салодкай смятанкай, вяршкамі). Калі прагараць дровы, зладзіць і паставіць у печ чыгуны з буракамі, бульбаю для свіней, каровы, цяляці. Такім жа чынам, не марудзячы, хуценька сабраць меншыя чыгункі для сям'і. Вялося, што на снеданне дык абавязкова бульбяны камяк са шкварачкамі, скібай чорнага хлеба і кубкам кіслага малака (прастаквашы па-гарадскому). Часцяком яешня на спражаным сале, яшчэ зацірка, прыпраўленая свежанькім ранішнім малачком. Для заціркі наляпіць з мукі пругкія камячыкі, адварыць у вадзе, даць выстаяцца на гарачым прысаку. На камяк дык "начысціць картоплі", паставіць у печ, пасля зліць кіпень, патаўчы бульбу таўкачыкам, заліць спражанымі шкварачкамі з цыбуляю (яны, дробна парэзаныя, шыпяць на скаварадзе, пакуль варыцца бульба). Выглажыць усё з чыгунка горачкаю на патэльню, прыгладзіць, падраўняць і зноў паставіць на прысак у печ, каб камяк падрумяніўся, прытаміўся. Тады ён смачны.

За гэты час паспелі ў кіпені вялікія чыгуны. Вілкамі выцягнуць з печы, зліць ваду, высыпаць звараную бульбу і буракі ў вёдры. Дабавіць мукі, таксама што з астаткаў учарашняй ежы, секачом усё здрабніць, перасекчы, заліць астыўшым кіпятком і малочным адстоем.

Для малых парасят і цяляці - асобная ежа. Заварыць ільняное семя, прыправіць бульбачкай, толькіператоўчанай, разбавіць свежанькім, з ранішняй дойкі, малачком. А бывала, што і з соскі кармілі малых, каб выжылі: то малодзіва ў каровы няма, то мала яго. Весела ды лёгка, як па масле, не кацілася ніколі сялянская гаспадарка.

Заглядвае ў хату бацька.

- Нясі, Коля, вёдра свіням. Во гэтыя, а этае

вядро карове. Цяляці зварыла семя, зараз дабаўлю малака і картоплю патаўку. Вернешся - занясеш ім, а то свет перавернуць, на плот лезуць і равуць-позна кормім сёння...

Пакуль маці ўвіхалася каля печы, бацька напаіў карову, выгнаў да чарады. Пачысціў стойла, выкінуў гной ад свіней. Прынёс у хату вады з калодзежа. Касою паабкошваў узмежкі і сабраў травы ў мяшок карове нанач. Падкінуў крапівы свінням у загарадку. Вывеў на ланцужку за соткі, на поплаў перад балотам, цяля. Яшчэ яму трэба занесці ў вёдрах яду свінням, выліць у карыта, пазней - напой цяляці на пашу, набраць вады ў хату і паснедаць.

Я прачынаўся каля сямі гадзін. З кухні нesліся духмяныя смачныя пахі, сваціліся ў вокнах залаціста-ружаватыя праменьчыкі ранішняга сонейка. На двор, за хлеў, ва ўборную. Свежачок абдае твар, бадзёрыць дух, праганяе сон. Назад у хату, на кухню, да вядра з калодзежнаю вадой. Чэрпаю яе кубкам, тыркаю туды зубную шчотку, каб намачыць, засоўваю яе ў бялюткі парашок (пасты не прадаваліся, ды іх яшчэ і не было), энергічна праходжуся па зубах злева-направа, зверху-уніз і наадварот. Потым, калі рот ужо чысты, выпаласканы, набраць як мага больш вады за шчокі, так, што яны становяцца, як мячыкі, і выпускаць яе, патроху цэдзячы, у згорнутыя конусам далоні. І на твар яе, на вушы, на шыю, на локці, за плечы...



***Вядро на восілцы і прыпек. Непрытульныя і абшарпаныя без гаспадароў. 2016 г.***

Вада не патрапляе ў тазік, плешчацца па падлозе. Маці прыглядаецца на мае практыкаванні, кажа бацьку: "От любіць хлопец гэтыя ўмыванні..." Улетку свае ранішнія памыўкі я з асалодай спраўляю перад умывальнікам каля плоту.

Пакуль я мыюся, бацька і маці прыканчваюць сняданак. На сканчэнне сёння макароны. Над сталом гойдаюцца лёгкія аблачынкі ад даста-нага з печы, гарачага, як агонь, чыгунка. Маці раскладвае звараныя макароны па місках і залівае яшчэ цёплым свежым малаком, што пакінула з ранішняй дойкі. Праз хвілін пяць, адзеўшыся, да стала прысаджваюся і я. Калі падрос брат Толя, то прысаджваліся ўдвух, а бывала, што і паасобку, як каму патрэбна на ўрокі. На маленькім століку знoўку яда, ужо для нас: падрумянены камяк, яешня на сале з цыбуляю, кіслае малако, а для малодшанькага Толі - смятанка ў місачцы, бо ён пераборысты ў ядзе...

Рабіла нам маці часам галушкі з бульбы, заварвала іх свежым малаком. То гэта ўжо быў сапраўдны прысмак! Не адарвацца ад міскі! Але колькі старання тое ёй каштавала?! Зімою вельмі любілі смачную "бабку з картоплі", засмажаную салам з цыбуляй у гарачым прысаку...

Маці ўвіхаецца каля печы, прыглядаючы за намі. Ставіць на гатоўку ў жар новыя чыгункі. Бо ў абед прыедзе з работы бацька, мы вернемся са школы, ахвочыя паесці. Павячэраць таксама ніхто не забудзецца. Так у несупынным руху маці праводзіць зранку каля печы гадзіны са тры не меней, а то і болей, у залежнасці ад таго, які прыплод у хляве.

Нарэшце мы знікаем за дзвярыма. Шыбуем у школу. Бацька раней, яшчэ ў прыцемку, пабег на ферму. Сціхла гамонка ў хаце. Маці ледзьве прыбрала са стала міскі і скавараду, закрыла палатня-



***Бацька з маленькім козлікам на руках і мы з Галяй. Як добра! 1980 г.***

ным ручніком хлеб, талеркі, скрыначкі з цукрам і соллю, сыпанула зерня курам, ашмёткі бульбы і хлеба - качкам ці гусям, як з вуліцы закрычалі кабеты:

- Зіна, выходзь ужэ, пайшлі... Сёння картоплі палоць Льюк сказаў...

- От, няма вам спакою, не пасядзяць, пруцца на работу зрання, - прыгаворвае сама сабе маці, але спора прыхоплівае кошык, завязвае на галаву касынку і далучаецца да жанок на вуліцы.

Кабеты, хто з кошыкамі, хто з граблямі і гачкамі, кучкаю, весела перагаворваючыся, шпацыруюць да канюшні. Там грымяць вёдры, бранчыць у калодзежы ланцуг - дастаюць ваду, наліваюцьу карыта, каб было коням напіцца абедам ці ўвечары. Лаецца на жарабца Косцік Ігнатаў, вясковы конюх. Мужчыны запрагаюць падводы, крычаць на маладых коней:

- Стой! Давай галаву, давай кажу! От гадасць, ніяк не хоча ў хамут!

- Нуда, а ты сам хіба ў хамут хочаш?! - пытаецца другі голас.

Смех, рогат. Брыгадзір Ільюк, заклапочаны і незадаволены тварам, пакрыквае на мужчын, піша прозвішчы тых, хто прыйшоў на работу, у "цятрадзь", як называюць яго сшытак вяскоўцы; мужчынскія галасы перамешваюцца з жаночымі і пацяху



***Наш калодзеж на надворку. Састарэлы і пахілены. Некалі тут брашчаў ланцуг, круціўся калаўротак, бруілася жыццё***

сціхаюць. Людзі разыходзяцца, раз'язджаюцца на калгасныя работы. Маці прыстае да групкі жанчын, што ў прыяцельках з ёю. Яны кіруюцца на край бульбянога поля на праполку.

За хвілін пятнаццаць да першай гадзіны жанчыны шпарка пабягуць дадому, каб сустрэць кароў з пашы на абед і загнаць на двор. Бо калі не стрэнеш, пойдуць валачыцца па сваіх ці чужых сотках.

Абедзенны час у доме таксама шпаркі, нібыта на завадскім канвееры. Сустрэць карову, даць ёй напіцца настоянай зранку ў вёдрах каля студні, нехалоднай вады. Падаіць, малако працадзіць, апусціць у калодзеж. Накрыць на стол, дастаць чыгункі з ядою, разлажыць па талерках. Сарваць яшчэ што з агароду да стала, зрабіць поліўку з кіслым малаком і зялёнаю цыбуляй.

Бацька прыехаў на абед з работы і адразу бярэцца за вёдры з ядою свінням, нясе напой для цяляці на лужок за плотам, набірае вады для жывёлы на вечар...

Нарэшце яны садзяцца з маці за стол абедаць. Тут і мы заяўляемся са школы. Бацькі падымаюцца з-за стала, мы займаем іх месцы. Маці ставіць яду для нас, прыбірае каля печы, глядзіць на гадзіннік. Ёсць яшчэ колькі хвілін да выхаду на калгаснае поле. І яна, і бацька прылягаюць на паўгадзіны на канапы, бо на нагах з самага рання.

Недзе каля трох па вуліцы зноўку выхінаюцца кабеты з кошыкамі ці граблямі. Маці падхопліваецца на іх гаворку, устае і бацька.

- Вася, ты карову выгані ў чатыры, не прапусці глядзі, - кажа мне маці, выходзячы з хаты. Бацька заводзіць матацыкл і кіруецца на мехдвор альбо на поле да камбайна.

Я саджуся за ўрокі, потым выганяю карову, зноў вучуся, пасля іду нарваць крапівы ці іншага зелля свінням, раблю што яшчэ. Непрыкметна наступае вечар. Вяртаюцца з работы жанчыны, прыязджае бацька. Сонца прынікае да небасхілу, сіняватая смуга ўсё шырэй захінае неба. На поплаве рыкаюць каровы, хочуць дадому. Званчэй галасы, чутней лопат матацыклаў і трактароў, скрып драўляных колаў на падводах.

Пакуль прыйдуць каровы, маці бяжыць на соткі альбо ў агарод выпалаць зелле, перабіць гачкаю грады, прыкапаць свежай бульбачкі, нарваць лапушыстых зялёных лістоў на бураках у чыгуны для скаціны на заўтрашні дзень. Бацька ўвіхаецца з касою на ўзмежках, а яшчэ паедзе на бабін хутар у Малаеды на канюшыну, а можа, на выдзелены калгасам кавалак сенакосу.

Гучна рыкаючы, пад покрыкі пастухоў вяртаецца статак. Наша карова ведае свой двор, сама заходзіць з вуліцы і адразу да студні, дзе вада ў



*"Кветка" і маці. Еднасць і паразуменне. Здымак напачатку 1980-х*

вёдрах. Маці хваліць яе за гэта: "От малайчына, Кветка, сама прыйшла дадому... Ну йдзі, з'еш яшчэ батвы трохі, во я нарвала..." Карова ідзе да батвы, нетаропка жуе, потым па матчыным загадзе кіруецца ў хлеў, у стойню. Маці з вядром і намочанаю чыстаю хусцінкаю бяжыць за ёю, абцірае вымя, цыцкі, прысаджваецца на ўслончык, пачынае даіць.

Я за гэты час дастаю з калодзежа банку з адстоеным абедзенным малаком і сцэджваю яго, трохі сіняватае, да жоўценькага вяршка, смятанкі, у шкельцы. Маці ўправілася з даеннем, ставіць вядро на лаўку перад ганкам, працэджвае свежае малако скрозь марлю ў другі посуд, налівае нам з братам па конаўцы. Малако цёплае, зверху буяе пенаю, патыхае лугавымі травамі. Брат аднекваецца: "Не хачу, надаела эта малако", а я выпіваю поўны кубак да дна. "Маладзец, сынок, - хваліць мяне маці і кажа бацьку: - Глянь, Коля, як абнадзіўся наш малы смятанаю... Малако адкідвае, ні п'е..." Бацька прыпыняецца каля нас: "Пастарайся, Толік, яно ж такое смачнае, выпі...".

Ужо ў прыцемках маці рыхтуе чыгуны на раніцу, ставіць невялікую яду на стол, корміць нас, бацьку. Вячэралі звычайна тым, што заставалася ад снедання ці абеду: бульбяным камяком з кубкам кіслага ці салодкага малака, акрайцам чорнага хлеба, талеркаю халоднага варыва.

- Коля, як паясі, то зачыні весніцы на вуліцу, курэй паглядзі, ці зайшлі ў падпаветку? Сыпані ім з мяшка. Адрынку зачыняй тожа. Сцямнела, спаць пара...

Такімі яны былі, тыя дні. У несупыннай кругаверці разам з бацькамі круціліся мы, дзеці. Вучыліся працы, догляду за жывёлай, шчыраванню на сотках. Любаваліся маленькімі парасятамі, дзівіліся на жаўтлявых куранят, назіралі за кошкай, што беражліва носіць за шкірку кацянятак...

А ці забыцца пра погляд каровы, калі нарадзіцца ў яе цялятка?! Бацька клікаў мяне ў стайню: "Пайшлі, пакажу малое..." Згледзеўшы нас, карова трохі насцярожваецца, але пачуўшы ласкавы бацькаў голас, супакойваецца, аблізвае цяля і глядзіць на нас вялікімі, мне здаецца, трохі вінаватымі, вачыма. Нібы гаворыць, бачыце, што зрабілася, цялятка, во, але ж выбачайце, пашкадуйце яго...

Так мы вучыліся дабрыні, пранікнёнасці, чалавечай чуллівасці. І заўжды мне было шкада, што мае дзеці не паспыталі гэтага, не пабачылі гэтых вачэй...

... З раніцы да вечара, амаль штодня, з невялікай розніцай паміж зімою і летам, вясной і восенню цякла рака нашага сялянскага побыту. Зімою рэзалі на сячкарні салому, а летам яе прывозілі з поля, зацягвалі на палаці; зімою штодзень даставалі з пограба картоплю і буракі, а вясною іх садзілі на сотках; летам гатавалі на зіму торф на балоце, касілі сена, жалі жыта, сушылі траву, апрабляялі майданы калгасных дзялак, сеялі азімыя; восенню капалі буракі і картоплі, заворвалі палі... А прысесці, перадыхнуць маглі толькі зімовым вечарам, прытуліўшыся да цёплай печкі ў хаце, ды і то не без работы, а з калаўротамі, прасніцамі, верацёнамі. Так і тое лічылася за дабрыню: у цяпле, за гаворкаю, без тузаніны і спешкі - чаго яшчэ патрэбна сялянскім працаўніцам, каб спачыць ад бясконцых пасяўных ды ўборачных?!

Былі святы - Вялікдзень і Каляды, Сёмуха і Тры каралі, вяселлі, народзіны, пахаванні, смуткі і радасці. Было нялёгкае, але бясхітраснае, жывое, несупыннае, як дзень і ноч, жыццё на сваёй зямлі. Аб ім і прадоўжым размову.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Віктар Дземеш*

# КАБ І СЛОЎЦАМ НЕ ЗГРАШЫЦЬ

## альбо маё бачанне Сымона Буднага

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Частка VII**

*“Шырокая дарога ў пагібель*
*і вузкі шлях у жыццё.”*
*(Са святога пісання.)*

**След у след**

Да незагойна-злога шрама,
Што пакідае нож, свінец,
Пішу аголена і прама,
Як Еўтушэнка пад канец.

У скверы з Будным суразмоўлю,
Не пераб’ю, не абарву,
Вялікасную ўзважу долю,
Ягоны шлях ці паўтару?

Ягоны шлях цярністы, вузкі
І поўны радасцей ды бед.
Ягоны шлях - спрэс беларускі!
І я пайду ім услед.

**Куды, куды нас лёс нясе?**

Чытач, прабач, магу алоўкам
Падняць, магу знайсці ў трысці,
Магу пра Covid дзесь і зноўку
Чыркнуць - як міма мне прайсці?

Ён з намі - дзёрзкі - будзе вечна,
Аслабне, можа, пакрысе.
Як гэта ўсё бесчалавечна!
Куды, куды нас лёс нясе?

Зайздрошчу Буднаму - пражыта
Жыццё, не трэба сумаваць,
Пакутаваць: ці ўзыдзе жыта,
Якую з кніг надрукаваць?

Як уцалець у мясарубцы,
Калі сусед суседа есць,
Як захаваць у душагубцы
І не запляміць гонар, чэсць?

**У прышласць добры знак**

Чытач, прабач - я зараз хворы:
З прастатай штосьці кагадзе,
І я здаю, я чэзну ў горы,
Я - ў паняверцы, я - ў бядзе...

Я не чакаў такога зрыву
І недарэчна-злых падзей,
Да краю падышоў абрыва,
Не ў сілах сузіраць людзей....

Распяты страхам неспадзеўкі,
Брыду, як спушчаны ў ваду,
Але, але чакайце, дзеўкі:
Дальбог жа ўсё-ткі адыду!

Тады і вершы стануць дужай,
Як ружы ўспыхнуць раптам вунь,
І я зраблюся зноўку мужам,
Успомню, як скакаў угрунь.

Успомню, як з Сымонам - з дзівам -
Крыляў наяве, бег у снах.
Які ж тады я быў шчаслівы!
І гэта ў прышласць добры знак.

**Мой тыл**

Кавід не ўзяў, дык адэнома
Распе285разалася ў паху,
І цісне, цісне пакрыёма,
Што не магу быць і ні дома,
І ні на людзях не магу.

Слабее ўчэпістая хватка,
І хатка хіліцца на бок.
Забыўшыся на гэту хатку,
Сымон, табе я без астатку
Аддам прызванне, лёс... То бок...

З табой - і шчасце ўсё са мною,
І я без боязні іду,
Калі - мой тыл - ты за спіною,
Калі адпрэчваеш бяду.

**Па Нясвіжы з Будным**

*Маё слова спеўнае*
*Пне за акаём,*
*Стану ўсё ж, напэўна, я*
*Ўсюды ўсім знаём.*
*Помнік непрыкаяны*
*Ўзнікне ля кафэ,*
*Буду я і каменны*
*Добра "пад шафэ"!*
*(Мік. Рубцоў, з кнігі "Пралескі".)*

Узрушаны, нібы рэактар,
Якому потым годы тлець,
Два нумары мне даў рэдактар
На Буднага - не больш, прыкмець.

Чытач, мой любы, што тут зробіш?
І так ёсць тысяча радкоў,
І большасць з іх - вышэйшай пробы,
Ім жыць і жыць за сто гадкоў!

Няхай там голас мой асіпла
Гучыць у вершах, што глушу,
Ды хто яшчэ так мовіць сціпла
І проста Буднаму ў душу?

Няхай ноч цэдзіцца, як сажа
У коміне, няхай міне,
Ніхто пра Буднага не скажа,
Хоць лопне там, лепш за мяне!

Адзін, як ёсць, пад цупкім голлем,
У скверы з Будным пілігрым -
Буджу радкамі наваколле,
Хаджу Нясвіжам слаўным з ім.

**Побач грозны век**

Я сам быў блізка ад кавіда,
Калі ў бальніцы ледзь не знік,
Кальнула ў бакавіну крыўда
На алкаголь, што ў кроў пранік.

І зблытаў думкі, змяў раструшчыў,
І паваліў мяне на дол,
І ў паняверцы невідушчай
Падклаў пад сэрца подлы тол.

Ды ён не выбухнуў, зараза,
Бо ратавалі, як маглі.
Цяпер не п'ю з таго я разу,
А ты, чытач, сабе налі!

Сымон, ты так не напіваўся,
Ты быў карэктны чалавек.
Хоць ваяваў - не забываўся,
Бо ведаў - побач грозны век.

**Сымон, дай шлях**

Настырны да жыцця, спантанны,
І рызыкаю апантаны,
Прынадны, нібы ў цвеце мак,
То ўлезу ў бойку п'яны,
То дзеўку пацалую ўсмак.

Ваяр заўсёды штосьці знойдзе
І вышукае ўсё-ткі троп.
З мараллю нізкаю не ў згодзе,
Пры абывацельскай лагодзе
Жыць, як усе, па іхняй модзе...
Далей не трэба, хопіць, стоп!

Кідаў я піць, не піў падоўгу,
А зараз зрокся назаўжды,
Забыў сцягу к таму парогу...
Сымон, дай шлях, дай мне дарогу,
Спалі за мной усе масты!

**Па волі лёў**

Каму цяжэй: ці нам, ці людзям,
Што з Будным выжылі, не ўзнаць.
Тады ў аблудзе, зараз грудзі
Сцінаюць так, што не суняць...
Як мне ўсіх тых, хто злы, абняць?

Ну, медыцына... Ды з кавідвм
Супернічаць ёй не з рукі,
Таму й расце на долю крыўда,
Што нам дастаўся лёс такі,
Што й мы з той бруднае ракі.

Падпітваючы мроі-крозы
(І так было заўжды, здавён),
Забыўшы пра стырно, пра вёслы,

І мы плывём па волі лёсу,
Да берага ці даплывём?

**Частка VIII**

**Замова**

Такое ў момант не праходзіць
(Які ў яго пачварны від),
Аддаўшы густ апошняй модзе,
Як МММ калісь Маўродзі,
За мной каліфствуе кавід.

Ды вераломны не дагоніць,
Як ні стараецца - не, не!
Ахоўваю ад той пагоні,
Дзе пашалелі ў пене коні,
Замова моцная ў мяне.

Яна вядзе пад небакраем,
Замова з пацеркамі слёз,
Хоць з ім, бывае, і гуляем
Мы лёс сабе не выбіраем,
Нас сам знаходзіць грозны лёс.

І Будны тут якраз дарэчы,
Я з ім спрастаю ўсе шляхі.
Ён падстаўляе свае плечы,
Ён - падарунак для галечы,
Збавенне ад глухой тугі.

**Мой слуп, апора - Будны**

Жыву сярод чумы
І ведаю: хвароба
Не зварушыць слуп прамы,
Што не бяруць грамы.
І гэта вельмі добра.

Мой слуп Нясвіж узняў,
Ён бачны ўсім і чутны;
Мой слуп мяне узяў,
Чысцей зрабіў, страх зняў,
Мой слуп, апора - Будны!

З Сымонам я стаю
Ў абдымках каля плошчы,
З Сымонам растаю
І сонца дастаю -
Хай ковід градам хвошча!

**Аддаў ён свой лёс асвеце**

Спяшае Сымон Нясвіжам:
Чакаюць станок, лісты,
Паўнеба на ўсходзе ліжа
Язык сонца залаты.

Такі ўжо ўвіруткі дзядзька,
Як на заглядзенне ўсім!
Вось быў бы і муж, і бацька -
Ні часу ў яго, ні сіл...

Сябе падарыў асвеце
І пастырству, каб святлей
Халопы жылі на свеце,
На Бога лілі ялей...

**Каб не стагнаў у кветках дол**

Сярэднявеччам трызню - юлюзню,
Бо там Сымон, мой Будны там...
Загартаваць бы дух у кузні,
Каб ён не кланяўся гадам.

... Жыў годна і памёр у ложку...
А я? А я? Дзе я памру,
Калі падставіць мне падножку
Мой тэрмін, свечкаю згару?

Зімою, што ж... Вясной - ніколі!
Калі буяе ўсё вакол,
Хачу я радасці без болю,
Каб не стагнаў у кветках дол!

**Заўжды за дружбу**

Цяпер, Сымон, Літва не тая,
Калі вунь злосць яе гняце,
Ды Беларусь мая святая
Не хоча плесціся ў хвасце.

Сымон, ты быў заўжды за дружбу
Тады, калі сувора жыў,
Аддаўшы сілы ўсе на службу
Літве, якою даражыў.

Ты знаў цану сяброўству, ведаў,
Што толькі з ім людзей не б'юць,
Што з ім адольваюцца беды,
З ім песні стройныя пяюць...

### Частка IX

*У 1562 годзе ў Нясвіжскай друкарні выходзіць кніга Сымона Буднага “Катэхізіс або старадаўняя хрысціянская навука для простых людзей”, у якой налічваласякаля 600 старонак. Гэта фундаментальная праца адразу стала з’явай у духоўным і культурным жыцці Еўропы і паставіла яе аўтара ў адзін шэраг з самымі значнымі дзеячамі эпохі Адраджэння.*

**Каб быў разумнейшым народ**

Сымон напісаў “Катэхізіс” -
Аб’ёмную кнігу сваю,
Пра гэта скажу толькі мізер,
А большасць пакуль што ўтаю.

Пасля і ў разгорнутай рэчы
На яве я вам пакажу,
Як цмянае Сярэднявечча
Няўзнак агаляла душу.

Не бачыўшы шчасця і блізка,
Скрозь рэкі ілжы, проста ў брод,
Брыў час за Сымонам, Францыскам,
Каб быў разумнейшым народ

Ад ведаў, што так не хапала
Халопам, галоце тады;
Хоць панства штось там і чытала,
Паводзін сваіх не хавала,
Гуляла, жыло, шыкавала,
Далёкае ад злыбяды...

**У абойме**

Ён “Катэхізісам” з адрывам
Вялікіх нават перагнаў,
За крыўды ворагаў зласлівых
З усіх, хто супраць пёр, спагнаў.

Ён вызначыўся гэтай працай,
Адразу ў той абойме стаў,
Дзе можна доўга заставацца,
Пакуль пазіцый ты не здаў...

Спазнаў ён славы бляск і драмаў
Страшэнны, незагорйны след...,
Таму і не вылазіў з храмаў,
І там маліўся неўпрыкмет.

**Звод правілаў**

“Катэхізісам” суворым
Шлях быў распачаты
Да жыцця - аб ім гаворым
Буднім днём і ў святы.

Феадал біў смердаў - статак,
Як быў не ў гуморы,
І ляцелі без аглядак
Хто, куды, каторы.

Час крывавы, брат жа кроўны,
Ну а тут - звод правіл...
Берад Богам кожны роўны,
Хто яго праславіў.

**Чалавек**

На старабеларускай мове,
На народнай гаварыў.
Не быў ні ў якай хітрай змове,
Нядобрых спраў не натварыў.

Ну горды, можа там, ну смелы,
Ды гнуткасць мудрую ўключаў,
На мноства талентаў умелы,
А час асвеце прысвячаў.

За гэта толькі славіць будзем,
Ён і цяпер шыхт не пакінуў,
Ён - чалавек, і мы ўсе - людзі,
У сваім краі любімым.

**Табе стаяць тут вечна**

Сакрат, Платон і Арыстоцель
Не напісалі столькі прац,
Сакраментальных - плоць ад плоці,
Арыгінальных - не арзац.

Пры тым жа, што кагалам, разам
Ты ў той Еўропе ўсіх зацміў.
Тваім зачытваліся сказам:
Хтось ненавідзеў, хтось любіў...

Ваўкам не дагадзіць, канешне,
Ды злыя, вунь, даўно сышлі...
А ты... Табе стаяць тут вечна
Сярод Нясвіжскае зямлі.

*(Працяг будзе.)*

*Кастусь Нясвіжскі*

# КАРАЛЕЎСКАЕ ПАЛЯВАННЕ

Кастусю сябры не адзін раз нагадвалі, каб арганізаваў ім зімовае паляванне. Асаблівую стараннасць выяўляў Уладзімір. І ў яго былі свае казыры. Так хацелася яму прайсціся па марозным лесе, падыхаць чыстым лясным паветрам, убачыць звера жыўцом. А заадно наведаць замак Радзівілаў. Настойліва дамагаўся:

- Ды што табе каштуе арганізаваць нам хоць маленькае паляванне? - і, сціснуўшы пальцы, адмераў на ўказальным кавалачак на адзін сантыметр. - У цябе там на Нясвіжчыне Радзівіл такія паляванні наладжваў, што ўсе і сёння зайздросцяць.

Іван, усміхаючыся ўпотайкі, падтакваў:

- Ну што табе каштуе пацешыць Валодзюмядзведніка. Праўда, у яго няма ні стрэльбы, ні паляўнічага білета. Але мы яму дамо вялікую палку. Будзе мядзведзяў з бярлога выпорваць. Можам і рагаціну зрабіць.

Уладзімір крыўдліва пырснуў:

- Таксама мне паляўнічы масціты. Раз у год паглядзіць на хвост віхляваму зайцу. Цябе нават вушастыя не баяцца - усё адно не патрапіш.

Кастусь усміхнуўся іх сварцы, паглядзеў кудысьці ўдалячынь і задуменна прамовіў, як быццам нешта ўспомніў:

- Добра. Чаму быць - таго не абмінуць. Давайце будзем планаваць такое паляванне, як паказаў Уладзімір на пальцах, на другую палову студзеня. Тым часам устойлівая марозная зіма. Рыхтуйце цёплую вопратку, боты ці валёнкі, рукавіцы.

Прыязджайце з жонкамі да нас на вёску 17 студзеня да канца дня. Будзем чакаць.

Выцялі па руках. У сяброў радасна, як уначы агеньчыкі, загарэліся вочы. Уладзімір ад задавальнення, што свайго дамогся, разгойдваючыся на сваіх каржакаватых нагах весела паціраў рукі. Усміхаючыся, пхнуў Івана плячом і як дзіця закрычала ў бок Кастуся:

- Нарэшце вось мы гэтага нашчадка Радзівілаў раскалолі на паляванне!

На тым і вырашылі, паабяцаўшы загадзя стэлефанавацца.

А праз два месяцы, 17 студзеня да канца дня да хаты Навамiравых у вёсцы пад'ехала машына прадпрымальніка Шафігуліна - новенькі фольксваген, белы як пухнатая снежка. За рулём Уладзімір, побач яго жонка Валянціна. На задняй сядушцы аракул навукі Аляшкевіч Іван са сваёй Нэлай.

Машына асцярожна праціснулася праз адкрытыя вароты ў двор, заехала на загадзя расчышчаную пляцоўку пад спакойна спаўшай у белым покрыве снегу чарэшняй. Павольна адкрываюцца ўсе чатыры дзверцы, і стомлена, але ўсміхаючыся, размінаючы застылыя цягліцы, як з куфра з'яўляюцца два ўдальцы-стральцы і дзве расчырванелыя ў цяпле машыны жанчыны-балаболкі. І амаль хорам запоўнілі вясковае марознае паветра радасным крыкам:

- А вось і мы! А вы нас чакалі?

- Чакалі! Чакалі! Просім у хату! - радасна вітала Марыя - гаспадыня хаты.

Ад ганка насустрач гасцям накіраваліся Кастусь з Марыяй і Ірынкай - іх дачушкай. Радасныя, вясёлыя. Асабліва Ірынка. Ад шчасця, што нарэшце вось прыехалі доўгачаканыя госці, новая сустрэча, яна весела, як зайчык, падскоквала ўчапіўшыся ў руку мамы:

- Прыехалі! Нарэшце вось прыехалі! Ура!

Пачаліся абдымкі, пацалункі. Падарункі для Ірынкі. А яна прыціснуўшы іх абедзвюма ручкамі да грудзей, свяцілася як анёл, вочкі радасныя, вялікія, напоўнены шчаслівым святлом. Так можа свяціцца шчасцем толькі вельмі добры, добразычлівы чалавек. Гэта радасць жыцця, удзячнасць жыццю, нягледзячы на беды і засмучэнні.

Уся ўвага на шчасце дзяўчынкі. Гледзячы на яе ўсіх ахінула несуцішнае пачуццё радасці жыцця, жыцця для бліжняга, жыцця для чалавека і для самога жыцця.

Радасная сустрэча, вясёлая вячэра. Сон у прадчуванні цікавага паходу ў лес. Раніцай, добра выспаўшыся, сябры ўсмак паснедалі і ў прыпаднятым настроі пайшлі збірацца ў дарогу.

Жанчынам, як належыць жонкам паляўнічых, адвечная доля - захоўваць хатні агмень. Будуць рыхтаваць абед і чакаць мужоў з добрай здабычай.

Марыя прыгатавала два тэрмасы. З гарачай кавай і гарбатай. Усё-такі на дыварэ мароз у 15 градусаў. Добра, што ветру няма. На небе хмаркі-адзіночкі. Ярка свеціць сонейка. Снег іскрыць маленькімі сонечнымі зайчыкамі, храбусціць, як свежы качан капусты на зубах.

Пакуль Іван з Уладзімірам дагледалі апошнія сны, Кастусь выгнаў з гаража свайго "жалезнага восліка" - дваццацігадовага, пазелянелага фольксвагена. Прагрэў, паклаў у багажнік стрэльбудубальтоўку дваццаць другога калібру са стажам у сорак гадоў, два пачкі патронаў рознага начыння,

віно з замка ў Вінклераўшчыну. Цяжка нагружаны і накрыты палатном воз ахоўваў нейкі эканом і два воіны-ахоўнікі. І тут яго сябар зразумеў, што віном гэта справа не пахне. Цяжкія, добра зробленыя скрыні-куфры заносілі ў склеп тыя ж чатыры мужыкі-майстры. А яму, як вазаку, далі каня аднаго з ваяроў і загадалі скакаць у замак на кухню, каб прыгатавалі добры стол. Будуць разлічваць майстроў.

Але потым яго сябар дазнаўся, што ніхто больш той ноччу на кухню не заязджаў. Праз некалькі дзён мясцовымі сялянамі плот быў прыбраны, тэрыторыя добраўпарадкавана і засаджана.

Цёмнай восеньскай ноччу прыйшоў дахаты да прадзеда яго сябар развітацца. Князь накіроўвае яго з возам і аховай у Вільню. Ён адчуваў, што гэта яго апошняя паездка. Усё, што ведаў, распавёў прадзеду. І больш пра яго ніхто не чуў і нічога не ведаў.

Валянціна, уважліва ўслухоўваючыся, не магла не спытаць:

- Дык там была ў лесе вёска? І чаму яна называлася Вінклераўшчына? Там і цяпер нехта жыве?

- Цяпер там ніхто не жыве, засталіся толькі руіны былых фундаментаў. Вёскі там не было. На краі, ці на рагу лесу было некалькі хутароў на скрыжаванні дарог паміж буйнейшымі вёскамі і дарогай на Нясвіж.

А назва пайшла, хутчэй за ўсё, ад старажытнага габрэйскага прозвішча Вінклер*. Слова "вінклер" азначае, што гэта чалавек - уладальнік крамы на рагу паселішча, на рагу лесу. А, магчыма, і склада на рагу. Была там і княжая леснічоўка, побач з якой праходзіла ў лесе княжая дарога. У народнай памяці яна засталася як “дзесяцікіламятровая княжая лінія”. Вось сёння мы і ішлі па адным з участкаў гэтай лясной дарогі.

І пачаў лес называцца Вінклераўскім. Гэта старадаўнія паляўнічыя добры Радзівілаў. Да яго прылягалі Мікалаеўскія, Акінчыцкія і Коласаўскія лясы. У Вінклераўскім лесе і пры леснічоўцы ў гадавальніках, школках дагадоўваліся саджанцы з Еўропы, гадаваліся свае, а таксама вялікая колькасць гатункаў пладовых дрэў, кустоў, кветак. Даглядаць іх сезонна наймалі з вёсак маладых дзяўчат і дзяўчынак-падлеткаў.

Каля леснічоўкі квітнеў раскошны сад з кветнікамі, пасекай, альтанкамі. Цешылі вока і душу дубова-лісцвенная алея, алеі каштанаў і экзатычных дрэў. Гэта была добра ўладкаваная лясная дача Радзівілаў. Народ зваў яе "Лясной казкай".

І тут з пытаннем падступіла Марыя:

- Усе мясцовыя жыхары часта гэтае месца завуць Альтанкай, а чаму?

- Таму, што ў гэтым дзіўным садзе знаходзіўся летні будынак для адпачынку - княжая альтанка. Альтанка - гэта паркавае ці садовае збудаванне лёгкай ажурнай канструкцыі, абсаджанае ліянамі, вінаградам, для адпачынку і абароны ад сонца ці дажджу. Пачатак іх стварэння ідзе ад паркаў эпохі барока.

Уладзімір у задуменнасці скрывіў кіслую грымасу:

- Во жылі, крывасмокі! І ўсё за кошт народа свайго. Гэта колькі ж трэба было для адной сям'і князёў? А якія выдаткі толькі на іх паляванне! Дарэчы, а што з тымі куфрамі? Іх хто-небудзь знайшоў?

Кастусь усміхнуўся:

- Дагэтуль шукаюць. А можа, хто і знайшоў ды маўчыць. Гісторыя і легенды кажуць, што пра цяжкія куфры ў Вінклераўскіх склепах ведалі толькі два застаўшыеся ў жывых чалавекі - князь і яго набліжаны эканом. Іншых сведак не стала. Вось чаму князь адводзіў душу на пікніках над сваім таемным багаццем, а заадно і пераконваўся ў яго захаванасці.

А што да князёў і народа - дык у кожнай эпохі свае норавы і грахі, своя сістэма ўлады і арганізацыі жыцця народа. Усё залежыць ад узроўню індывідуальнай і калектыўнай свядомасці.

Ты кажаш пра выдаткі на паляванне. Дык тое, што мы бачылі - дзясятая частка каралеўскага палявання князёў Радзівілаў. На арганізацыю такога палявання падключалася да тысячы чалавек. Адных ганчакоў бралі больш за двесце. У народзе тады хадзіла прыказка: "Пакуль зайца здабудуць - вала з'ядуць".

Аж да 18 стагоддзя звяроў для палявання не толькі вырошчвалі ў Альбе ў запаведніку пад Нясвіжам, але і лавілі ў навакольных лясах, і нават прыганялі з Налібоцкай пушчы, палескіх лясоў. Да 16 стагоддзя ў Нясвіжскіх лясах жылі дзікія зубры.

Абавязковым атрыбутам у князя для гасцей было паляванне на фазанаў.

- Якіх фазанаў? - Іван недаверліва паглядзеў на Кастуся, на Марыю. - Гэта ж не беларуская птушка.

* Доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч зафіксаваў эканома з прозвішчам Вінклер у слуцкіх уладаннях Радзівілаў. Таму паходжанне тапоніма Вінклераўшчына ад прозвішча Вінклер найбольш верагоднае. - *Рэд.*

Дык вось, вяртаючыся з палявання, князь з гасцямі заязджаў у Фальваркоўцы, што пад Нясвіжам, дзе была "бажантарня" - вялікі гадавальнік для фазанаў. Князь і яго госці з жарсцю адстрэльвалі экзатычных птушак на будучую шыкоўную вячэру.

Уладзімір задумаўся, узяў Івана за локаць, звярнуўся да Кастуся:

- Ведаеш, Кастусь! Я думаю, што Іван мяне падтрымае. Ты сёння даў нам такі ўрок, што ніякі ўніверсітэт гэтага не зробіць. У нас доўга яшчэ мазгі будуць кіпець ад гэтага каралеўскага палявання. Я больш за ўсіх атрымаў ўражанняў і нават крыўд, але вельмі рады, што такое здарылася. Гэта пачынае пераварочваць мой светапогляд.

Я ўжо пачынаю асэнсоўваць, як жа адначасова могуць існаваць мінулае радзівілаўскай эпохі, наша сучаснасць асвойвання касмічнай прасторы і твая ідэя Новага светапогляду будучыні. А, можа быць, ты - не такі просты хлопец? Можа, кантактуеш з будучыняй, з высокаразвітымі светамі?

Кастусь абняў сяброў, з вясёлай усмешкай звярнуўся да Марыі:

- Давайце будзем піць гарбату і адпачываць. Наперадзе ў нас шмат тэм і спрэчак, спазнанняў ісціны. Думаю, што Уладзімір у сне яшчэ ўбачыць каралеўскае паляванне. А заўтра мы едзем на экскурсію ў замак Радзівілаў.

Побач з нашай сучаснасцю - мінулае Радзівілаў, іх эпохі і будучыня чалавецтва. Яго трэба навучыцца бачыць.

*Снежань, 2016 год.*

*Уладзіслаў Станіслаў Рэймант*

# 1794 год

## Апошні сойм Рэчы Паспалітай*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

II

Перад бакавым алтаром касцёла адпраўлялася набажэнства.

Касцёл быў поўны залацістых снапоў сонечнага святла, кадзільнага дыму і праніклівых гукаў аргана. Імша служылася з музыкай, але без спеваў і адмысловай пышнасці. Тоўсты прыёр адпраўляў яе трохі на скорую руку, чамусьці спяшаўся і шмат разоў паварочваўся ў бок касцёла, вочы яго з цікаўнасцю лятаў вакол дзвюх пахіленых постацяў, ледзь прыкметных у лаўках і з выгляду як быццам моцна паглыбленых у медытацыю. Таму раз-пораз, пры чарговым "Dominus" ці перагортваючы старонкі мшала, ён употай і падазрона ўглядваўся ў твары багамольцаў.

Не шмат іх сабралася ў гэты дзень: нейкія дамы ў карнэтах[1] і фіжмах важна расселіся ў лаўках, нібы індычкі, некалькі мяшчанак у святочых чолках[2] і чорных хустках пабразгвалі ружанцамі, ды яшчэ некалькі мажных баб, утаропіўшыся слязлівымі вачамі ў ксендза, шапталі напаўголас малітвы.

Некалькі старцаў у кунтушах, нібы для дэкарацыі, кленчыла перад алтаром, за імі - некалькі капот[3], а ў глыбіні, пад пілярамі, туліліся абарваныя світкі, ліпавыя лапці і паспольства[4]. А калі нейкі стары жабрак, пастукваючы мыліцамі, пачаў праштурхацца наперад, тыкаючы пад нос кленчыўшым багамольцам сваю жабрачую місачку, прыёр грозна зморшчыў лоб і дзіўна, што яго не аблаяў. Раздражнялі яго і сварлівыя, хоць прыцішаныя размовы манахаў, якія разам з манастырскімі хлапчукамі, апранутымі па-бернардынску, прыбіралі вялікі алтар кветкамі і дыванамі. Здавалася, быў увесь паглынуты ліхаманкавым чаканнем чагосьці, дарэмна спрабуючы ўлавіць гукі стрыманага шэпту.

- Не,- шаптаў Ясінскі, схілены над разгорнутым малітоўнікам.- Казаў мне Тэнгаборскі, сакратар сойма, што сённяшняя сесія будзе сальвавана[5] на заўтра. Трэба яшчэ нарыхтаваць пленіпатэнцыі[6] для дэлегацыі, якая павінна весці перамовы з Бухгольцам, а да таго ж Сіверс ляжыць у ложку пасля ўчарашняга банкету. Астатнія таксама не супраць адпачыць.

Зарэмба, абапёршыся локцямі аб лаўку і затуліўшы твар далонямі, прагна слухаў.

- Я атрымаў спешную пошту з Вільні і павінен цяпер з'ехаць. Вярнуся праз некалькі дзён.

Зазвінелі пранізліва званкі, раздаліся працяглыя ўздыхі, і ўсе нахіліліся да зямлі. Пачаўся вынас дароў.

Ясінскі апусціўся на калена, падсоўваючы адначасова Зарэмбу нейкі шэры сакстэрн[7].

- "Выбраныя месцы з сачыненняў кітайскага філосафа Гуда", - шапнуў ён ледзь чутно.

Толькі, калі сціхлі званкі, а арган працягваў далей сваю ўрачыстую малітву, Ясінскі, падсунуўшыся яшчэ бліжэй, прашаптаў:

- Гэта наш канспірацыйны катэхізіс. У анексе[8] знойдзеш ключ да яго разумення і план расскватаравання расейскіх войскаў у ваколіцах Гародні. Завучы іх на памяць і знішчы. Шпікоў поўна на кожным кроку, невядома ўжо, каму верыць. Будзь пільным. Залянтаў[8] пазбягай, за імі заўсёды

* Пераклад Станіслава Судніка паводле Wladyslaw St. Reymont. Rok 1794. Ostatni sejm Rzeczypospolitej. Wydawnictwo Literackie. Krakow, 1953 г.

[1] Карнэт (з франц.) - жаночы каптур.

[2] Чолка - прыгожая павязка на галаве.

[3] Капота - верхняя вопратка, кафтан, паліто.

[4] Паспольства - тут просты гарадскі люд.

[5] Сальваваць (з лац.) - адтэрміноўваць, адкладваць.

[6] Пленіпатэнцыі - паўнамоцныя граматы.

[7] Сакстэрн (з лац.) - сшытак.

[8] Залянты - энтузіясты, тут - дэпутаты з апазіцыі.

ходзіць пільнае вока. Крывавусты Скаржынскі пад клапатлівай аховай, не можа кроку зрабіць без анёла-ахоўніка. Выдавай з сябе гуляку, лавеласа і з такімі толькі май зносіны. Перш, чым падасі супліку[1], засведчы павагу Машынскаму; ён лічыўся калісьці памочнікам камандзіра юнкераў і гэтулькі гадоў аб'ядаў нас, можа быць, не адмовіць табе ў пратэкцыі.

- Я думаў, што трэба раней пастукацца да Ажароўскага, але ён, кажуць, паехаў у Пецярбург.

- Байда! Не было яго ўчора на балі, але сядзіць у Гародні. Паехаў гетман Касакоўскі. Папярэджваю, аднак, што Ажароўскі ахвотна пускае туман у вочы абяцаннямі, але выконвае іх толькі па загадзе жонкі ці Сіверса.

- А які вынік мелі клопаты Гаўмана[2]?

- Паступае да Дзялынскага з намінацыяй у палкоўнікі. Некалькі дзён назад у сойме сам кароль уносіў за яго гарачую інстанцыю[3], а Гаслаўскі з Сандаміра перад усёй палатай усхваляў яго вернасць Айчыне і мужнасць.

- Я бачыў, як ён спраўляўся пад Заслаўлем[4]. Я быў разам з маёй батарэяй пры палку Мальчэўскага, у якім ён быў у той час падпалкоўнікам. Бачыў яго і пад Зяленцамі[5].

- Ты прайшоў усю кампанію?

Зарэмба адшмаргнуў лацкан, з-пад якога бліснуў крыж "Virtuti military", і прагаварыў:

- Я атрымаў яго пад Дубенкай, разам з чынам паручніка.

- Не свяці ім! - адхіснуўся гнеўна Ясінскі. - Хіба ты не ведаеш, што саноўнікі забаранілі насіць адзнакі, атрыманыя ў гэтай вайне?

- Я думаў, што такіх санцітаў[6] ніхто не паслухае.

- Вядома, - калі б імператрыца не загадала сілай зрываць іх з кожнага, хто адважыцца паказацца з імі на людзях. Многія ўжо жорстка паплаціліся.

Зарэмба з цяжкім пачуццём адшпіліў крыж і схаваў у кішэню.

- Ты павінен імкнуцца не звяртаць на сябе ўвагі, - дадаў з націскам Ясінскі. - Так, Гаўману ўдалося, удасца, можа быць, яшчэ некалькім, якія маюць пратэкцыю, але застануцца сотні з распушчаных брыгад, якія не жадаюць служыць ворагу, а Рэчы Паспалітыя не могуць. Гэтых нам трэба прыцягваць.

- Я ўпэўнены, што на заклік начальніка з'явяцца ўсе, хто застаўся верным Айчыне. Горш з гемайнамі: тысячы іх сноўдаюцца па дарогах, выпрошваючы міласціну.

- Якія вы наконт іх маеце планы?

- Маю збіраць, каго ўдасца, і адпраўляць у полк Вадзіцкага[7] і за аўстрыйскую мяжу, а астатнія расквартаруюцца па дварах і ў Варшаве. Тут мне даручана зрабіць зборны пункт; у такім людным горадзе лягчэй схаваць працу і стасавацца з іншымі.

- Спяшайся, аднак, са сваімі захадамі. За Нёманом, пад Тызенгаўзаўскай карчмой[8], кожны дзень трашчаць барабаны, ільецца гарэлка, і вярбоўнікі адкрыта робяць сваю справу. Учора я бачыў нават, як са сто мужыкоў казакі гналі ў свой лагер. Аж страшна было глядзець. Казалі мне, што вярбуюць і для прускага караля. Гародня стала кірмашом жаўнерскага мяса[9]: купляе, хто жадае, і вывозіць, нібыы адкормленых бараноў.

- Хто вярбуе ў забраных ваяводствах?

- Копець і Вышкоўскі[10]. Хутка ўбачыш іх тут. Як з імі камунікаваць, ведае Гросмані[11] ў Вільні. Ёсць у цябе хто-небудзь здольны для вярбоўкі?

- Прыехаў капітан Качаноўскі. Спіць цяпер

---

[1] Супліка - прашэнне.

[2] Гаўман Філіп Вацлаў (пам. у 1829) - пратажэ караля Станіслава Аўгуста, палкоўнік, адзначаны крыжам "Virtuti military" за кампанію 1792 г.; забраны са сваім аддзелам у расійскае войска, адмовіўся паступіць на службу царыцы, стараўся быць прынятым у іншы польскі аддзел, дзякуючы заступніцтву караля быў прызначаны камандзірам X палка пяхоты пад шэфствам Ігнацыя Дзялынскага. Звязаны са Станіславам Аўгустам, праз пэўны час вагання ўзяў удзел у паўстанні.

[3] Інстанцыя (з лац.) - просьба.

[4] ... пад Заслаўем... - памылка Рэйманта. Бітва пад Заслаўем мела месца не ва ўкраінскай кампаніі, а ў літоўскай.

[5] ... пад Зяленцамі... - месца пераможнага бою, праведзенага 18 чэрвеня 1792 г. польскім войскам супраць расійскага войска.

[6] Санціт (з лац.) - ухвала, прыгавор канфедэрацыі.

[7] ... адпраўляць у полк Вадзіцкага... - у Кракаўскае ваяводства.

[8] Тызенгаўзаўская карчма - Антоні Тызенгаўз (1733 - 1785), падскарбі надворны літоўскі, стараста гарадзенскі, кіраўнік эканоміі на Літве, заснавальнік многіх мануфактур у каралеўскіх добрах. Шырокая дзейнасць Тызенгаўза закончылася банкруцтвам.

[9] Гародня стала кірмашом жаўнерскага мяса... - скарачэнне войскаў прыцягнула ў Польшчу шмат вярбоўшчыкаў; акрамя расейскіх і прускіх былі таксама і англійскія

[10] Копець і Вышкоўскі - афіцэры, уцяклі з польскай дывізіі, захопленай расейцамі на Украіне.

[11] Гросмані Пётр - каралеўскі шамбялян, чалец радыкальнага крыла краёвай змовы.

у мяне на кватэры.

- Ведаю яго, добры ваяка, умее біцца і ведае, дзе ракі зімуюць. Замаўляе зубы і мякка сцеле, не горш, чым сам князь "Пане Каханку" [1]. Толькі цулагі[2] давай яму не занадта шчодра, гулец ён рызыкоўны і гуляка.

- Мне сказана, каб я даваў яму пад распіску і па рахунку на кожнага чалавека і каня.

- Ён і чорта здолее вакол пальца абкруціць. Сапраўдны міроўшчык[3], гуляка, валацуга, карцёжнік, але і шчырая жаўнерская душа. Перадай яму ад мяне прывітанне. Але, ці не пазнаёміўся ты на балі з князем Цыцыянавым?

- Першы раз чую пра такога.

- Увесь час суправаджаў прыгажуню шамбяляншу.

- Нізкі, рабы і як бы з выцвілымі вачыма? Памятаю.

- Табе трэба з ім пазнаёміцца. Ён амаль дамашні чалавек у шамбяляншы.

- Нага мая ніколі да яе не ступіць, - з жарам выпаліў Зарэмба.

- Гэта неабходна для справы! - пачуў ён строгі голас.

Роспач бліснула ў яго вачах, але праз хвілю, ён мужна прамовіў:

- Слухаюся загаду.

- План дзеянняў атрымаеш потым. Думаю, што пры садзейнічанні шамбеляншы ты ўвойдзеш з ім нават у блізкія адносіны. Яна твая кузіна?

- І даўняя нарачоная, - выдушыў з сябе Север, нібы згустак засмаглай крыві з раны.

Ясінскі зразумеў яго цяжкую сітуацыю, аднак не ўступіў.

- Тым хутчэй ты прыйдзеш з ёй да паразумення. Ты ў яе на добрым рахунку. Я чуў учора, як яна жалілася на цябе Войну.

- Война з намі? - паспрабаваў перапыніць непрыемную тэму Зарэмба.

- Пакуль яшчэ не. Паспрабуй яго раскусіць і прывабіць. Гэта чалавек на многае здатны

- Для распускання плётак і шмярмелі[4]! - зласліва буркнула Север.

- Нам не даводзіцца грэбаваць і гэтай зброяй. Куслівы язык пранікае далей, чым куля. Мне пара ўжо сыходзіць. Калі-небудзь адвячоркам паспрабую патрапіць да цябе на кватэру, пагаворым тады больш падрабязна. Тут небяспечна!

Ясінскі пакасіўся на нейкага суб'екта ў чорнай капоце, які, здавалася, стрыг вушамі.

- Ты прама з Парыжа? - прашаптаў ён яшчэ цішэй.

- Заязджаў толькі ў Лейпцыг і Дрэздан.

- Што, рэвалюцыя сапраўды так страшная, як пра яе пішуць?

- Як усякая адплата, помста і забойства. Але ў той жа час як - непазбежнасць.

- І ты думаеш..., - Ясінскі прыціх, зважаючы на настаўленыя вушы.

- Што і ў Польшчы сякеры ката павінна быць нямала працы.

- Здасі мне потым абшырную рэляцыю. - Ясінскі ўстаў, каб сыходзіць. - Але, калі да цябе з'явіцца хтосьці і пакажа знак, - пастаўся да яго з даверам. Ён у курсе нашых пошт і стасункаў з камандамі. Не забудзься пра Цыцыянава!

Зарэмба сядзеў, усё яшчэ агаломшаны дзіўным загадам.

"Загаду трэба падпарадкоўвацца! - вырашыў ён нарэшце проста, па-жаўнерску. Адчуў адразу глыбокае аблягчэнне, пад якім хавалася ціхая, утоеная радасць. - Гэта той, пра якога пляткарылі тыя дамы! Амаль хатні чалавек у яе! Сябар сэрца! - разважаў ён, але ўжо нахмурыўшы лоб і з джалам у грудзях. - І мне загадваюць пазнаёміцца з ім. Ну што ж! Буду рады знаёмству! Можа быць яму чым-небудзь услужу! Хай так", - працягваў ён разважаць, снуючы нейкія смутныя планы помсты.

І за гэтымі разважаннямі не заўважыў, як закончылася імша. Ачомаўся, толькі, калі змоўк арган і падняўся шум расстаўляных перад вялікім алтаром крэслаў. Чуваць было, як пад'язджаюць да ганка касцёла экіпажы і шум шаўковых сукенак па касцёле. Ліўрэйныя лакеі, адганяючы натоўп паспольства, пакрывалі кілімкамі лаўкі, неслі падушкі, шалі і малітоўнікі. Нейкія выстраеныя дамы і спадары займалі месцы ў прэзбітэрыюме, на крэслах, расстаўленых паўколам, нібы ў тэатры. Блішчалі ларнеты, частаваліся табакай і цукеркамі, водар парфумы расплываўся, нібы з трыбуляраў[5]. Нейкі чарнявы прыгожы манах, свяціў сваімі белымі зубамі, падстаўляючы дамам крапільніцу і пабразгваючы скарбонкайі. У касцёле стваралася асамблея, поўная французскага шчэбету і стрыманых, прыхаваных за веерамі, усмешак. Трохі прыцíхлі, калі біскуп Скаршэўскі выйшаў служыць

[1] Князь "Пане Каханку"- Кароль Радзівіл (1724 - 1790), ваявода віленскі, тып сармацкага магната, вэрхал і авантурнік, зацяты абаронца феадальнага парадку.

[2] Цулаг (з ням.) - дадатак.

[3] Міроўшчыкі - са слыннага палка кароннай коннай гвардыі (назва ад генерала Вільгельма Мера).

[4] Шмярмель (з ням.) - штучны агонь; у пераносным сэнсе - гучная фраза.

[5] Трыбуляр (з лац.) - касцельная кадзільніца.

імшу. Лёгкія слоўцы, аднак, не перасталі пырхаць у паветры, і не загаслі зазыўныя погляды падведзеных вачэй. Ліўрэйныя лакеі, стоўпіўшыся каля вялікіх дзвярэй, таксама дазвалялі сабе адпускаць непрыстойныя заўвагі на адрас жабракоў, якія запаўнялі дзядзінец, і перакідваліся такімі жартачкамі, што раз-пораз якое-небудзь моцнае слоўца далятала да сацыеты, якая малілася каля алтара.

Зарэмба, знайшоўшы зручную хвіліну, устаў са сваёй лаўкі і пайшоў праз кляштар, але ў першай жа галярэі яго чакаў прыёр і амаль гвалтам зацягнуў да сябе ў келлю.

- На адну хвілінку, на адны пацеры, залаты мой анёл, - угаворваў ён Зарэмбу, абдымаючы за стан. - Сядайце, вашмосць! Юзаф, падай фатэль! Ну што ж вы вырашылі?

Але Зарэмба не мог адказаць ні слова, бо ў прасторнай скляпеністай келлі падняўся нечуваны крык, піск і трапятанне крыламі. Успудзіліся цэлыя чароды канарэек, драздоў, берасцянак і жаваранкаў, запырхалі над галавой плябана з радасным шчэбетам сядаліся яму на галаву, на плечы, усюды, дзе толькі маглі ўчапіцца.

- Ціха, галота! Ціха! - прыкрыкнуў плябан, адмахваючыся чырвонай хусткай, чым выклікаў яшчэ большы вэрхал. - Чаго толькі не нацерпішся з гэтай шушамеццю, плодзіцца так, што Божа ратуй! - жаліўся ён, выціраючы потны, тлусты твар. - Замоўкнуць, жэўжыкі! Супакой іх там! - звярнуўся ён да таўсташчокага "браткі".

У пакоі раздалося злавеснае карканне, так удала падробленае, што аж Зарэмба азірнуўся, а птушкі нібы пад зямлю праваліліся.

- Во даў ім бобу! - зарагатаў прыёр, апускаючыся ў глыбокае крэсла перад дыміўшай міскай, напоўненай піўной поліўкай, густа забеленай. - А не вып'еш, вашмосць, кавы? А, можа, па-жаўнерску - кілішак і віндлінкі? Калі ласка, анёл ты мой залаты! З ласкі Божай маю яшчэ сякія-такія прыпасікі. Юзаф, збегай да буфетчыка, разява, мігам... Праўда, сёння пятніца...

- Дзякуй, але таварышы чакаюць мяне са сняданкам.

- Храпуць яшчэ, так што на вуліцы чуваць, - уставіў манашак, хаваючы твар за прыёра.

- Імосця Гласку я даўно ведаю. Пахвальны, як быццам, знешне. Толькі бязбожнік вялікі і на дзявоцкі гонар ласы, як кот на скваркі. Не маю вока...

- Сябар Празора[1] і чалавек, усёй душой адданы Айчыне...

- Праўда, так і аддае ад яго нейкай сенатарскай важнасцю. Праўда. Ці не трэба вам там чаго-небудзь на кватэры? Загадаю выдаць, каб вы не жаліліся на бернардынаў, што, маўляў, вас галадаць прымусілі. Гм! Даверany пана абознага! - мармытаў ён, гучна сёрбаючы з міскі і косячыся на дразда, які ўскочыў на стол, і, падкрадаючыся, цэліў дзюбай на кавалачак сыру, што плаваў у поліўцы. - Калі ж пачнецца?.. Ах ты, жэўжык! - прыкрыкнуў ён на птушку, якая ўцякала з сырам у дзюбе, і пагразіў ёй лыжкай.

- Гэта ведае толькі Рада, - ціха адказаў Зарэмба, паглядаючы недаверліва на "братку", прыцмокваўшага пахаваўшымся птушкам.

- Чаго тарашчыш вочы, нібы кот на гарачым попеле? - крыкнуў на яго прыёр. - Прынясі вады птушкам!

Калі ж "братка" выйшаў, ён прагаварыў:

- Гэта ў мяне чалавек верны. Хоць бяспечней пра такія планы не казаць і пры самых надзейных. Не буду ў вашмосці выпытваць. Мая служба Айчыне ў тым, каб слухаць і рабіць тое, што мне загадаюць. Хачу табе зараз, анёл мой залаты, даць чалавека, які, па маім разуменні, можа прыдасца. З выгляду нічога асаблівага - звычайны бернардын, але на справе чалавек-золата. Галава светлая, ведае мовы, у ваеннай справе таксама толк разумее. А ахвотны і здольны на ўсякую справу. Праўда, любіць іншы раз пацягнуць з графінчыка, але пры ўсім тым зусім не гультаяваты ні да працы, ні да службы божай.

- А ці ўмее захоўваць, што трэба, у таямніцы?

- Галаву стаўлю за яго.

- Калі так, я буду рады з ім пазнаёміцца.

- Юзаф!.. Сапраўдная пярліна!.. Дзе ж гэты раззява? Юзаф!

Убег перапуджаны манашак і пакорліва стаў за крэслам прыёра.

- Дзе ты валэндаўся? Пакліч айца Серафіна.

"Братка" па дарозе гарэзліва дунуў некалькі разоў у клеткі, расстаўленыя ўздоўж сцяны на доўгіх сталах. Ізноў падняўся моцны шум і піск.

- Кара божая з гэтымі лактансамі[2]! Усё ім жарты ў галаве, а да працы і малітоўніка палкай не загоніш, - прагаварыў прыёр і, насыпаўшы на стол доўгую грэбельку з зерняў і хлебных крошак, засвістаў працягла.

Птушкі ціха спусціліся на край стала, лунаючы ў паветры і трапечучы крыльцамі.

- Не чапаць! Чакаць! Зважай! - выгукнуў, трохі адсоўваючыся.

[1] Празор Кароль (1750 - 1841) - абозны вялікі літоўскі, прыхільнік Канстытуцыі 3-га траўня, арганізатар краёвай змовы сярод літоўскай і валынскай шляхты. У час касцюшкаўскага паўстання найвышэйшы ўпаўнаважаны на Літве.

[2] Лактанс (з лац.) - сысунок.

Птушкі цiснулiся адна да другой, утвараючы шарэнгi, усе дзюбы падняліся як-бы для атакі.

- Наперад! Крокам! Крокам! Стой! Цэлься! Плі! - прагрымела каманда, па якой уся чарада кінулася на зерне ў стройным парадку і прынялася заўзята малаціць.

Прыёр аж тросся ад смеху, выціраў потны твар і, абходзячы стол, гладзіў па крылцах, цалаваў і лашчыў некаторых птушак, не перастаючы ні на хвіліну бурчэць, дакараць і пагражаць хустачкай.

- Не спяшацца, браткі, не спяшацца! Ежа не ўцячэ! А то ўдавішся, хаме, што тады? Ізноў цябе буду лячыць? Пан Драздоўскі, не цісні іншых, а то атрымаеш па шкуры! А ты што, панна Жаваронка? Ці матуля цябе пабіла? Што ты такая асавелая? Пачакай, дам табе асобна! Дружна, мілыя братачкі! Пані Берасцянская, дабрадзейка, няма чаго там рабронамі займацца! Ах ты, жэўжык! - прыкрыкнуў ізноў на дразда. - Сыр у мяне з’еў, дык іншых не аб'ядай! Божа, якія гэтыя жэўжыкі ласуны, нязгодныя, прагныя! Зусім, што твае людцы! Анёле ты мой залаты, - павярнуўся ён да Зарэмбы, - толькі ты з мяне не смейся.

- Дзіўлюся толькі дысцыпліне гэтай чарады. Не мала тут працы пакладзена. А што да айца Серафіна, дык ці нельга яго зрабіць зборшчыкам грошай?

- Хоць сёння, анёле ты мой залаты.

- Але, каб ён мог свабодна вандраваць па ўсім краі...

- Цудоўная думка! У самы раз для яго такая праца. Пра пярмісію[1] я пастараюся ў правінцыяла, а пакуль што бяры яго, вашмосць, як майго чалавека. Нагадваю толькі, што гэта не просты брус[2] бернардынскі.

- А адкуль ён, ці не з лапцёжнікаў?

- Шмат пра гэта можна гаварыць! Парэкамендую зазірнуць яшчэ ў касцёл, таму што біскуп, пэўна, канчае ўжо імшу. In saecula saeculorum. Amen![3] - кінуў ён машынальна ў адказ на рыпанне адчыняных дзвярэй. - А вось і айцец Серафін! А цяпер: Зважай! У гнёзды, браточкі! Марш! - закамандаваў ён, размахваючы хусткай, і ў міг ўся крылатая брацiя разляцелася па клетках.

- Юзаф, глянь, як перапэцкалі стол шэльмы, Божа, ратуй!

- Хто гадуе птушак для асалоды, той павінен ведаць іх прыроду, - прагаварыў нягучна айцец Серафін.

- Анёл ты мой залаты, кожны блазан у сваім строі! - адказаў маркотна прыёр.

Зарэмба з цікаўнасцю глядзеў на пакорлівы твар манаха і пасля сыходу плябана падышоў да яго з працягнутай рукой.

- Ксёндз-прыёр вельмі рэкамендаваў мне вас, ойча.

- Я ўжо ведаю, у чым справа. Даўно мне хочацца глынуць свежага паветра! Ахвотна пайду пад каманду, - прагаварыў ён хутка, паднімаючы на Зарэмбу блакітныя, пранiклiвыя вочы.

Ён быў жудасна худы, і мог мець гадоў пяцьдзесят або трыццаць. Хадзіў згорблены, і хабіт вісеў на ім, як на вешалцы. Галава ў яго была кароткая, вуглаватая, аброслая жоўтымі шчацiнiстымі валасамі, лоб высокі, дзіўна белы, вялікі нос драпежна скрыўлены, рот ад вуха да вуха, ніжняя сківаца выдавалася наперад, і ўвесь твар быў густа спярэшчана карычневым рабацiннем.

- Зазірніце, ойча, да мяне на кватэру, там паговорым.

У адказ манах паказаў пярсцёнак і прашаптаў умоўныя словы.

- Як я рады, брат і таварыш! - прагаварыў Зарэмба, горача абдымаючы яго.

- Іхмосць Солтан быў маім хрышчоным бацькам...

- Прыёр ведае пра гэта?

- Я яму не дакладваў, - шкада бальзаму на капусту і ружавага алею на боты, - адказаў манах шматзначна.

- Добры ён чалавек і вельмі адданы справе.

- Хто чый хлеб есць, той таго і песні спявае. Праўяду пана.

- Што за casus[4], што вы прысядаеце на адну нагу, ойча!

- Гэта пасля дыбы прыемныя сувеніры[5]! - усміхнуўся манах, бліснуўшы зубамі.

Зарэмба паглядзеў на яго з недаверам.

- Калі-небудзь распавяду і пра гэта, - буркнуў той, выпраўджваючы яго ў калідор.

Некаторы час ішлі моўчкі. Зарэмба аглядаў яго з цікаўнасцю.

- Такім чынам, чакаю вас, ойча, сёння да вячэры. Будзе нам зручней.

- Дзякуй за грузды, у мяне дома рыжыкаў шмат. Прыйду, калі выдасца час.

Ён пацягнуў носам і павярнуў у трапезную на агульную трапезу, на снеданне.

- Які цудоўны чалавек, - прамармытаў Север яму ўслед і, вярнуўшыся да сваіх думак у сувязі з

[1] Пярмісія (з лац.) - дазвол.

[2] Брус - чалавек нязграбны, неачэсаны.

[3] In saecula saeculorum. Amen! (лац.) - Па векі вякоў! Аман!

[4] Casus (лац.) - выпадак.

[5] Сувенір (з франц.) - успамін.

даручэннем Ясінскага, павярнуў налева, у манастырскі сад, размешчаны на краі ўзгорка, які стромка спускаўся да Нёмана.

Дзень быў гарачы, і сонца ўжо прыпякала, хоць не было яшчэ дзевяці, неба вісела без адзінай хмаркі, чысты яго блакіт адліваў, нібы атласнае покрыва, ластаўкі пырхалі з пранізлівым ціўкатам.

Север з асалодай нырнуў у цень, бо сад быў стары і разложысты; над бляклай травой шарэлі шэрагі шурпатых, патрэсканых ствалоў, рэзка вылучаліся жоўтыя затокі дзьмухаўцоў і гралі асляпляльныя блікі сонца. Пад галінамі веяла прахалодай і панавала трапяткая цішыня; аддаленыя гукі аргана пераліваліся ў салодкую мелодыю пчол і казурак, гуўшых без стомы. Час ад часу з Нёмана даносіліся працяглыя вокрыкі плытнікаў ці чыя-небудзь злосная лаянка.

Сігнатурка таксама раз-пораз давала знаць, што робіцца ў касцёле, калі-нікалі радасныя і гучныя галасы званоў плылі з боку горада з такой моцай, што вераб'іная брацця з гучным шолахам пырхала з вішань і ўцякала на дахі.

Зарэмба, праблудзіўшы трохі па зарослых сцежках, набрыў нарэшце на шырокую дарогу, якая вяла па грэбні ўзгорка да кляштарных пабудоў. Стрэхі кляштара былі з ёй на адным узроўні. Вуліца была высыпана жоўтым пяском і абсаджана чатырохрадовым плоцікам нізка падстрыжаных самшытаў, з-за якіх выглядалі буйныя кветкі: вяргіні звешвалі цяжкія, вострапялёсткавыя, рознакаляровыя галоўкі, какетліва глядзелі стройныя мальвы, пахлі ружы і ляўконіі, макі выбухалі беласнежнымі кветкамі, і нізка, нібы палахліва, хіліліся настурцыі і кіпцікі. Прысадзістыя, купчастыя дрэвы слалі працятыя сонцам цені на жвір вуліцы; там і сям цяжкія галіны, абсыпаныя румянымі ўжо яблыкамі, заступалі дарогу, нібы працягнутыя з пачастункам рукі, ці спелыя вішні вабілі вока і вусны, але Зарэмба, сляпы да ўсяго, укладаў у сабе сцэну першага спаткання. Ужо ўяўляў сабе, які ён будзе з Ізай халодны, стрыманы і няўступчывы.

"Так, нічога, акрамя абавязковай ветлівасці! І ніводнага намёку на мінулае. Хай усё гэта будзе пахавана ў памяці!" - строга камандаваў ён сабе.

Але момантамі ён лаяў Ясінскага ці, як Пілат, мыў рукі, звальваючы ўсю віну на яго.

"Ніколі б я да яе не пайшоў, ніколі!" - апраўдваў ён сам сябе.

І так блукаў нейкі час, перамяраючы вуліцу з канца ў канец, пакуль не наткнуўся на нейкага манаха, які з'явіўся невядома адкуль і ішоў павольненька, мацаючы кійком дарогу. Здавалася, што ён быў спрадвечным; ад яго патыхала магілай, вочы меў пакрытыя бяльмом, твар амшалы, нібы ў трупа. Прыпыняўся праз кожныя некалькі крокаў, дакранаўся сухімі пальцамі да кветак і, усміхаючыся запалым ротам, плёўся далей сярод пышнага багацця сонца і прыроды, нібы заблудная шэрая здань. Быў ён, відаць, глухі, бо на прывітанне не адказаў і спыніўся толькі там, дзе ў прамежку паміж дрэвамі адкрываўся шырокі від.

- Вельмі цудоўна! - прашамкаў ён, пацягваючы носам.- Вельмі цудоўна! Хвала ж табе ў вышніх, Божа!

І глядзеў на свет, які памятаў з даўніх яшчэ, верагодна, часоў, як пасля сну, вечна жывы і вечна любімы.

Сапраўды было цудоўна. Нёман зіхацеў унізе шыза-серабрыстай стужкай і віўся сярод высокіх берагоў. А за ім, трохі справа, узвышаліся званіцы і сцены францішканскага кляштара, аточаныя вянком садоў і шэрых нізенькіх дамкоў. Шырокая стужка пясчанай дарогі паднімалася ад Нёмана на ўзгорак, абмінала кляштар, звілістa цягнулася сярод пашарэлых палёў, вёсачак, пахаваных у шатах дрэў, і прападала ў сцяне чарнеўшых на гарызонце бароў. Від адкрываўся незвычайна шырокі. Дзенідзе кешкаліся людзі, занятыя ўборкай збажыны, паўзлі цяжка нагружаныя вазы, залаціліся копы і слупы пылу віселі над дарогамі.

Зарэмба ўважліва агледзеў увесь бачны край і раптам скіраваў падзорную трубу на зараснікі, размешчаныя направа ад манастыра, а таксама над самым краем стромкага берага, дзе бялелі шматлікія намёты і грэліся на сонца тушы гармат.

“Шэсць штук - цэлая батарэя на насыпе і нацэлена прама на замак. Пэўна, дванаццаціфунтоўкі, - могуць знесці яго дашчэнту! За намётамі шанцы. І казацкія відэты[1] на беразе. Берагі добра ахоўваюцца. Гэта не жарты! - разважаў ён, хаваючы трубу. - Не час думаць пра амуры”, - прашаптаў ён строга, хутка накіроўваючыся дахаты.

Кватараваў ён у кляштарных пабудовах, адздзеленых ад саду моцнай сцяной, у доме, павернутым фасадам на вулачку, якая вяла да рынка. Займаў і ім два цесныя пакойчыкі, падзеленыя сенечкамі і нейкую клетку з выхадам у двор, у якой гняздзіўся Кацпер разам з кухняй.

Увесь дом, доўгі, нейкі нязграбны, поўны закуткаў, быў страшнай развалінай, прагнілай ад вільгаці, з аблупленай тынкоўкай, з выбітымі шыбамі і дахам, як рэшата. Яму загадана было там пасяліцца, бо дом быў размешчаны ўбаку і адтуль лягчэй было трапіць да Нёмана.

- Што, усё яшчэ спяць? - спытаў ён Кацпера,

[1] Відэты, вядэты (з італ.) - пляцоўка, дазор.

які адчыніў яму дзверы.

- Не было загаду, дык я і не будзіў, - выцягнуўся Кацпер па-жаўнерску.

- На чым прыехалі?

- Паштовымі. На перакладных, прама з Варшавы.

- Ну, то ім патрэбны адпачынак. А мне апрануцца. А! - выклікнуў ён з падзякай, убачыўшы на ложку прыгатаваныя ўжо бялізну і гарнітур.

Туалетная скрыня стаяла адкрытая на стале пад акном, і Кацпер прыняўся ўжо разводзіць мыла і правіць брытвы.

- Што там у цябе чуваць? - спытаў Зарэмба, распранаючыся.

- Буланчык закульгаў. Загадаў я яго зараз жа, з вечара, перакаваць. Не дапамагло. На шчасце, зазірнуў раніцай на стайню нейкі манах-бернардын. Загадаў бабкі маззю абшмараваць, сказаў, што да заўтра не будзе знаку.

- Агледзь брычкі. У зялёнай штосьці спіцы пастуквалі. Не заўважаў ты?

- Колы рассохліся. Мокнуць ужо ў ставе.

- Што там яшчэ?

Зарэмба накінуў на сябе белы пудэрманталь[1] і ўсеўся перад брытвенным прыборам.

- Мацюсь ізноў напіўся.

- Ужо паспеў? З кім жа гэта ён сумеў?

- Ды, пад вечар тут круціліся нейкія, быццам бы кагосьці пыталі, а псы іх усё абнюхвалі па баках...

- Можа быць, шпікі якія-небудзь?

- Адзін назваўся гандляром коньмі, апрануты нічога, прыстойна, - распавядаў Кацпер нягучна, спрытна мылячы твар камандзіра, - другі выглядаў на жаўнера. Я іх прэч пагнаў, а Мацюсь знюхаўся з імі, і разам пайшлі “Пад Бернардынскую Веху”. Напіўся, як быдла.

- У другі раз атрымае пяцьдзесят гарачых і павандруе дахаты. Яшчэ сп’яну напляце чаго-небудзь непатрэбнага.

- Няма страху. Ён такой натуры, што як падхмялее, дык ужо ні мру-мру; а толькі ўвесь час смяецца, - супакойваў Кацпер, голячы спрытна, як цырульнік.

- Добры хлопец, і вельмі шкада, што так любіць выпіць.

Кацпер, справіўшыся з тварам пана, накінуў на Севера ядвабны, вішнёвага колеру халат, багата ператканы золатам і падшыты жоўтай матэрыяй, прыбраў стол і, падаўшы ранішнюю каву, сам стаяў убаку, гледзячы на пана вернымі, адданымі вачамі. Хлопец быў высокі, прыгожы; зялёная артылерыйская куртка, толькі без абшлагаў[2], шчыльна абцягвала яго мускулістую постаць.

- Доўга мы будзем тут сядзець? - спытаў ён нерашуча, прысоўваючы гарлачык.

- А куды гэта табе не церпіцца?

- Даўнютка сваіх не бачыў! - уздыхнуў той, паскубваючы падстрыжаныя вусы.

- Знудзіўся, бачу, па эканомскіх бізунах.

- Хто мяне асмеліцца крыўдзіць? Жаўнер я, крыж у мяне аж ад самога князя.

Ён ганарліва выпрастаўся, гонар заблішчаў у яго шэрых вачах.

- Я пісаў ужо бацьку, каб даў табе вольную: але з гэтым яшчэ будзе шмат клопатаў.

- Гэта дакладна, стары пан любіць рабіць насуперак, строгі! Я магу нават выкуп даць, - не прапіў я таго, што мне паны афіцэры пад Зяленцамі панадавалі.

- Не падумай толькі распавядаць пра гэта бацьку! Я ўжо сам паспрабую, каб ты быў вольны.

Кацпер нахіліўся да яго рукі, але Зарэмба не дазволіў яму пацалаваць яе.

- Не пакіну цябе ні ў якой патрэбе, можаш быць спакойны.

- А дазвольце спытаць, пан паручнік, ці не было чаго ў апошнім лісце з дому пра маю маці або пра панну Досю?

- Так я і ведаў! Го-го! Панны Досі табе хочацца! Высока сягаеш!

Кацпер, моцна збянтэжаны, прамармытаў штосьці ні ў пяць, ні ў дзесяць.

- Не круціся, як лішка[3], усё адно след бачны,- засмяяўся Зарэмба, набіваючы люльку. - Ужо досыць даўно я не меў вестак з дому.

- Я мог бы з'ездзіць дазнацца, што ды як, - прагаварыў напаўголасу Кацпер, падаючы агонь. - Я ўжо разлічыў час: праз тыдзеньчык мог бы вярнуцца.

З хваляваннем чакаў ён адказу.

- Мы сюды не на баль прыехалі. Зрэшты, у мяне для цябе ёсць важная праца.

- Слухаю, пан паручнік.

Выцягнуўся ў струнку, хоць сэрца ў яго зашчымела.

- Недзе за Нёманам ёсць карчма, у якой нашых гемайнаў з распушчаных брыгад ловяць, як бараноў. Карчма Тызенгаўзаўскай завецца. Даведайся, ці шмат у Гародні такіх былых шарагоўцаў, дзе збіраюцца і куды іх гоняць вярбоўшчыкі. Не шкадуй пачастункаў.

[1] Пудэрманталь (з ням.) - кафтан, накідка, якая ўжывалася пры прычэсванні і галенні.
[2] Абшлагі - лацканы ў мундзіры, адвароты на рукавах.
[3] Лішка (старапол.) - ліса.

- Яно вядома, сухая лыжка рот дзярэ! Зраблю выгляд, быццам сам хачу паступіць да рускіх на службу.

- Форталь спрытны, толькі як бы цябе і сапраўды не цапнулі ды не пагналі.

- Чорта выкусяць, пся маць, перш чым мяне ім абдурыць удасца.

- Ну і бярыся за гэта адразу!

Высокая жоўтая двухколка, запрэжаная парай ангельскіх жарабцоў, загрукатала пад вокнамі. Кацпер выбег у завулак і вярнуўся з візіткай.

- Навакоўскі. Як жа, прасі, прасі! - выклікнуў Север, іранічным поглядам акідваючы картку, на якой у рамцы з чырвоных завітушак чарнела прозвішча і тры радкі тытулаў.

Праз хвіліну ў пакой убег расфранчаны егамосць у востраканцовым капялюшы і востраканцовым жа рудым фраку, пабразгваючы пячаткамі і ланцужкамі; кінуў капялюш на ложак, кіёк на стол, пальчаткі на падлогу да печкі, шырока раскінуў рукі і сам кінуўся ў абдымкі Зарэмбы.

- Як маешся? Я ледзь цябе адшукаў! Што здарылася з табой на балі?

- Сумна мне стала, як сабаку ў тэатры, і сышоў крыху раней.

- А я гэтага не зрабіў і вельмі шкадую. Война аблупіў мяне да апошняга дуката. Дзіўна і на рэдкасць спрыяла яму Фартуна.

На завостраным твары яго зайграла такая агідная ўсмешка, што Зарэмба адчуў жаданне вышпурнуць яго за дзверы. Але ён заўважыў толькі з грубаватай фамільярнасцю:

- Не гуляй, Войтак, не прайграеш портак!

- То ты, напэўна, не ведаеш апошняй навіны, пра якую гаворыць цяпер уся Гародня?

Зарэмба, хоць не занадта прагны да навін, паглядзеў запытальна.

- Шамбялянша разышлася са сваім "амі"!

- З Цыцыянавым?

Яму насілу ўдалося схаваць уражанне, выкліканае гэтай навіной.

- Так. Ён наладзіў ёй нейкую грубую сцэну, за што прыгажуня, кажуць, пляснула яго па твары веерам. Некалькі чалавек было пры гэтым.

- Пагодзяцца, - сказаў Север напаўголасу, прагнучы пачуць што-небудзь яшчэ.

- Невядома. Для яго гэта не вельмі вялікая абраза, але пані любіць змяняць "сяброў"; а паколькі яна імпэтная і капрызная, то робіць гэта адразу. Ва ўсякім разе, часова адкрыўся *vacat*[1]. Каралеўскі кавалачак!

- Толькі трошкі папахвае дзёгцем, - заўважыў з'едліва Север.

Навакоўскі засмяяўся і, адганяючы надушанай хусткай мух, якія гулі ў яго над галавой, зрабіў важную грымасу і працягваў таямніча:

- Баль аказаўся зусім няўдалым. Занадта шмат камеразаў[2] і непрыемнага асадку. Увесь горад аж тросся ад плётак. Байкі вырастаюць да памераў скандалу.

- А што здарылася? Я нічога не заўважыў, - заявіў Зарэмба са здзіўленнем.

- Натуральна! - шапнуў паблажліва Навакоўскі. - Па-першае, Бухгольц з'ехаў разгневаны проста ад стала, ні з кім не развітваючыся.

- І за што ж рассердавалася яго парцяжная мосць?

- Ніхто не падняў тост за яго караля. І ў гэтым ён меў слушнасць. Я сам раіў, але маршалак асцерагаўся, што пры агульнай анімозіі[3] да прусакоў хто-небудзь раптам запратэстуе непрыстойным чынам. Вось і выйшла непрыемная гісторыя!

- Малая шкода, кароткі жаль! - бавіўся Север напышлівай сур'ёзнасцю прыяцеля.

- Але ўяві сабе, што можа з гэтага выйсці!

- Новая пруская нота яго вялікасці караля. Гэта яшчэ можна вытрымаць!

- Лёгка з усяго рабіць фарс. А я кажу, - хто не мае дастатковых сіл, той не смее пагражаць нават пальцам, - заўважыў ён сентанцыйна. - Я прадбачу, што пасля гэтага стасункі абвострацца яшчэ больш.

- І прусакі за такую ганьбу ўрвуць у нас яшчэ адно лішняе ваяводства.

- Якую-небудзь сатысфакцыю яны з нас возьмуць, гэта ўжо напэўна, - узвысіў голас Навакоўскі, нібы ў сойме. - У нашым становішчы нам трэба не дражніць ворагаў, а прыцягваць да сябе ветлівасцю і дагаджаннем!

Пры гэтых словах ён пстрыкнуў пальцам па залатой табакерцы, узяў панюшку, паднёс яе да носа і зморшчыў твар, каб чыхнуць.

- Я мала разумею ў гэтых матэрыях. Распавядай мне лепш пра бальныя камеразы.

- Добра. - Навакоўскі паглядзеў на яго са шкадаваннем. - Ну, дык вось, пасля гэтага граф Анквіч так пагрызся з Касакоўскім, што ледзь адзін аднаму вочы не павыдзіралі. Біскуп, пэўна, паедзе сёння жаліцца Сіверсу.

- А пры чым тут амбасадар?

Зарэмба быў шчыра здзіўлены.

*(Працяг у наступным нумары.)*

[1] Vacat (лац.) - вакансія, вольнае месца.

[2] Камераз (з франц.) - плётка, непаразуменне.

[3] Анімозія (з лац.) - нежаданне.



***Юліян Фалат. Паляванне ў Нясвіжы. 1891 г.***



***Юліян Фалат. Нагонка звяроў. 1894 г.***



*Дабравешчанская царква ў в. Кунаса Нясвіжскага раёна, сучасны выгляд*